# ПЛЯТОН



# ВЫБРАНЫЯ ДЫЯЛЁГІ

*АБАРОНА САКРАТАСА*
*КРЫТОН ФАЙДОН*



# ПЛЯТОН



# ВЫБРАНЫЯ ДЫЯЛЁГІ

*АБАРОНА САКРАТАСА*
*КРЫТОН ФАЙДОН*



# PLATO

The Apology (The Defense of Socrates),
Crito (Criton), and Phaedo (Phaidon)

In Byelorussian

Translation from Greek text,
Preface
and
Interpretation
by
*John Piatroŭski*

1967

Ґэнэаляґічная табліца Плятона, як далёка ведамая нам*)




*) Паводля др Фр. Юбэрвэга (Dr. Friedr. Ueberweg, **Grundriss der Geschichte der Philosophie,** Бэрлін, 1862-66)

# ПЛЯТОН

Выбраныя дыялёгі

*Абарона Сакратаса*

*Крытон*

*Файдон*

З грэцкага тэксту на беларускую мову пераклаў,
папярэдзіў уводзінамі і агледзіў інтэрпрэтацыяю
ЯН ПЯТРОЎСКІ

**1967**

*Ці варта нам жыць, калі разбурана тое, гаму шкодзіць несправядлівасьць, а справядлівасьць бывае на карысьць? Або думаем мы, што цела болей важным ёсьць, гымся тое ў нас — гым-колегы яно ёсьць — што займаецца справядлівасьцю або несправядлівасьцю?*

Сакратас

*1517*

*ЧАТЫРОХСОТ ПЯЦІДЗЯСЯТЫМ УГОДКАМ*

*БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ*

*ПРЫСЬВЯЧАЕЦЦА*

*1967*

## *ЗЬМЕСТ*

# У ДУХУ САКРАТЫЧНЫМ

## Уводзіны

Тры выбраныя дыялёгі грэцкага філёзафа Плятона ў перакладзе на беларускую мову, пайменна: *Абарона Сакратаса, Крытон* і *Файдон* гэтым падаюцца ветлівай увазе беларускага чытача.

Спадчына вялікага Плятона, якая шчасьліва перахавалася да нашых дзён, выражае сабою дзіўную глыбіню думкі і рэдка спатыканую моўную прыгожасьць у выражэньні яе. Гэтыя і іншыя дыялёгі, напісаныя несьмяротным грэцкім філёзафам, адсланяюць перад чытачом такія паняцьці, як: Дабро, Прыгожасьць, Мужнасьць, Справядлівасьць, Веда, Несьмяротнасьць, Вера ў залежнасьць ад Таго, Хто паслаў чалавека ў гэты сьвет.

Апрача пранікаючага розуму, даходзячага да сутнасьці рэчаў і зьявішчаў, хвалюючых чалавека, у творах Плятона прабіваецца нешта такое, што палоніць чытача, адухаўляе яго і чыніць болей бадзёрым на жыцьцёвым шляху. З другой стараны — і гэта важна для ўсіх шукаючых свабодаў — у Плятона выступаюць жывыя людзі, якія вядуць гутаркі і дыскусыі, бадай што, на ўсе тэмы, якімі можа цікавіцца чалавек кажнае эпохі.

*

Плятон радзіўся каля 431 году перад нашаю эраю ў знатнай сям'і ў Атэнах або на востраве Эґіне, дзе бацька ягоны, Арыстон, меў зямельную ўласнасьць. Паводля старога пераказу бацька ягоны, які памер, калі Плятон быў дзіцем, род свой выводзіў ад Кодруса, апошняга лягэндарнага караля Атэнаў, а ягоная матка, Пэрыкты-

ёна, ад слаўнага праваўдаўцы, Солёна. Гэта былі старажытныя грэцкія рады, якія выціскалі аграмадны ўплыў у грамадзкім, палітычным і культурным жыцьці тагачасных Атэнаў. Плятон меў двух братоў: Адэімантоса і Гляўкона — пэрсанажы, актыўна выступаючыя ў дыялёгу *Рэспубліка,* (гэтаксама Ґляўкон выступае ў ніжэй прыведзеным Ксэнофонтавым дыялёгу), і адну сястру, Патону, якая сталася пазьней маткаю філёзафа Спэўсыппоса. Існуе гутарка аб тым, што Плятон быў названы імем свайго дзеда, Арыстоклесам, але пазьней, з прычыны, праўдападобна, сваіх шырокіх грудзей (гр. πλατύς — шырокі) атрымаў імя Плятон.

Ягоная адукацыя ў музыцы і гімнастыцы была свомай для тагачаснае моладзі атэнскіх перадавых сем'яў пад даглядам найболей кваліфікаваных пэдаґоґаў. Адносна ягонага філязафічнага ўзгадаваньня, гаворыць ягоны доўгалетні вучань, ведамы філёзаф, Арыстотэлес. Ён сьцьвярджае, што ўжо з маладых гадоў Плятон быў абазнаны з навукаю Гэраклітаса і ягоных наступнікаў і, што зь іншых філязафічных плыняў таго часу, узьдзеяньню якіх падданы быў Плятон, на асаблівую ўвагу заслугоўвае тая, прадстаўнікам якой быў Сакратас і школы ў Італіі, зь якіх вырозьнівалася школа ў Кратоне, зарганізаваная самым Піташорасам навукоўцам і містыкам, і іншая школа, пакліканая да жыцьця Пармэнідэсам, вучням Ксэнофанэса.

Веда Плятона была шырокага і ўсестаронняга засягу. Ён займеў і разьвіў глыбокі ўгляд ува ўсе рады навукі і мастацтва. Матэматыка, фізыка і астраномія, палітыка, этыка і эстэтыка, паэзыя, малярства і разьбярства і музыка — гэта галіны веды, зглыбленьню якіх ён прысьвяціў сваё жыцьцё і свой выняткавы талент. Ён аставаўся палымяным і адданым староньнікам свайго вучыцеля, Сакратаса, зь якім прабываў у духоваў супольнасьці ад часу сваіх юнацкіх гадоў і да сьмерці апошняга ў 399 годзе п.н.э. Астаючыся пад глыбокім

уражаньнем перажыванага здарэньня і разгарычаны з прычыны праўнага забойства, у гэтым самым годзе, пакідаючы Атэны, пераехаў ён у Мэґары.

Час адсутнасьці ягонае ў Атэнах прыпадае на ягоныя лічныя падарожжы па Грэцыі, паўдзённай Італіі і Сыцыліі. Адведаў ён гэтаксама Ягіпет і паўночную Афрыку. Імя Плятона вяжацца зь местам Сыракузы ў Італіі, дзе ён у розным часе тры разы быў у адведзінах Дыянізаса I або Старшага, валадара места і ягонага сына, Дыянізаса II, Малодшага, маючы на ўвазе апрычоныя мэты, якія выплывалі зь ягонага філязафічнага перакананьня.

У годзе 387 ці 386 п.н.э., калі Плятон быў у першай палове сваіх саракавых гадоў, ён вярнуўся ў Атэны, дзе ў гэтым часе ў парку недалёка Атэнаў паклікаў да жыцьця першараднага значэньня школу, якая з гэтае пары і праз наступныя стагодзьдзі станецца яшчэ адным важкім і ўплываючым фактарам у хвармаваньні нашае заходня-эўрапэйскае багатае зьместам культуры. Словам "Акадэмія" ў тым часе называўся публічны сад за Атэнамі, прысьвечаны, паводля некаторых дасьледчыкаў, памяці і культу містычнага гэроя Акадэмоса, у якім знаходзіўся гай і будынак, званы *ґімназіон* (ад гр. γιμνός — голы), дзе моладзь зьбіралася на фізычныя практыкаваньні, гутаркі і дыскусыі. Тут Плятон спатыкаўся са сваімі прыхільнікамі, зь якімі вёў гутаркі філязафічнага характару і навучаньне, і ягоная неафіцыяльная школа хутка сталася ведамай, як АКАДЭМІЯ. Была гэта першая акадэмія на сьвеце — першы ўнівэрсытэт. Ад гэтага часу і да нашых дзён у шматлікіх краінах многія вышэйшыя ўстановы навучаньня носяць ганаровае імя акадэміяў. Сам Плятон навучаў у сваей школе каля сарака гадоў, а сама акадэмія разам зь іншымі падобнымі школамі (прыкладам, школа Ісакратаса) праіснавала каля дзевяці стагодзьдзяў, г.зн. да VI стагодзьдзя н.э., калі ў 529 годзе на загад імпэратара Юстыніяна I была закрыта.

*

Творы Плятона прадстаўляюць сабою бясцэнную вартасьць гэтак з пункту гледжаньня духовага, інтэлектуальнага, як і з прычыны свае мастацкае прыгожасьці і ўняцьця глыбіні яму свомага ідэалізму. Гэта быў і астаецца ён, Плятон, уплыў якога на хвармаваньне людзкае думкі трывае ўжо блізу 2.400 гадоў.

Агульна падлічваючы, спадчына ягоная складаецца з дваццаці сямі паасобных твораў, зь якіх *Крытон* мае дваццаць і некалькі бачын і найбольшы з болей як чатырыста бачынамі *Нóмоі (Правы)*. Апрача гэтага перахавалася пад імям Плятона трынаццаць розных лістоў і пэўны лік твораў паэтычнага характару, пісаных у юнацкія гады.

Дыялёгі Плятона маюць тры галоўныя мэты:

I. Ідэалізацыя і замацаваньне прыгожага вобразу свайго вучыцеля і майстры — Сакратаса, якому Плятон заўдзячваў навуку дыялектыкі, каторую Сакратас ужываў у вялікім засягу з мэтаю пашырэньня лягічнае яснасьці і інтэлектуальнае чэснасьці. За выняткам некалькі дыялёгаў, Сакратас выступае ўсюды, як галоўная постаць у адумысным насьвятленьні. Плятон быў захопленым вучням Сакратаса, якога ён гатоў быў слухаць заўсёды, апавядаць кажнаму і мудрасьцю якога ён пераймаўся. У сваім дыялёгу п.т. *Сымпозыён* вуснамі Алькібіядэса Плятон пра свайго вучыцеля і майстру кажа: "... Калі, запраўды, прыслухацца да гутарак Сакратаса, дык спачатку яны могуць выдасца нічым іншым, як глупствамі: яны ахутаны гэткімі словамі і выражэньнямі, што нагадваюць сабою шчаціністага і задзірыстага сатыра. На языку ў яго заўсёды нейкія абцяжаныя барахлом аслы, кавалі, шаўцы і гарбары, і здаецца, што заўсёды гаворыць ён пра адно і тое самае і тымі самымі словамі, і затым кажны недасьведчаны і абмежаваны чалавек будзе сьмяяцца зь ягоных гутарак. Але, калі разгарнуць іх і зазірнуць у сярэдзіну, дык спачатку бачыш, што яны поўныя зьместу, як ніякія іншыя, а

пасьля, што гутаркі гэтыя боскія, што яны тояць у сабе найлепшыя воблікі цноты і закранаюць найглыбейшыя пытаньні, праўдзіва кажучы, пытаньні, якімі належыць займацца кажнаму, хто імкнецца да вышэйшае ступені шляхотнасьці.“

2. Увыпукленьне драматычнага мамэнту практыкі дыскусыйнае, якая няўхільнай зьяўляецца прадумовінай у жыцьці і разьвіцьці прагрэсыўнае супольнасьці. Сакратас перад судам — гэта сваеасаблівы чалавек, які духовым волатам уздымаецца над судзьдзямі і над усімі, хто слухае яго, ён высака ўздымаецца над апініяй сучасьнікаў сваіх, і ў сваім уняцьці зьявішчаў мэтафізычнага сьвету зь неспатыканым дагэтуль супакоем глядзіць у няведамую прышласьць. У гэтай адвечнай драме галоўным удзельнікам ёсьць Сакратас. Гэтае самае мы адчуваем, калі прыслухваемся да гутаркі ў вастрозе паміж ім і Крытонам, і яшчэ болей, калі мы ўваходзім у вязьніцу і стаімося сьведкамі сцэны спакойнага прыняцьця ім паданае атруты! Гэтая драматызацыя дзеі, якую вырысоўвае перад намі Плятон, чыніць творы ягоныя гэткаю літаратураю, якую можна чытаць бадай што кажнага дня.

3. Выяўленьне новых навукаў з галіны веды, этыкі, эстэтыкі і палітыкі. Што ў сваей сутнасьці прадстаўляе сабою навука Плятона? Перадусім трэба адзначыць найболей ясна, што навука Плятона ня мае выпрацаванае схэмы, абыймаючае нейкі пагляд, які мае быць нязьменным для ўсіх людзей і на ўсенькія часы. Тое, што ў ей вялічэзным ёсьць, дык гэта само ПЫТАНЬНЕ, на якое шукаецца адказу. У гэтым заключаецца сама сутнасьць вечна крочучага наперад духовага і інтэлектуальнага жыцьця.

У дыскусыі з Сімміясам і Кэбэсам, узважваючы нязьнішчальнасьць і несьмяротнасьць існасьці чалавека — ягонае душы і, з другой стараны, недасканаласьць досьледу са стараны самога чалавека, Сакратас, адказваючы дыскутантам, казаў:

”. . . я магу дадаць ад сябе, што адносна прынцы-

паў, калі нават яны і выяўляюцца пэўнымі, павінна быць занята вельмі разважнае становішча. Калі яны і выдаюцца дастаткова запэўненымі, тады, у нейкім сэнсе з хілкім даверрам у людзкі розум, вы можаце, я думаю, ісьці паводля доказу. *Бо ў тую самую хвіліну, калі гэта станеца для вас ясным, вы супыніце досьлед.*"

І як вынік, магчыма, гэтага досьледу існуе нешта аснаўное ў ягонай навуцы, што праз усе творы праходзіць колернаю істужкаю і што можна ўняць наступна: Галоўнаю навукаю Платонавае філязофіі ёсьць тэорыя г. зв. першапачаткавых ідэяў. Паводля гэтае канцэпцыі сьвет рэчаў, успрыйманых пры помачы пачуцьцяў, не зьяўляецца сьветам праўдзіва існуючага. Рэчы, пазнаныя пры помачы пачуцьцяў, узьнікаюць, крагаюцца, зьменьваюцца і шчазаюць. Інакш, праўдзівая і рэальная існасьць не зьмяшчаецца ў апрычоным выяўленьні, як сшытак, стол ці чалавек, але ў агульнай ідэі сшытка, стала або чалавека. Апрычоныя або індывідуальныя выяўленьні (аб'екты) зьяўляюцца толькі пераходнымі, паддадзенымі зьнішчэньню падабенствамі нязьнішчальнае і існае хвормы або ідэі. Затым гэтыя незьніштажальныя, нязьменныя і вечныя ідэі знаходзяцца па-за абсягам прасторы, часу і лікаў. Гэта яны зьяўляюцца існасьцю як гэткаю або абсалютнаю, да якое кіруецца кажная лепшая туга чалавека, яны зьяўляюцца аб'ектам вышэйшых лятуценьняў і аспірацыяў чалавека і мэтаю запраўднае веды. Ідэі гэтыя зьяўляюцца гэтаксама хвормамі, спасярод якіх толькі адзіная і запраўдная Існасьць як гэткая — гэта яна, найвышэйшая Ідэя самога Бога, праяўляе самую сябе.

З паняцьцем ідэяў вяжацца рад іншых дактрынаў, як пагляд адносна быцьця, матэматычных вартасьцяў і між імі дактрына г. зв. *анамнэзісу* або пазнаньня ці прыпамінаньня, дзе душа падтрымліваецца ідэяю папярэдняга стану быцьця. Уся навука і практыка зьяўляюцца прыпамінаньнем ідэяў дарогаю накіроўваньня думкі трапна стаўленымі пытаньнямі з увыпукленьнем іхных недасканалых адлюстраваньняў у сьвеце пачуць-

цяў. "Кажны раз, калі спазор аднае рэчы выклікае... думкі іншае, падобнае да першае ці непадобнае, — гэта і ёсьць прыпамінаньне". Згэтуль, напрыклад,, аспэкт штодзеннае справядлівасьці будзіць у чалавеку несьмяротны ўспамін ранейшае візыі справядлівасьці і Справядлівасьці як гэткае, абсалютнае.

"Так, усе людзі згаджаюцца, што ані Бог, ані сама сутнасьць жыцьця, ані несьмяротнасьць наагул, ніколі не шчэзаюць..." "Затым, калі несьмяротнае ёсьць нязьнішчальным, дык і душа, калі яна несьмяротная, павінна быць нязьнішчальнай..." "І, калі да чалавека набліжаеца сьмерць, дык сьмяротная ягоная частка, мусіць, памірае, а несьмяротная адыходзіць цэлаю і непашкоджанаю, ухіляючыся ад сьмерці?..." "Тады няма ніякага сумліву — душа зьяўляецца несьмяротнай і нязьнішчальнай. І, запраўды, душы нашыя будуць існаваць у іншым сьвеце".

Плятонавая спадчына займела аграмадны ўплыў на хварманаваньне нашае культуры, нашых сацыяльных, грамадзкіх і палітычных інстытуцыяў. Гэні Плятона ўплываў на Арыстотэлеса, на стоікаў на Цыцэро, Плютарха і асабліва на думаньнікаў, ведамых пад імем нэоплятоньнікаў. Творы Плятона займелі ўплыў на айцоў хрысьціянскае экклезыі гэтак на Ўсходзе, як і на Захадзе. Пад уплывам Плятонавае думкі хварманаваліся Сярэднія Вякі і будзіўся сьвет да новага жыцьця ў пару рэнэсансу ў Італіі, Англіі і ў іншых краінах, ня выключаючы і нашых земляў праз прагрэсыўную дзейнасьць абдоранага Скарыны.

Досьлед Плятонавых дактрынаў і ўплыў ягонае думкі, асабліва ў сьвеце сучаснае псыхалёгіі, этыкі і эстэтыкі, пашыраецца штораз болей і болей. Ягоны ўплыў гэтаксама выціскаў і сягоньня выціскае сваё знамя ў літаратуры сусьветнага засягу.

*

Кажны раз, калі мы гаворым пра Плятона, мы маем на ўвазе і Сакратаса. Усякі раз, калі запазнаемся з наву-

каю Плятона, мы маем пэўныя асновы ўтоесамліваць гэтую навуку з Сакратасам. Плятон і Сакратас выступаюць непадзельна, яны разам твораць суцэльнасьць. Ніхто на сьвеце зь людзей не зьяўляецца сягоньня ў стане сказаць з поўнаю дакладнасьцю, колькі з таго, што гаворыць Плятон, зьяўляецца ягоным, і колькі з гэтага прыпадае на Сакратаса. Усё, што мы ведаем пра пагляды Сакратаса і ягоныя ідэі, даведваемся пераважна ад ягоных двух вучняў, Плятона і Ксэнофонта.

*

*Філязофія, філёзаф* — скуль выводзяцца гэтыя і падобныя словы і якія значэньні яны маюць?

Нашае слова *філязофія* выводзіца з двух грэцкіх словаў: φιλέω — *люблю* і σοφία — *мудрасьць*, што можа быць перакладзена на беларускую мову як *любоў мудрасьці.*

Слова *філёзаф* (гр. — φιλόσο φος) значыць той, хто любіць мудрасьць або веду.

Першы раз слова гэтае знаходзім у Пітаґораса, які жыў у VI ст. п.н.э. і які называў сябе філёзафам. Але слова гэтае ўжывалася рэдка, а дзеяслоў зь яго меў значэньне блізкае да *разьвіваць розум.*

Гэтакі стан трываў да чацьвертага стагодзьдзя. У гэтым часе паяўляюцца Плятон і Ксэнофонт і слова *філёзаф* ужываюць у шырэйшым засягу. Цяпер слова гэтае азначае чалавек, які шукае праўду або той, хто шукае мудрасьць. Бо мудрасьць, паводля Плятона, праўда, факт, рэчаіснасьць — гэта адно і тое самае, выражанае толькі рознымі словамі.

Якую мудрасьць і якую праўду філёзафы мелі на ўвазе, калі яны шукалі фактаў і зглыблялі рэчаіснасьць?

Яны першыя шукалі адказу на пытаньні: Што такое зямля, на якой яны жывуць? Чым зьяўляецца сонца, месяц і зоры, якія яны назіралі на небе. Што сабою творыць вада, паветра, агонь? Яны стаялі перад загадкаю самога жыцьця. Яны шукалі адказу на пытаньні, зьвязаныя з прысутнасьцю самога чалавека і мэтазгод-

насьці гэтае прысутнасьці. Хто? нашто? і якая мэта? — вось пытаньні, якім яны прысьвячалі свомы ім нахіл да досьледу.

Яны ставілі перад сабою адно з найболей трудных пытаньняў, пытаньне адносна натуры чалавека і прыходзілі да гэтакіх адказаў, якія ператрывалі стагодзьдзі ілюзыі і забабону і сягоньня ня згубілі свае важнасьці.

Выдатнаю групаю перад-сакратычных філёзафаў ёсьць г. зв. Іёнская Школа ў VI ст. п.н.э. Ніхто зь іх ня меў школы і ня быў вучыцелям, але яны агульна ўважаюцца як найранейшыя думаньнікі старажытнае Грэцыі, якія рэпрэзэнтавалі школу, узьніклую на Іёнскім узьбярэжжы Малое Азыі (сягоньняшняя Турэцкая Рэспубліка), у местах Мілетас і Эфэз. Тут знаходзіцца калыска першых ідэяў, думак, новых уяўленьняў і досьледу ў няведамым.

Талес з Мілетасу быў узнаны, як першы з сямі старажытных грэцкіх мудрацоў, і час ягонага жыцьця вызначаецца на шостае стагодзьдзе перад нашаю эраю. Паводля дайшоўшае да нас весткі, Талес, які цікавіўся першапачаткамі нашага сьвету і астраноміяю, прадбачыў, што дня 5 травеня 585 г. п.н.э. адбудзецца зацьменьне сонца, што́ і мела месца. Зь ягонага пісаньня нічога да нас не дайшло. Расказваюць, што адна дзяўчына, хатняя дапаможніца сьмяялася зь яго, бачучы, як ён, будучы заняты назіраньнем неба, не заўважыў, як упаў у калодзісь, які ён ужываў для сваіх назіраньняў. Ён быў перакананым, што *вада* зьяўляецца прынцыповым элемэнтам сусьвету. У сваіх спэкулятыўных разважаньнях ён даходзіў, што ўсе фэнамэнальныя зьявішчы ў натуры прыймаюць розную хворму, але зьяўляюцца аднаго і таго самага фундамэнтальнага рэчыва. І гэтым рэчывам, паводля яго, была вада.

Анаксімандар з Мілетасу вучань Талеса, прадстаўнік гэтаксама Іёнскае школы, радзіўся ў 610 годзе п.н.э. Ён утрымліваў, што першы прынцып, зь якога выявіўся сусьвет, ёсьць нематэрыяльны, неспасьцярожны, ня-

зьнішчальны і называў яго проста *бязьмежны.* З гэтага „бязьмежнага“ ў нясупынным руху субстанцыі ўзьнікаюць супроцьлежнасьці, як цяпло і холад, зямля і паветра, вільгаць і сухасьць, сьвятло і цемра, жыцьцё і сьмерць ... У гэтым працэсе зьнішчэньня і тварэньня ён бачыў свайго роду роўнавагу спасьцярожнага сьвету. „Зямля, — казаў ён, — зьяўляецца нябесным целам і не кантралюецца ніякаю іншаю сілаю, а пазыцыю сваю ўтрымлівае, дзякуючы таму, што яна знаходзіцца на аднолькавай адлегласьці ад усіх іншых рэчаў“.

Вялікім з Мілетасу філёзафам быў Анаксімэнэс (прыблізна 588-524), які вярнуўся да Талесавае тэорыі ў тым сэнсе, што субстанцыя зьяўляецца істотнай у пытаньні і, што *паветра,* а не вада, ёсьць першым прынцыпам сусьвету.

Наступным спасярод Іёнскае школы ёсьць Гэраклітас з Эфэзу. У пошуках гэтаксама аснаўнога элемэнту ў сьвеце, ён прыходзіў да выснаву, што гэтым ёсьць *агонь.* Гэраклітас утрымліваў, што на сьвеце ўсё зьменьваецца (πάντα ρεῖ), што сталасьць зьяўляецца ільлюзыяю. Тое, штó нé зьяўляецца ільлюзыяю — гэта зьмена або права гэтае зьмены, ці Лёґос. Гэтыя зьяўляюцца сталымі. „Усе рэчы зьяўляюцца ў руху“, — казаў Гэраклітас, і адначасна „Усе рэчы — адно“. Чалавек ня можа перайсьці сягоньня тую самую рэчку, якую ён перайшоў учора; бо ў міжчасе чалавек зьмяніўся і зьмянілася рэчка: гэта ўжо іншы чалавек, які пераходзіць іншую раку.

Прадстаўніком Іёнскае школы быў вялікі філёзаф Анаксаґорас з Клязомэны каля Сьмірны, вучань Анаксімэнэса. (Ягоны ўклад у галіну філязофіі, гл. *Інтэрпрэтацыя* да *Абароны Сакратаса).* Анаксаґорас жыў у Атэнах пасьля Пэрскіх войнаў і быў блізкім прыяцелям Пэрыклеса і Эўрыпідэса, але, праўдападобна, праціўнікамі Пэрыклеса быў абвінавачаны ў атэізьме. З гэтае прычыны пасьля блізка трыццаці гадоў жыцьця ў Атэнах ён змушаны быў пакінуць гэтае места і пайсьці ў Лямпсакас на Гэльлеспонце (сягоньняшнія Дарданэль-

лі), дзе ён памер каля 428 г. Анаксаґорас казаў: ”Усе рэчы былі разам; тады прыйшоў Розум (νοῦς) і надаў ім парадак“ . . .

*

Сакратас [1]), грэцкі філёзаф, які, з прычыны свае духовае велічы, не падходзіць у ніякі сьпіс г. зв. вялікіх людзей, радзіўся каля 470 году п.н.э. ў Атэнах. Ягоны бацька Софроніскас, быў скульптурам і маці Фэнарэта— акушэркаю. Ягоная жонка, Ксантыппа абдарыла яго трыма сынамі. Будучы хлапцом, ён атрымаў пачатковую на тыя часы адукацыю ў літаратуры, музыцы і фізычнай культуры. Пазьней правёў самаадукацыю ў рэторыцы, у практыкаванай сафістымі дыялектыцы, запазнаўся з спэкуляцыяй школы іонскіх філёзафаў і з агульнаю культураю тагачасных Атэнаў, што знаходзіліся пад сільным культурным узьдзеяньнем Пэрыклеса — атэнскага гэнэрала, дзяржаўнага мужа і аратара. Спачатку пайшоў Сакратас у працы за сваім бацькам і працаваў якісьці час як скульптар на каменьні. Паводля традыцыі ягонаму мастацтву належала статуя групы трох Ха́рытэс (Ласкаў) або трох Ґрацыяў, якая яшчэ ў II стагодзьдзі н.э. стаяла пры ўваходзе ў Акрополіс. Ён служыў жаўнерам у пяхоце і адзначаўся адвагаю ў бітвах і вытрываласьцю ў паходах. Але большую частку свайго сьведамага жыцьця правёў ён на рынку, на вуліцах, пры лаўках купцоў і мяняльнікаў грошай у Атэнах, вядучы зь людзьмі гутаркі і дыскусыі на розныя тэмы, пераконваючы людзей аб вартасьці жыцьця, абаснованага на вышэйшых прынцыпах. Ён зьвяртаў увагу слухачоў на несьмяротнасьць душы чалавека і заахвочваў людзей да імкненьня ў напрамку разьвіцьця лепшых свомасьцяў яе. Ён вучыў людзей, што паводзіны

---

[1]) Гр. Σωκράτης (Сокра́тэс), лац. — Socrates (Сокра́тэс), анг. Socrates (Со́кратіс), ням. — Sokrates (Сокра́тэс), польск. — Sokrates (Сокра́тэс), рас. — Сократ (Сокра́т).

чалавека павінны базавацца на перасьцераганьні права, што справядлівасьць ёсьць асноваю індывідуальнага як і грамадзкага жыцьця. Вёў ён бескампрамісовае змаганьне з псэўданавуковасьцю і з розным відам нявуцтва.

Ягоны спосаб навучаньня выдаваўся для многіх людзей дзіўным і будзіў часта супраціў і вёў мала па малу да свайго трагічнага канца.

Сакратасавы спосаб навучаньня зьмяшчаўся ў пытаньні і адказе. Замест таго, каб аўтарытатыўна выразіць цьверджаньне, гэты мэтад, дарогаю сэрыі пастаўленых пытаньняў і адказаў, вёў дыскутанта да прызнаньня свае нясьпеласьці. Тыпічным прыкладам гэтага мэтаду можа быць наступная гутарка, якую Сакратас вядзе з маладым чалавекам, Ґляўконам, пераказаную нам Ксэнофонтам:

*

— Я чую, Ґляўкон, што ты вельмі хочаш здабыць становішча ў дзяржаўнай установе?

— Так, прызнаюся, хачу.

— Які цудоўны замер, — сказаў яму Сакратас, — бо, запраўды, трудна сабе ўявіць болей вышэйшую мэту. Бо-ж рэчаю зьяўляецца пэўнаю, што, калі ты асягнеш сваю мэту, мецімеш ня толькі магчымасьць здабыць усё тое, чаго душа зажадае, але гэтаксама першарадную нагоду памагчы прыяцелям. Паставіш у гонар сябе і ўвесь дом свой, узбольшыш славу ў Атэнах — дый ня толькі ў адных Атэнах, але ўва ўсёй Гэльлядзе, і вельмі магчыма, падобна як Тэмістоклес, станешся слаўным гэтаксама і сярод барбараў і ўсюды там, дзе толькі пакажашся, вочы ўсіх людзей будуць скірованыя на цябе.

Слухаючы гэтыя словы, Ґляўкон рос у сваей гордасьці і з прыемнасьцю чакаў працягу гутаркі. Сакратас, аднак-жа, у далейшым ходзе гутаркі паставіў яму гэткае пытаньне:

— Добра. Адно толькі, і я думаю ты згодзішся са мною, што гэтакі гонар не атрымліваецца дарма: яго трэба чым-небудзь заслужыць?

— О, напэўна, — адказаў хутка Ґляўкон.

— На нябёсы! — працягваў Сакратас, — дык ня крыйжа ад мяне замераў, але скажы, з чаго-ж ты пачаў-бы, напрыклад?

І, калі Ґляўкон маўчаў, затрымліваючыся над тым, з чаго пачаць, Сакратас запытаў:

— Ці-ж не з таго, перадусім, што хацеў-бы ты ўчыніць дзяржаву заможнай, гэтаксама, як узбагаціў-бы ты гаспадарку прыяцеля, калі-б хацеў узьняць яе на вышэйшы ўзровень?

— Ведама.

— Ці, затым, станецца дзяржава багацейшаю, калі меціме большыя даходы?

— Напэўна.

— Скажы мне, тады, зь якіх жаролаў атрымлівае дзяржава сягоньня даходы і, прыблізна, як высокімі гэтыя даходы зьяўляюцца? Бо-ж ясным ёсьць, што мусіў ты над гэтым затрымлівацца, каб — у выпадку, калі-б некаторыя з гэтых жаролаў аказаліся мала выдайнымі — ажывіць іх і на месца высахшых знайсьці новыя?

— Скажу табе, Сакратас, папраўдзе, што я ніколі не затрымліваўся над гэтым, — адказаў Ґляўкон.

— Калі ты не займаўся справаю даходаў у дзяржаве, тады скажы мне, Ґляўкон, прынамся, як прадстаўляецца справа выдаткаў, каб мог ты скасаваць тыя, якія выдадуцца табе непатрэбнымі?

— Але-ж, на Зэуса, — адказаў Ґляўкон, — я і над гэтым ня меў яшчэ часу затрымацца!

— Адлажэм, тады, справу абагачэньня дзяржавы, — адказаў Сакратас. — Бо і запраўды, як гэта магчыма, каб хто-небудзь мог цікавіцца справаю ўзьняцьця матэрыяльна дзяржавы, хто ня мае паняцьця ані пра яе даходы, ані расходы?

— Пачакай, Сакратас, — хутка дакінуў Ґляўкон, — няма чаго тут шмат і думаць пра гэта, калі можна ўладзіць скарб на кошт ворага.

— Твая праўда, — адказаў Сакратас. — Пад умовай

аднак-жа, што вораг будзе пераможаны, бо, калі дзяржава будзе пераможана, тады можа яна згубіць яшчэ і тое багацьце, якое мае.

— Гэта праўда.

— Той, хто мае замер весьці вайну, павінен узяць пад увагу, з кім будзе яе весьці, мусіць дакладна падлічыць сілы ўласнага краю і сілы ворага, каб у выпадку, калі-б сілы ўласнага краю аказаліся большымі за сілы ворага, заахвочваў-бы да вайны, а, калі-б аказаліся слабейшымі — раіў-бы за ўсякую цану ўхіляцца ад вайны.

— Разумна ты кажаш.

— Скажы мне, тады, Ґляўкон, ці ведама табе, колькі ў нас наземных сілаў, колькі морскіх сілаў, і якія сілы ў нашых ворагаў?

— Так, але з галавы, у адну мінюту, я не магу табе вылічыць.

— Усяроўна, — працягваў Сакратас, — калі ты маеш дзе-небудзь запісаным, паглядзімо разам.

Але ў Ґляўкона і запісаным нічога не знайшлося.

— Ну, добра, — пачаў зноў Сакратас, — я бачу, што і гэта трэба будзе нам пакуль што пакінуць. Зразумелым ёсьць, што, пачынаючы толькі кар'еру дзяржаўнае службы, ты ня меў яшчэ часу затрымацца над камплексам трудных пытаньняў. Але я пэўны, што ты цікавіўся і ведаеш усё, што датычыцца ўнутранае бясьпекі гаспадарства: затым ведаеш напэўна колькі патрэбна варты дзеля ўнутранае старожжы, дзе чаго не хапае і трэба дапоўніць, дзе чаго за шмат і трэба зьняць.

— Праўду кажучы, — адказаў Ґляўкон, — я-б усю варту зьнёс, калі-б гэта ад мяне залежала. Што ў нас за варта! ці апраўдваецца трымаць яе, калі ўсюды гэткае, што ніхто не аберажэцца!

— Як гэта? Калі зьняць усюды варту, дык зладзеі будуць рабаваць сярод белага дня. Дый наагул, на якой падставе чыніш ты выснаў, што варта дрэнна выконвае свае абавязкі? Ці спраўджваў ты яе сам на месцы, ці ведаеш гэта ад каго-небудзь іншага?

— Мне гэтак здасцца; усе кажуць, што гэтак ёсьць.

— Я думаю, што мы павінны спыніць нашую гутарку і на гэтую тэму, пакуль не атрымаем пэўнасьці ў гэтай справе.

— Я думаю, што гэта будзе найляпей, — падхапіў Гляўкон.

— Капальні серабра ты не адведаў ані разу, як мне ведама, дык і не патрапіш сказаць, дзе ляжыць прычына што раз меншых даходаў.

— І запраўды, ніколі я ня быў там.

— І нічога дзіўнага. Кажны-ж бо цьвердзіць, што паветра там страшэннае, і факт гэты будзе для цябе дастатковым апраўданьнем, калі справа знойдзецца на парадку дня.

— Ты жартуеш зь мяне! — запратэставаў Гляўкон.

— Напасьледак, што найменей, у вадной рэчы, я пэўны, што справы ты не занядбаў, але грунтоўна яе перадумаў, пайменна: на як доўга хопіць запасаў уласнага збожжа для харчаваньня людзей у краі, і колькі яго трэба яшчэ дакупіць з заграніцы, каб прайсьці да канца году? У гэтых справах ты мусіш быць абазнаным на выпадак недахопу хлеба ў краі, бо тады ведаю сваею прыслужышся дзяржаве ў цяжкай патрэбе, дапаможаш і аджанеш голад.

— Празьмерна вялікія вымаганьні ты ставіш мне, — адказаў Гляўкон, — яшчэ і пра гэтыя справы маю турбавацца!

— У сутнасьці рэчы, нават уласнаю гаспадаркаю не патрапіць належна кіраваць той, хто ня ведае ўсіх сваіх патрэбаў і ня імкнецца заспакоіць іх у цэласьці. Калі ўжо край наш складаецца з болей дзесяці тысяч гаспадарак, і калі ўжо, запраўды, трудна турбавацца нараз пра гэтак вялікі іх лік, дык чаму-ж не падумаў ты пра тое, як перш паставіць на ногі гаспадарку ўласнага дзядзькі? Ён-жаж дамагаецца гэтага. І, калі-б займеў ты ўдачу пры гэтай адной гаспадарцы, сьмела тады мог-бы прабаваць сваіх сілаў пры большай іх колькасьці. Аднак, калі ты не аказаўся быць карысным у вадной патрэбе,

як-жаж патрапіш быць карысным у шматлікіх выпадках? Рэч бо тутака маецца гэтаксама, як з падыйманьнем цяжараў: хто ня мае сілы падняць аднаго таленту, тым болей не патрапіць падняць большага іх ліку і нават не павінен прабаваць гэтага.

— Аднак-жа, — адказаў Ґляўкон, — ахвотна памог-бы я падняць дзядзькаву гаспадарку, калі-б толькі ён паслухаўся мяне.

— Як гэта? — адказаў Сакратас. — Калі ты ня можаш пераканаць аднаго свайго дзядзькі — дык думаеш ты, што будзеш у стане ўсіх атэнцаў, разам зь дзядзькам, учыніць сабе паслухмянымі? Сьцеражыся, затым, Ґляўкон, каб, імкнучыся да славы, не асягнуў ты нечага зусім супроцьлежнага. Бо-ж і сам, мусіць, бачыш, як небясьпечным ёсьць нешта гаварыць або рабіць без адпаведнага веданьня прадмету. Падумай толькі пра людзей, ведамых табе з таго, што ў супярэчнасьці паміж іхнымі словамі і чынамі выказваюць яскравы недахоп неабходных ведаў, і ты тады сьцьвердзіш, што ў нагароду за гэткае паступаваньне атрымліваюць яны не пахвалу, але дакор, і што ўсе аказваюць ім не пашану, але зьнявагу. Падумай, гэтаксама, пра тых, каторыя ў словах і чынах выражаюць заўсёды доказы ґрунтоўнае веды, а дойдзеш да пераканаьня, як мне здаецца, што ў кажнай галіне жыцьця належнаю пашанаю і добраю апініяю цешацца толькі тыя, каторыя выказваюцца найбольшым мастацтвам у рамястве, і наадварот, што дрэнную рэпутацыю маюць і спатыкаюцца з агульнаю пагардаю тыя, каторыя нічога ня ведаюць. Затым, калі хочаш ты атрымаць добрую славу ў дзяржаве і паважаньне сярод суродзічаў, дык з усіх сілаў мусіш ты старацца здабыць неабходную веду ў той галіне, у якой маеш замер разгарнуць сваю дзейнасьць. І толькі тады, калі, выперадзіўшы іншых, пачнеш займацца справамі дзяржавы, ня зьдзівішся зусім, калі зь вялікаю лёгкасьцю асягнеш мэту сваіх лятуценьняў.

*

Ведама, не заўсёды гутарка канчалася гэтак памысна, як з маладым Ґляўконам, які, пазнаўшы самога сябе, магчыма, дзякаваў Сакратасу і пайшоў далей вучыцца. Іншыя, як вынікае зь ягонае абароннае прамовы, адыходзілі пасьля гутаркі сьмяротна абражанымі і схаваўшымі на дне душы помсту да найбліжэйшае нагоды. Нічога, затым, дзіўнага, што ўся ягоная дзейнасьць завяршылася ведамым эпілёгам: часоваю паразаю і назаўсёды славаю ў памяці людзкасьці.

*

Плятон часамі казаў: „Я дзякую Богу, што я радзіўся грэкам а не барбарам, свабодным чалавекам а не нявольнікам, мужчынам а не жанчынаю; але болей за ўсё я ўдзячны Богу за тое, што я радзіўся ў веку Сакратаса." Гэтым выражалася ў Плятона глыбокая сьведамасьць пазнанае праўды, якая знаходзіла сваё завяршэньне ў вычуцьці ўнівэрсальнае Ідэі.

Найвышэйшым дабром, паводля Плятона, зьяўляецца ані прыемнасьць, ані сама веда, але магчыма найбольшая падобнасьць да Бога, як абсалютнага Дабра. Цнота людзкае душы можа быць выражана тут як прыдатнасьць да адпаведнага чыну. Душа абыймае розныя цноты, якія твораць сабою сыстэму, абапертую на клясыфікацыі дару або частак людзкае душы. Цнота пазнавальнае часткі душы зьяўляецца ведаю дабра́ або мудрасьці (σοφία); іншаю адважнаю часткаю ў гэтым ёсьць мужнасьць (ἀνδρία), якая зьмяшчаецца ў здольнасьці распазнаваньня правільных і аснаўных выяўленьняў, якіх часамі трэба баяцца, а якіх не; цнота інстынктыўнае часткі выражаецца паўстрыманьнем (памяркоўнасьцю або сама-кантролям, σωφροσύνη), якая зьмяшчаецца ў сузгоднасьці лепшых і горшых частак душы, што да таго, хто зь іх мае кіраваць. І напасьледак, справядлівасьць (δικαιοσύνη), зьяўляецца сусьветнаю

цнотаю і выражаецца выпаўненьнем кажнаю часткаю ўзложаных на іх сваеасаблівых функцыяў. Піэтэт (ὁσιότης) зьяўляецца справядлівасьцю адносна Бога. Адною з разгаліненьняў мудрасьці зьяўляецца філязафічная любоў, або супольная натуга дзьвюх душаў з мэтаю асягненьня філязафічнае веды. Цноту трэба асягваць ня з прычыны матываў ўзнагароды або кáры, але з тае прычыны, што яна сама ў сабе зьяўляецца здароўем і прыгожасьцю душы. Чыніць несправядлівасьць зьяўляецца горшым, чымся цярпець несправядлівасьць.*)

Глыбіня Плятонавае Філязафічнае думкі, веліч духовага сьвету і пэрфэкцыя людзкае душы вырысоўваюцца перад намі з аднаго кароткага напісу, які віднеўся над уваходам у акадэмію:

*НЯХАЙ НІХТО НЯСЬВЕДАМЫ Ў ҐЭАМЭТРЫІ НЕ ЎВАХОДЗІЦЬ СЮДЫ.*

Словы гэтыя вымоўна гавораць аб атмасфэры, у якой адбывалася праца і дзейнасьць першага ўнівэрсытэту, як і, перадусім, аб той глыбокай мэце, якую ставілі перад сабою людзі, сузграмаджаныя навакол Плятона і пазьней ягоных спадкаемнікаў.

Чытаючы творы вялікага вучонага, мы часта знаходзім доказы, што Плятон быў грунтоўна абазнаны з гэтаю дысцыплінаю. Аднак гэтую галіну веды Плятон разумеў глыбей, чымся звычайна. Ґэамэтрыя, якая займаецца велічынямі, прасторнымі хвормамі, свомасьцямі лініяў, кутоў, плошчаў, паводля Плятона, можа быць разгляданая, як „унівэрсальная матэматыка ўнутраных суадносінаў“ і найвышэйшая якасьць у сваеасаблівай

*) Dr. Fr. Ueberweg, **History of Philosophy**, New York, 1877, I, бач. 128.

ступені, адно з выражэньняў якое будзе паняцьце спалучэньня *прыгожасьці і дабра (калёкаґацыя).*

Згэтуль з усёю неабходнасьцю павінен быць учынены выснаў, што навука, як яе Плятон разумеў і імкнуўся тасаваць, ма́е глыбейшае значэньне.

Навука, веда, чалавек, ягоная ўзрастаючая з дня на дзень унутраная вартасьць — гэта адно суцэльнае, якое мае служыць для шчасьця, радасьці жыцьця і памыснасьці гэтае суцэльнасьці. Навука — гэта сьвятая сьвятых, дзе чалавек знойдзе сваё аднаўленьне, гэта месца, дзе адступіцца ад яго ўсякі забабон, дзе ягоныя духовыя і фізычныя раны загоецца, дзе чалавек у чалавеку знойдзе сабе роўнага, а ў неабсяжных магчымасьцях пазнаньня, глыбей зразумее Першапрычыну быцьця і дазнаціме несьмяротнасьць свае душы.

Разглядаючы гэты прадмет у духу плятанічным, можна дайсьці да выснаву, што сама навука складаецца быццам зь дзьвюх цесна павязаных з сабою частак. Веданьне фармулы матэматычнае, якая можа прывесьці да наяўнасьці энэргіі — гэта адно, а тасаваньне атрыманае энэргіі з мэтаю стварэньня атмасфэры радаснага і шчасьлівага жыцьця для чалавека на Зямлі — гэта нешта іншае. У па́ры з поступам навукі мусіць адбывацца поступ у разьвіцьці лепшых якасьцяў душы самога чалавека. І ў гэтым напрамку Плятон кіраваў сваю дзейнасьць навучаньня.

Часта здаралася, што Плятон асабіста лучыўся са сваімі студэнтамі ў супольным спажыцьці ежы, ствараючы гэтым практыку, падобную да супольнага жыцьця Піта́горасавага братэрства. Ён разумеў, што падтрымліваньне супольнасьці з філёзафам найляпей ву́чыць як агарнуць і жыць філязофію. Плятон кажа, што ў душы годнага студэнта зьнічэўку родзіцца іскра зразуменьня, якая, калі запаліцца, гарыць сама сабою. З гэтае пары вучань перажывае ўзрастаючую сьведамасьць

унутранага філязафічнага стану, які зьяўляецца праматорам ягонае ўласнае самаздысцыплінаванае душы.*)

Плятон паглыбляў веды ня толькі сярод сваіх вучняў, але і сам дасканаліўся ў гэтым напрамку. Падобна, як Сакратас, ён ніколі ня супыняўся ў палепшваньні іншых. І, падобна як Сакратас, ён ніколі не пераставаў імкнуцца ў палепшаньні самога сябе, з мэтаю дадатняга ўплыву на іншых у напрамку сама-адукацыі. Гэтае імкненьне да навукі як і навучаньне іншых ілюструе нам Плятона, як чалавека скромнасьці і мудрасьці. Аднойчы, будучы запытаным, як доўга ён думае ўважаць сябе за вучня, ён адказаў: „Як доўга я ня буду саромяцца расьці ў напрамку стацца лепшым і болей мудрым“.**)

*Ян Пятроўскі*

---

*) Гэнрі Л. Дрэйк, Плято'с Компліт Ўоркс, 1959, бач. 12.

**) Там-жа.

# АБАРОНА САКРАТАСА

## Уводнае слова

*Прамову абароннага характару Сакратас сказаў перад атэнскім судом у 399 г. п.н.э. пасьля таго, як Мэлетас, Анітас і Лікон высунулі абвінаваганьні, што Сакратас нарушае права тым, што:*

*а/ "дасьледуе і зглыбляе ўсё, што ёсьць над зямлёю і пад зямлёю";*

*б/ "ведае, як дрэнную рэг угыніць лепшаю;*

*в/ "вугагы гэтыя самыя рэгы іншых; і*

*г/ атрымлівае плату за навуку;*

*д/ "ня верыць у багоў, у якіх дзяржава верыць, але замест іх верыць у новыя духовыя рэгы; і*

*е/ "зводзіць моладзь".*

*Абвінавагані знаходзіўся ў сямідзесятым годзе свайго жыцьця.*

*Суд, які судзіў Сакратаса, быў зложаны з 501 судзьдзі.; судзьдзі выбіраліся дарогаю кіданьня лёсаў.*

*Працэс судовы адбыўся на працягу аднаго дня.*

Якое ўражаньне, мужы атэнскія, учынілі на вас мае абвінавацелі, я ня ведаю; але, што да мяне, дык я быў нагэтулькі пад іхным уплывам, што я блізу забыўся кім я зьяўляюся: гэтак пераконваюча гучэла іхная мова. Аднак, калі ідзе пра праўду — дык гэтага бадай-што яны не сказалі аніводным словам. Але тое, што найболей мяне зьдзівіла ў шматлікіх махлярствах, высказаных імі, дык гэта тое, калі яны перасьцерагалі вас быць вельмі асьцярожнымі і ня дасца ўвесьці мною ў блуд, бо я быў асабліва выдатным прамоўцаю. Яны мусіцімуць чуцца асаромленымі, кажучы гэта, бо я дакажу ім зараз-жа фактамі, што яны памыляюцца, калі я буду гаварыць, і вы будзеце бачыць, што я ані крышку не зьяўляюся выдатным прамоўцаю. Гэта выдаецца мне найболей бяссорамнаю рэчаю ў іх, хіба што, запраўды, яны называюць кажнага таго выдатным прамоўцаю, хто

гаворыць праўду. І, калі гэта ёсьць тое, што яны маюць на ўвазе, дык я згадзіўся-б зь імі, што я зьяўляюся аратарам, але ня іхнае клясы. Значыцца, гэтыя людзі, як я ўспомніў, насілу ці сказалі хоць-бы адно слова праўды; але ад мяне вы пачуеце ўсю праўду. Але, на Зэуса, мужы атэнскія, тое, што вы ад мяне пачуеце, ня будзе красамоўствам, як іхнае ўласнае, вытканае прыгожымі словамі і фразамі, пакрытае арнамэнтамі; зусім не — я буду гаварыць у абы-якіх словах, што прыходзяць першымі. Бо я веру, што справядлівасьць знаходзіцца ў тым, што я кажу, і няхай ніхто з вас не спадзяецца нічога іншага. Запраўды, гэта ня было-б адпаведным, грамадзяне, для старога чалавека, як я, стануць перад вамі, як хлапчук, фармуючы ўласныя словы ў прыгожыя ўзоры.

Адна рэч, аднак-жа, мужы атэнскія, я прашу вас і малю найболей паважна: Калі вы пачуеце мяне, ужываючага ў вабароне самога сябе тутака тыя самыя словы, якія я выказваў наагул, на рынку або пры сталох мяняльнікаў, дзе многія з вас чулі мяне, і на іншых мясцох, ня будзьце зьдзіўленымі і ня ўздымайце голасу з гэтае прычыны. Фактам астаецца, і гэта першы раз, што я стаю перад судом, хоць я і знаходжуся ў сямідзесятым годзе жыцьця свайго і зусім чужым для стылю гэтага месца, быццам чужынец. Калі-б, запраўды, я быў чужынцам і ўжываў тую самую мову і манеру, што здаўна я выпрацаваў, дык выбачылі-б вы-ж мне — затым і цяпер, як мне здаецца, я маю права прасіць вас дазволіць гаварыць мне ў маей манеры — будзе яна добрай ці дрэннай. І яшчэ прашу зьвярнуць увагу на тое, гавару я праўду ці не. Бо гэта зьяўляецца годнасьцю прысяглага, але годнасьцю аратара ёсьць гаварыць праўду.

Перш, тады, мужы атэнскія, ёсьць свомым для мяне адказаць на першыя хвальшывыя абвінавачаньні, учыненыя супроць мяне, і першым абвінаваўцам, а далей, адказаць на цяперашнія абвінавачаньні і выступаючым тут абвінаваўцам. Запраўды, я меў шмат абвінаваў-

ляў, што скаржыліся перад вамі, доўгі час, шмат гадоў цяпер, зь ніводным словам праўды; гэтых я баюся болей, чымся Анітаса і ягоных прыяцеляў, хоць яны гэтаксама зьяўляюцца небясьпечнымі. А тыя іншыя зьяўляюцца болей небясьпечнымі, грамадзяне, каторыя ўзьдзейвалі на бальшыню з вас, калі вы былі яшчэ юнакамі, і пераконвалі вас, і абвінавачвалі мяне хвальшыва: Быццам ёсьць нейкі Сакратас, мудры чалавек, які дасьледуе і зглыбляе ўсё, што ёсьць над зямлёю і пад зямлёю, і ведае, як дрэнную рэч учыніць лепшаю. Гэтыя людзі, мужы атэнскія, што распаўсюдзілі гэткую рэпутацыю, зьяўляюцца маімі небясьпечнымі абвінавацелямі, бо тыя, што слухаюць іх, вераць, што кажны, хто зьяўляецца студэнтам гэткага роду навукі, мусіць быць гэтаксама і атэістым. Так, гэтыя абвінавацелі зьяўляюцца лічнымі, і яны абвінавачвалі мяне на працягу доўгага часу дый гаварылі яны вам тады, калі вы былі ў веку найболей паддатнымі верыць, калі некаторыя з вас былі яшчэ дзяцьмі або найболей падрастаючымі юнакамі. Фактычна абвінавачвалі ў справе, якая адбываецца бяз суду, бяз нікога, хто бараніў-бы. Але найболей безрасуднаю рэчаю ёсьць тое, што немагчыма назваць іхныя імёны або сказаць, кім яны зьяўляюцца — хіба што аднаму зь іх здарылася стацца сатырычным паэтам. Але тыя, што ўводзілі вас у блуд з прычыны зайздрасьці і злосьці, або некаторыя, што зьяўляюцца перакананымі ў сабе і пробуюць пераканаць іншых — гэтыя зьяўляюцца найтруднейшымі, зь якімі трэба мець дачыненьне. Бо нямашака ніякае магчымасьці мець іх пакліканых сюды, або дасьледзіць каго-небудзь зь іх у пытаньнях, але, маючы абараніць самога сябе перад імі, падобна быць змушаным біцца зь ценямі, ставіць пытаньні, не атрымліваючы адказу. Калі ласка, памятайце, тады, што мае́ абвінаваце́лі зьяўляюцца двух радоў, як я сказаў: тыя, што абвінавачваюць мяне цяперака, і іншыя, старыя, якіх я толькі што ўспомніў, — і разважце, што перш я мушу адказаць старым: бо вы чулі іхныя абвіна-

ваčаньні найперш, і значна часьцей, чымся новых.

Добра; я мушу адказаць ім, мужы атэнскія, і спрабаваць ухіліць прадузятасьць, якую вы ўспрынялі ад даўжэйшае пары, а ўчыніць гэта толькі ў кароткім часе. Запраўды, я спадзяюся, што мне ўдасца ўхіліць яе для вашага і для майго дабра. Заданьне не зьяўляецца лёгкім і я разумею сутнасьць яго. І так, пакідаючы здарэньне Богу, я мушу быць паслухмяны праву, і чыніць маю абарону.

Вярнемся на пачатак, і паглядзем, чым абвінавачаньне зьяўляецца, скуль выплывае прадузятасьць думкі супроць мяне, спасылаючыся на якую, Мэлетас высунуў гэты акт абвінавачаньня. Вельмі добра. Што-ж сказалі паклёпнікі, якія абкінулі мяне паклёпам? Прымем, што я буду чытаць на пісьме паказаньні маіх абвінавацеляў: ”Сакратас нарушае закон і пранырліва падглядвае рэчы, што пад зямлёю, як і тыя, што на нябёсах, і чыніць дрэнную рэч лепшаю і, вучачы гэтыя самыя рэчы іншых“. Нешта падобнае да гэтага. Бо гэта ёсьць тое, што вы бачылі ў камэдыі Арыстофанэса, нейкі Сакратас мятляецца там у кошыку, прэтэндуючы быць у стане хадзіць па паветры і яшчэ чаўпе шмат іншых бязглузьдзіцаў, якіх я не разумею ані на ёту або як іх назваць. Ня думайце, што, кажучы гэта, я ма́ю на ўвазе пагарду для гэтага роду веды і таго, хто ведае нешта пра падобныя рэчы; не хапае яшчэ, каб Мэлетас учыніў мяне адказным і за гэта! Але я ня ма́ю нічога супольнага з гэтымі рэчамі, мужы атэнскія. Я зьвяртаюся з заклікам да бальшыні з вас пацьвердзіць, і я прашу вас пада́ць да ведама і сказаць адзін аднаму, гэтак многа з вас, колькі калі-небудзь чула мяне гаворачага — і тыя з вас, каторыя чулі мяне, зьяўляюцца лічнымі — скажэце адзін другому, тады, ці хоць хто-небудзь з вас калі-небудзь многа ці мала чуў мяне гаворачага пра падобныя рэчы, і тады вы пазнацімеце з гэтага, што ўсё іншае, што людзі кажуць пра мяне, зьяўляецца гэтаксама несправядлівым.

Але, запраўды, калі ніякая з гэтых рэчаў ня ёсьць праўдзівай, дык ня ёсьць праўдзівай і тая нават, калі вы чулі ад каго-небудзь, быццам я бяруся вучыць людзей і атрымліваю плату. Я мушу сказаць, я думаю, што гэта вялічэзная рэч для кажнага чалавека быць здольным вучыць людзей падобна, як Ґорґіяс зь Леантыну і Продікас з Кэёсу, і Гіппіяс з Элісу чыняць. Бо кажны з гэтых, грамадзяне, зьяўляецца ў стане ісьці ў любое места, і пераконваць маладых людзей, хоць гэтыя могуць дарма карыстацца навукаю кажнага аднаго із суродзічаў, пакінуць супольнасьць сваю і далучыцца да іх, плоцячы за гэта, і апрача таго, дзякаваць. Запраўды, ёсьць у гэтым месьце іншы мудрэц, як даведаўся я, з Паросу. Здарылася мне спаткаць чалавека, які заплаціў сафістым болей грошай, чымся ўся рэшта іх, зложаная разам, — Кальліяса, Гіппонікосавага сына, дык я спытаў яго, ён меў двух уласных сыноў:

Кальліяс, — сказаў я, — калі-б твае два сыны былі жарабятамі або цялятамі, і нам трэба было-б наняць для іх дасьведчанага чалавека, мы ведалі-б, як наняць і аплаціць загадчыка для іх, каб учыніць іх добра ўзгадаванымі ў цнотах, адпаведных для кажнае з гэтае жывёлы; ён быў-бы канюшым або сельскім гаспадаром. Але, цяперака, калі яны зьяўляюцца людзкімі існаваньнямі, дык каго ты маеш на ўвазе, як іхнага ўзгадавальніка? Хто зьяўляецца адумыслоўцам у падобнай цноце, людзкай ці грамадзкай? Бо я думаю, што ты разглядаўся навакол, каб знайсьці некага, бо ты маеш сыноў. Ці ёсьць нехта, — сказа я, — ці няма?

— Напэўна ёсьць, — сказаў ён.

— Хто? — сказаў я, — і скуль ён, і які ягоны ганарар за навуку?

— Эўэнос, — сказаў ён, — з Паросу, мой дарагі Сакратас, пяць мінаў.

І я падумаў, Эўэнос зьяўляецца шчасьлівым чалавекам, калі фактычна і запраўды ён мае гэтае мастацтва і вучыць за гэтак умеркаваную плату. Я што найменей

павінен быў-бы ганарыцца, калі-б я меў гэтакую веду. Але я ня маю, мужы атэнскія!

Хто-небудзь з вас, тады, можа дабавіць і магчыма спытаць: "Ну, добра, Сакратас, дык чым ты займаешся? Скуль бяруць пачатак гэтыя паклёпы? Бо ўся гэтая гутарка пра цябе і гэтая рэпутацыя, не паўстала-б, я думаю, калі-б ты не рабіў нічога болей ад таго, што іншыя робяць; гэта мусіў быць ты, каторы рабіў нешта іншае ад таго, што большасьць людзей робіць. Тады скажы нам, што́ гэта ёсьць каб мы ня былі хуткімі і безразважнымі адносна цябе".

Гэта выдаецца мне быць зусім нармальным, калі хто-небудзь кажа гэтак, і я буду старацца паказаць вам што́ гэта ёсьць, што стварыла мне гэткае імя і гэткую прадузятасьць думкі. Паслухайце, тады. І, магчыма, хто-небудзь з вас падумае, што я жартую, але будзьце пэўнымі, я скажу вам поўную праўду.

Пэўны род мудрасьці даў мне гэтае імя, мужы атэнскія, і нічога іншага. Што-ж гэта за такая мудрасьць? Магчыма гэтая адзіная мудрасьць, якую чалавек можа мець. Бо фактам ёсьць, што я запраўды зьяўляюся мудрым у гэтай мудрасьці; але магчыма ёсьць, што тыя, пра каторых я толькі што ўспомніў, зьяўляюцца мудрымі ў мудрасьці большай, чымся людзкая, або я не зьяўляюся ў стане апісаць яе. І я сам не разумею яе, але хто-колечы кажа, што разумею — хлусіць і гаворыць у паклёпніцтве пра мяне.

І не пратэстуйце, мужы атэнскія, нават тады, калі вы падумаеце, што я хвалюся. Бо тое, што я вам хачу сказаць, не зьяўляецца маім словам, але я паклічуся на прамоўцу дастатковага аўтарытэту і прыклічу бога ў Дэльфах, як сьведку мае́ мудрасьці, калі, запраўды, гэта зьяўляецца мудрасьцю наагул. Я думаю, што вы ведаеце Хайрэфона. Ён быў маім прыяцелям ад часу майго юнацтва і прыяцель вашае народнае партыі, і ён быў выгнаны з вамі і пазьней з вамі быў вярнуўся. І вы ведаеце, бяз сумліву, якога роду чалавекам быў Хайрэфон,

— О, Сакратас! Вось апошні раз вядзеш ты гутарку з сябрамі, а сябры з табою!

Тады Сакратас, зірнуўшы на Крытона, сказаў:

— Крытон, няхай хто-небудзь адвядзе яе дадому.

І некаторыя з Крытонавых людзей павялі яе, а яна не пераставала крычаць і біць сябе ў грудзі.

Сакратас сеў на ложку, падагнуў пад сябе нагу і пацёр яе рукою. Не перастаючы расьціраць нагі, ён сказаў:

— Што за дзіўная рэч, сябры, — тое, што́ людзі называюць „прыемным"! І як дзіўна, на мой пагляд, маецца яно да таго, што́ прынята ўважаць ягонаю супроцьлежнасьцю, — да балючага! Разам у чалавеку яны ня ўжываюцца, але, калі хто-небудзь гоніцца за адным і асягае здабычу, ён амаль што міжвольна атрымлівае і другое: яны быццам зрасьліся недзе на ўзьверсе. Мне здаецца, — снуў ён далей, — што, калі-б над гэтым падумаў Айзопос, ён уклаў-бы пераказ пра тое, як Бог, жадаючы ўчыніць згоду памім імі, ня мог, усё-ж, спыніць іхнае варожасьці і тады злучыў іх голавамі. Вось затым, як зьявіцца адно, дык зараз насьпявае і другое. Гэтак і са мною: раней назе было балюча ад жалезнае путы, а цяперака, зараз за гэтым — прыемна.

Тутака Кэбэс перапыніў яго:

— На слова маё, Сакратас, добра, што ты мне прыпомніў! Мяне ўжо некалькі чалавек пыталася ў справе вершаў, якія ты тутака стварыў — перакла́даў Айзопасавых прыповесьцяў і гымну на чэсьць Апольлёна, — і сярод іншага, Эўэнос аднойчы дзівіўся, чаму гэта, папаўшы сюды, ты раптам узяўся за вершы, бо-ж раней ты ніколі ня пісаў іх. І, калі табе не ўсё роўна, як я адкажу Эўэносу, калі ён наступны раз аб гэтым запытае — а ён напэўна запытае! — скажы мне, што́ я ма́ю адказаць яму.

— Скажы яму праўду, Кэбэс, — адказаў Сакратас, — што я не хацеў спаборнічаць зь ім ці зь ягоным мастацтвам — гэта ня было-б лёгка, я сьведамы гэтага,

— але проста, я прабаваў праўдзіць значэньне некаторых сноў і аблягчыць сваё сумленьне, у выпадку, калі яны мелі на ўвазе схіліць мяне да гэткага роду творчасьці. Я зараз раскажу табе іх.

На працягу майго жыцьця я шмат разоў бачыў адзін і той самы сон. Праўда, бачыў я не заўсёды адно і тое самае, але словы заўсёды чуў аднолькавыя: „Сакратас, вазьміся за працу і твары музыку!“ У мінулым я лічыў, што гэта заклік і ра́да рабіць тое, што́ я як-раз і рабіў. Як глядзельнікі падбадзёрваюць бегачоў у часе спаборніцтва, гэтак, думаў я, і гэтая зьява сну будзіла ўва мне думку далей выконваць *маю* справу — тварыць пад уладаю Музы, бо найвышэйшае мастацтва тварэньня — гэта філязофія, якою я і займаўся. Але цяперака, пасьля суду, калі сьвяткаваньне (на чэсьць бога) адлажыла на пазьней выкананьне прысуду, я прыйшоў да выснаву, што, магчыма, сон загадвае мне тварыць на самым звычайным полі для Музы, і, што трэба гэтаму загаду не супроцьставіцца, але падпарадкавацца. Болей надзейным будзе быць паслухмяным сну і не адыходзіць у вечнасьць, перад тым як не ачысьцішся паэтычнаю творчасьцю. Затым у першую чаргу я ўклаў песьню на чэсьць таго бога, сьвята якога тады сьвяткавалі, а аддаўшы чэсьць богу, я зразумеў, што паэт — калі толькі ён хоча быць запраўдным паэтам — павінен тварыць пры помачы ўяўленьня, а ня розуму. Сам-жа я да́ру ўяўленьня ня ма́ю, затым я і ўзяў тое, што было мне найболей даступным, — Айзопасавыя апавяданьні. Я ведаў іх напамяць і першыя-ж, якія прыйшлі мне на думку, выразіў вершамі. Гэтак усё і паясьні Эўэносу, Кэбэс, і яшчэ скажы яму ад мяне „бывай“, і дакінь, каб як найхутчэй сьледаваў за мною, калі ён чалавек паважна думаючы. Бо я, мусіць, сягоньня адыходжу — гэтак загадваюць атэнцы.

Тутака ўмяшаўся ў гутарку Сімміяс:

— І што за ра́да, Сакратас, гэта не для Эўэноса. Мне

многа разоў здаралася спатыкацца зь ім, і, наколькі я ведаю гэтага чалавека, ён ніколі не паслухаецца тваe ра́ды бяз прымусу.

— Чаму? Ці-ж Эўэнос не зьяўляецца філёзафам?

— Я думаю, што ён філёзаф, — адказаў Сімміяс.

— Тады ён згодзіцца са мною — і ён, і кажны іншы, хто адносіцца да філязофіі гэтак, як яна вымагае і заслугоўвае на гэта. Праўда, сам ён ня спыніць свайго ўласнага жыцьця: гэта ўважаецца недазволеным.

Пры гэтых словах Сакратас спусьціў ногі на падлогу і гэтак праседзеў да канца гутаркі.

Кэбэс запытаў яго:

— Як гэта ты кажаш, Сакратас: спыняць свайго ўласнага жыцьця не дазволена, а ўсё-ж філёзаф гатовы сьледаваць за паміраючым?

— Ну, што-ж, Кэбэс, ці-ж вы — ты і Сімміяс — ня чулі пра ўсё гэта ад Філяляоса?

— Не. Прынамся нічога пэўнага, Сакратас.

— Запраўды, я і сам кажу са словаў іншых, аднакжа ахвотна перакажу тое, што мне траплялася чуць. Дый, здаецца, найболей адпаведным для чалавека, які знаходзіцца на перададні перасяленьня ў іншы сьвет, — аддацца развазе пра сваё перасяленьне і яшчэ раз у думках прайсьці пераказы пра тое, што́ чакае яго на канцы падарожжа. І, запраўды, як яшчэ правесьці час да заходу сонца?

— Чаму ўсё-ж такі, Сакратас, агульна ўважаецца, што забіць самога сябе недапушчальна. Шчыра кажучы, я чуў ужо і ад Філяляоса, калі ён жыў у нас, — я вяртаюся да твайго пытаньня, — і ад іншых, што гэтага ня можна рабіць. Але нічога яснага я ніколі ад нікога ня чуў.

— Ня трэба абескуражвацца, — сказаў Сакратас, — можа надыйсьці яшчэ дзень, калі ты зразумееш. Магчыма выдасца табе гэта дзіўным, чаму, іншыя рэчы, якія мы ўважаем за зло, у пэўным часе і для некаторых

людзей могуць быць добрымі, а сьмерць як-раз мае быць выняткам, і чаму, калі чалавеку ляпей быць памершым, не дазваляецца быць уласным дабрачынцам, але чакаць на іншую руку ці здарэньне.

— Вельмі трапна сказана, — лёгка ўсьміхаючыся, заўважыў Кэбэс у сваей роднай гаворцы.

— Ведама, гэта можа выдасца бязмысным, — казаў далей Сакратас, — але, як мне здаецца, ёсьць тут пэўны сэнс. Запаветны пераказ кажа, што мы, людзі знаходзімся быццам пад аховаю і, што ня варта ўхіляцца з-пад яе сваімі сіламі, ані ўцякаць — вялікая гэта тайніца, як мне здаецца, і вельмі глыбокая навука. І вось яшчэ, Кэбэс, добра выказана: багі распасьціраюць сваю ахову над намі, затым мы, людзі зьяўляемся часткаю боскае ўласнасьці. Згаджаешся ты з гэтым ці не?

— Згаджаюся, — адказаў Кэбэс.

— Ну, а калі-б хто-небудзь із тых, што належаць да цябе, забіў-бы самога сябе, ня пытаючыся загадзя, падабалася-б табе гэта ці не, напэўна ты-б разгневаўся на яго і пакараў-бы яго, калі-б толькі ты меў магчымасьць зрабіць гэта?

— Напэўна! — сказаў ён.

— Тады, бадай-што, зусім не бяз сэнсу ёсьць, што чалавек не павінен сам спыняць свайго ўласнага жыцьця, пакуль Бог не пашле яму неабходнасьці, напрыклад, як сягоньня мне.

— Выглядае, што гэта праўда, — сказаў Кэбэс. — Але тое, пра што ты толькі-што гаварыў, быццам філёзафы зь лёгкасьцю і ахвотаю згадзіліся-б памерці, — дык гэта выдаецца дзіўным, Сакратас, асабліва тады, калі мы вось трапна разважылі, прызнаючы, што Бог сьцеражэ нас і, што мы зьяўляемся ягонаю ўласнасьцю. Безрасудным ёсьць рабіць выснаў, быццам наймудрэйшыя зь людзей не адчувалі-б нездаволеньня, ухіляючыся ад абавязку служэньня, у якім мы знаходзімся і, выходзячы з-пад аховы і дагляду найлепшых апяку-

ноў — багоў, яны вераць, што апынуўшыся на волі, яны могуць далей дбаць пра самых сябе. Іншая рэч — чалавек бязглузды: гэты як-раз так і вырашыць, што трэба ўцякаць ад свайго валадара. Яму і ў цям ня прыйдзе, што пры добрым трэба аставацца да апошняе хвіліны, а пра ўцёкі наагул няма што гаварыць. Уцёкі былі-б чыстаю бязглузьдзіцаю, і, мне здаецца, што кажны разумны чалавек, заўсёды імкнецца быць каля таго, хто ёсьць лепшым за яго самога. Але гэта найболей яўна супроцьставіцца тваім словам, Сакратас, затым, што разумны чалавек павінен паміраць з сумам, а безрасудны — з радасьцю.

Праніклівая Кэбэсавая і паважная заўвага, здаецца, здаволіла Сакратаса. Абвёўшы нас позіркам, ён сказаў:

— Кэбэс заўсёды шукае якога-небудзь запярэчаньня і ня хутка згаджаецца з тым, што яму кажуць.

А Сімміяс дадаў:

— А мне здаецца, Сакратас, што цяперака Кэбэс кажа да рэчы. Дзеля чаго запраўды людзям уцякаць ад гаспадароў, якія лепшымі зьяўляюцца і стаяць вышэй за іх самых і чаму пры адыходзе ма́е быць у іх лёгка на сэрцы? Мне здаецца, што Кэбэс мэціць проста ў цябе. Ты гэтак лёгка прыймаеш адыход і ад нас, і ад тых, каго ты сам прызнаеш добрымі валадарамі — багоў.

— Так, — адказаў Сакратас, — ёсьць у гэтым нейкая частка праўды, я вас зразумеў. Я ма́ю адказаць на вашыя абвінавачваньні, быццам рэч ідзе ў судзе.

— Гэта будзе нядрэнна, — адказаў Сімміяс.

— Ну, добра, папробую пераканаць вас болей памысна, чымся маіх судзьдзяў. Так, Сімміяс і Кэбэс, калі-б я ня думаў, што адыйду, па-першае, да іншых багоў, да мудрых і добрых, а па-другое, да памершых, якія зьяўляюцца лепшымі ад жывых, што астаюцца тутака, на зямлі, — тады-б я ня меў рацыі, спатыкаючы спакойна сьмерць. Ведайце і памятайце, аднак-жа, што я спадзяюся перайсьці да добрых, годных людзей, хоць

я і не магу ўтрымліваць гэтага з усёй пэўнасьцю. Але, што я зьяўляюся перад багамі, перад найлепшымі з валадароў, — ведайце і памятайце, гэта я ўтрымліваю бяз хістаньня, болей рашуча, чымся што-небудзь іншае ў гэтым родзе. Затым я ня маю ніякіх падставаў да незадаволеньня. Наадварот, я напоўнены радаснай спадзеяй, што памерлых чакае нейкая будучыня і, што яна, як кажа старавечны пераказ, непамерна лепшаю ёсьць для добрых, чымся для дрэнных.

— Ну, і што-ж, Сакратас, — спытаў Сімміяс, — думаеш ты забраць з сабою гэтыя думкі, і гэтае вялікае шчасьце, а мо' хочаш ты падзяліцца гэтым з намі? Прынамся мне гэтак здаецца, што і мы маем нейкае права атрымаць свой удзел. Апрача гэтага, калі ты пераканаеш нас ува ўсім, пра што ты будзеш гаварыць, гэта і будзе твая абаронная мова.

— Добра, папробую, — сказаў Сакратас. — Але перш давайце паслухаем, штó скажа наш Крытон. Ён, як мне здаецца, даўно ўжо нешта хоча сказаць.

— Толькі гэта, Сакратас, — адказаў Крытон. — Чалавек, які мáе даць табе атруту, ужо некалькі разоў прасіў папярэдзіць цябе, каб ты гаварыў як найменей, бо ажыўленая гутарка ўзбуджае чалавека, а ад тога, што ўзбуджае, трэба ўхіляцца — яно перашкаджае дзеяньню атруты. Таму, Сакратас, хто гэтага не перасьцерагае, даводзіцца часамі прыймаць дзьве або і тры дозы атруты.

І Сакратас на гэта:

— Пакінь яго, Крытон! Скажы толькі, каб рабіў тое, што ён рабіць павінен — няхай дасьць мне атруты два або і тры разы, калі спатрэбіцца.

— Гэтак я і думаў, — адказаў Крытон, — даўно ён мне ўжо дакучае.

— Пакінь яго, — яшчэ раз сказаў Сакратас. — А вам, маé судзьдзі, я хачу цяперака растлумачыць, чаму, я думаю, чалавек, які запраўды аддаў жыцьцё сваё філя-

зофіі, перад сьмерцяю поўны бадзёрасьці і спадзеі атрымаць за магілаю найбольшае шчасьце. Як гэта магчымым ёсьць, Сімміяс і Кэбэс, зараз спрабую выразіць. Тыя, каторыя запраўды пасьвяцілі самых сябе філязофіі, занятыя ў сутнасьці толькі адным — паміраньнем і сьмерцяю. Чалавек, як заўсёды, гэтага не спасьцерагае, але, калі гэта ёсьць так, дык было-б, запраўды, сьмешна, усё жыцьцё імкнуцца да аднае мэты, а пасьля, калі яна паяўляецца побач, абурвацца на тое, у чым гэтак доўга практыкаваўся.

Сімміяс усьміхнуўся.

— Запраўды, Сакратас, — сказаў ён, — мне зусім не да сьмеху, але ты мяне рассьмешыў. Калі-б твае словы пачулі атэнскія жыхары, яны, як мне здаецца, ясна вырашылі-б, што трапна нападаюць на філёзафаў, і нашыя суродзічы прылучыліся-б да іх зь вялікаю ахвотаю. Бо, запраўды, падумае натоўп, добра ім, філёзафам! Калі яны жадаюць памерці, дык, значыцца, зусім ясна, што яны і заслугоўваюць на сьмерць.

— І правільна падумае, Сімміяс, але што да таго, што „натоўпу ясна“ — дык гэта няправільна. Натоўп не разумее і яму ня ясна, у якім сэнсе „жадаюць памерці“ і ў якім сэнсе „заслугоўваюць на сьмерць“ запраўдныя філёзафы і на якую, фактычна, сьмерць. Будзем, затым, ляпей зьвяртацца да нас самых, а натоўп пакінем самому сабе. Скажы, думаем мы, што існуе такая рэч, як сьмерць?

— Напэўна, — адказаў Сімміяс.

— Нічога іншага, як адлучэньне душы ад цела? А „быць мёртвым“ — гэта значыць, што цела, адлучанае ад душы, сталася само сабою, і, што душа адлучаная ад цела, — гэтаксама сталася сама сабою? А можа сьмерць ёсьць чым-небудзь іншым?

— Не, як-раз гэтак ёсьць, — сказаў Сімміяс.

— А цяперака, дружа, паўзірайся, ці можаш ты згадзіцца са мною. Я думаю, што мы ўчынім крок на-

перад у нашым досьледзе, калі пачнем вось з чаго: Як табе здаецца, свомым філёзафу нахіл да гэтак званых роскашаў, напрыклад, да піцьця або да яды?

— Зусім не, — адказаў Сімміяс.

— А да любоўнае ўцехі?

— О, не.

— А да іншых прыемнасьцяў з тых, што адносяцца да дагляду цела? Як табе здаецца, ці маюць яны значэньне для гэткага чалавека? Напрыклад, дарагія сандалы або плашч, або іншыя ўборы, дзеля ўпрыгожаньня цела, — цэніць ён падобныя рэчы або ня цэніць іх, апрача, зразумела, тых неабходных? Як табе здаецца?

— Я думаю, што ён мае іх за нішто. Прынамся, калі ён зьяўляецца праўдзівым філёзафам.

— Значыцца, — сказаў ён, — наагул, ты думаеш, што ягоная ўвага зьвернута не на цела, але бадай-што поўнасьцю — наколькі магчымым ёсьць ухіліцца ад уласнага цела — на душу?

— Я думаю, што так.

— Значыцца, як-раз у тым і перадусім праяўляе сябе філёзаф, што асвабаджае душу ад супольнасьці зь целам у непараўнальна большай меры, чымся хто-небудзь іншы зь людзей?

— Гэтак выглядае.

— І, напэўна, Сімміяс, паводля таго, што́ натоўп думае, таму, хто не знаходзіць у прыемнасьцях нічога асаблівага і не атрымлівае спадзяванага, ня варта і жыць? Ён ужо на поўдарозе да сьмерці, калі ня думае пра радасьць!

— Зусім правільна кажаш.

— А цяперака паглядзем як разьвіваюцца здольнасьці разважаньня. Перашкаджае гэтаму цела ці не, калі ўзяць яго ў супольнікі філязафічных досьледаў? Я маю на ўвазе вось што: Ці могуць людзі ў якой-небудзь ступені даверыцца свайму слуху і зроку? Бо-ж нават паэты без перапынку цьвердзяць, што мы нічога ня чуем і ня

бачым дакладна. Але, калі гэтыя два пачуцьці цела ані дакладнасьцю, ані яснасьцю ня вырозьніваюцца, тым меней надзейныя іншыя, бо ўсе яны, як я думаю, слабейшыя і ніжэйшыя за гэтыя два. Ці ня думаеш ты гэтак?

— Напэўна, — сказаў ён.

— Калі-ж тады, — пытаў далей Сакратас, — душа прыходзіць у лучнасьць з праўдаю? Бо кажны раз, дасьледуючы што-небудзь супольна зь целам, яна ашукваецца — з прычыны цела.

— Гэта праўда.

— Дык ці не ў развежáньні — і толькі ў ім адным — адкрываецца перад ёю запраўднае быцьцё або хоць-бы нейкая частка яго?

— Праўду кажаш.

— І найляпей думае яна, натуральна, калі яе ня трывожыць нічога з таго, аб чым толькі што гаварылі мы — ані слух, ані зрок, ані прыемнасьць, — калі, разьвітаўшыся зь целам, яна астанецца адна, або бадай-што адна, і скіруецца ў напрамку да запраўднага быцьця, супыніўшы і перасекшы, наколькі гэта магчыма, усякую лучнасьць зь целам.

— Гэта праўда.

— Дык ці ня маецца рэч тут так, што душа філёзафа рашуча пагарджае целам і ўцякае ад яго, стараючыся астацца на адзіноце з сабою?

— Гэтак выглядае.

— А цяперака гэткае пытаньне, Сімміяс: Існуе справядлівае як гэткае ці ня існуе?

— Напэўна што існуе.

— А прыгожае і добрае?

— Натуральна.

— Ці бачыў ты адно з гэтага тваімі ўласнымі вачыма?

— Пэўна што не, — сказаў Сімміяс.

— Значыцца, ты асягнуў гэта пры помачы нейкага іншага пачуцьця цела? Я не гавару цяперака толькі

пра гэта, але пра вялічыню, здароўе, пра сілу і гэтак далей — бяз вынятку, пра тое, чым кажнае зь іх зьяўляецца ў сваей сутнасьці. Дык як-жа, самае запраўднае ў іх мы пазнаём пры помачы нашага цела? Або, наадварот, хто з нас найболей дакладна і старанна прывучыць сябе думаць пра сутнасьць кажнае рэчы, якую ён дасьледуе, той найбліжэй падыйдзе да запраўднае веды?

— Натуральна, той, хто разважвае.

— У гэтакім выпадку самым беззаганным спосабам вырашыць гэтую задачу той, хто зьбліжыцца да сутнасьці кажнае рэчы пры помачы аднаго толькі розуму, наколькі гэта магчымым ёсьць, не зьвяртаючыся ў працэсе разважаньня ані да зроку, ані да іншага якога пачуцьця і ні аднаго із іх не бяручы ў спадарожнікі розуму, хто імкнецца ўхапіць нейкую з частак існага як гэткага, бяз ніякіх дадаткаў, узброены адно толькі розумам як гэткім, гэтаксама без дадаткаў, выракчыся як можна поўнасьцю ад уласных вачэй, вушэй, агулам кажучы, ад усяго свайго цела, бо яно вядзе ў сумліў душу кажны раз, калі яны дзейнічаюць супольна і не дазваляе ёй прысвоіць праўды і разуменьня. Ці-ж ня гэтакі чалавек, Сімміяс, болей за ўсіх чыніць поступ у дасьледзе існага?

— Усё, што ты кажаш, Сакратас, — адказаў Сімміяс, — ёсьць праўдаю.

— Так, — снуў далей Сакратас, — прыблізна гэтакае перакананьне і павінна ўкласьціся з усяго гэтага ў запраўдных філёзафаў, і вось што маглі-б яны прыблізна сказаць адзін аднаму: Быццам нейкая беспасрэдная сьцежка вядзе нас да думкі, што, пакуль мы валодуем целам, нявылучаным ад шукаючага і дасьледуючага розуму, пакуль душа наша зьвязана з гэтым злом, дык мы ня можам суцэльна апанаваць прадмет нашых жаданьняў, а нашыя жаданьні гэта — праўда. І, запраўды, цела ня толькі спрычыняе нам тысячы турботаў — яму-ж неабходна яда! — апрача гэтага, яно пад-

дадзена недамаганьням, кажнае зь якіх перашкаджае нам агортваць існасьць. Цела напаўняе нас жаданьнямі, жарсьцямі, страхамі і гэткаю масаю розных недарэчных зданьняў, што, як той казаў, — чыніць нас няздольнымі хоць крышку падумаць аб чым-небудзь і калі-небудзь. Бунты, бітвы і войны прыходзяць зь цела і ягоных жаданьняў. Усе войны бяруць свой пачатак у прагнасьці награмаджаньня багацьцяў, а прагнуць іх нас змушае цела, якому мы служым, як нявольнікі. Дзеля ўсіх гэтых прычынаў — дзеля цела — у нас і няма часу для філязофіі.

Але найгорай за ўсё вось што: калі мы нават і асвабаджаемся на нейкі час ад турботаў цела і схіляемся ў напрамку досьледу і разважаньня, яно тутака ўсюды нам перашкаджае, зьбівае з панталыку, прыводзіць у зьбянтэжанасьць, у сумяціцу, так, што з прычыны яго мы зьяўляемся бясьсільнымі разгле́дзець праўду. І, наадварот, мы маем бясспрэчныя доказы, што асягнуць яснае ве́даньне чаго-небудзь мы ня можам інакш, як адмовіўшыся ад цела і агортваючы рэчы як гэткія як гэткаю душою. Тады, натуральна, у нас будзе тое, да чаго мы імкнемся з жарам закаханых, пайменна — разуменьне, але толькі пасьля сьмерці, бо, як выяўляе наш досьлед, у часе жыцьця — гэта немагчымым ёсьць. Бо, калі не разлучыўшыся зь целам, не магчымым ёсьць што-небудзь пазнаць з поўнаю яснасьцю, дык адно із двох: або пазнаньне наагул знаходзіцца ў межах неасягальнасьці, або — толькі пасьля сьмерці. Ну, ведама, толькі тады, і ніколі раней, душа астанецца адна сама з сабою, бяз цела. А пакуль мы жывем, тады мы, мусіць, будзем найбліжэй да веданьня, калі як найболей, да апошняе скрайнасьці, абмежуем сваю сувязь зь целам і ня будзем агорнуты ягонаю свомасьцю, але зьберажэм сябе ў чысьціні ад гэтае заразы да тае пары, пакуль сам Бог нас ня вызваліць. Ачысьціўшыся гэткім спосабам, і, збавіўшыся ад бязмыснасьці цела, мы,

праўдападобна, станемся чыстымі і злучымся зь іншымі, гэтакімі-ж самымі, як мы, бесцялеснымі існаваньнямі і ўласнымі сіламі пазнацімем усё, што ня мае дамешкі, а гэта-ж і ёсьць праўда. Не дазваляецца нячыстаму сутыкацца з чыстым. Вось што, як мне здаецца, Сімміяс, абавязкава павінны гаварыць адзін аднаму ўсе, што запраўды імкнуцца да веды і гэткага пагляду павінны трымацца. Ці згаджаешся ты са мною?

— Зусім згаджаюся, Сакратас.

— Калі гэта ёсьць правільным, мой дружа, — сказаў Сакратас, — тады можна мець вялікую спадзею, што там, куды я цяперака іду, як-раз тамака, баржджэй чымся дзе-небудзь інакш, мы ў паўніні асягнем мэту, дзеля якой праз усё жыцьцё гэтулькі было праяўлена натугаў; затым вызначанае мне падарожжа я пачынаю з добрым спадзяваньнем, — як кажны чалавек, які верыць, што ачысьціў свой розум і гэтым прывёў яго ў стан належнае гатоўнасьці.

— Пэўна, — адказаў Сімміяс.

— А ці ачышчэньне, якое гэтак часта было ўспамінаным ў нашых гутарках, не выяўляецца ў тым, каб як найболей старанна аддзяліць душу ад цела, прывучыць яе зграмаджвацца адсюль зь цела, засяроджвацца самой у сабе і жыць, наколькі магчыма, — у сучасным і будучым — на самоце з сабою, вызваліўшыся ад цела, быццам з путаў?

— Вельмі праўдзіва, — сказаў Сімміяс.

— Ці-ж не называецца гэта як-раз сьмерцяю — гэта значыць асвабаджэньне і аддзяленьне душы ад цела?

— Адносна гэтага няма сумліву, сказаў ён.

— Вызваліць яе, — цьвердзім мы, — заўсёды і з найбольшаю ўпорыстасьцю жадаюць толькі тыя, што запраўды любяць мудрасьць, у гэтым як-раз і заключаюцца філязафічныя практыкаваньні — у асвабаджэньні і аддзяленьні душы ад цела. Так гэта ці не?

— Здаецца, гэтак.

— Тады, як я ўжо сказаў на пачатку, чалавек усё жыцьцё прыгатаўляў самога сябе, жыць гэтак, каб быць як найбліжэй да сьмерці, а пасьля, калі сьмерць, нарэшце, прыходзіць да яго, сумуе і абурваецца. Ці-ж ня сьмешна гэта?

— Ведама, што сьмешна.

— Але́, Сімміяс, — працягваў Сакратас, — тыя, што запраўды любяць мудрасьць, думаюць пра сьмерць, і ніхто на сьвеце не баіцца яе меней, чымся гэтыя людзі. Сам падумай. Калі яны ста́ла адносяцца воража да свайго цела і імкнуцца асамоціць, адасобіць душу, а калі гэта займае месца, палохаюцца і злуюцца, — дык гэта-ж найчысьцейшая бязглузьдзіца! Як-жаж не адчуваць радасьці, адыходзячы туды, дзе чалавек спадзяецца знайсьці тое, да чаго імкнуўся цэлае жыцьцё, (і любіў-жа разуменьне), і ўвольніць сябе ад прысутнасьці старога свайго ворага! Многія зь людзей жадалі зыйсьці ў магілу пасьля сьмерці каханага, су́жаніцы або сына, прыцягваныя спадзеяй сустрэчы са сваімі жаданымі і болей зь імі ўжо не разлучацца. А чалавек, які запраўды любіць разуменьне і пранікся ўпэўненасьцю, што нідзе не асягне яго ў паўніні, як толькі ў іншым сьвеце, — будзе-ж гэтакі чалавек злавацца, калі надыйдзе сьмерць і адыйдзе ў суме?! — Вось як трэба нам разважаць, дружа мой, Сімміяс, калі мы гаворым пра запраўднага філёзафа, бо ён будзе зусім перакананым, што нідзе ў ніякім іншым месцы ня прысупольніцца да розуму ўва ўсенькай ягонай чысьціні. Затым, паўтараю, ці-ж ня ёсьць гэта найчысьцейшая бязглузьдзіца, каб гэтакі чалавек баяўся сьмерці?

— Запраўды, гэта была-б бязглузьдзіца, — сказаў Сімміяс.

— А калі ты ўбачыш чалавека, якога блізкая сьмерць палохае і засмучвае, ці ня сьведчыць гэта з дастатковым перакананьнем, што ён любіць ня мудрасьць, а цела? Магчыма ён будзе чалавекам, які любіць багацьце

або гонары, або тое і гэтае разам.

— Пэўна, гэтак і ёсьць, як ты кажаш, — адказаў ён.

— А цяперака, Сімміяс, тое, што называюць мужнасьцю, ці ня ёсьць свомым у найвышэйшай ступені людзям, якіх мы называем філёзафамі?

— Так, напэўна.

— Ну, а ўстрыманьне, якое нават натоўп уважае як рэгуляваньне і кантролю над жарсьцямі і адносіцца да іх з пагардаю і паўстрымана, — ці ня свомым яно ёсьць толькі тым, хто найболей пагарджае целам і жыве любоўю да мудрасьці?

— Гэтак і павінна быць, — сказаў ён.

— Бачыш, — працягваў далей Сакратас, — калі затрымаешся над мужнасьцю і ўстрыманьнем іншых людзей, ты спасьцеражэш супярэчнасьць.

— Як гэта, Сакратас?

— Ты-ж ведаеш, што ўсе іншыя людзі лічаць сьмерць за вялікае зло?

— Ды яшчэ якое!

— А ці не затым некаторыя зь людзей адважна спатыкаюць сьмерць, бо яны баяцца спаткаць яшчэ большае зло?

— Зусім трапна.

— Значыцца, усе, апрача філёзафаў, стаюцца адважнымі з прычыны страху і спалоханьня. Але быць адважным з прычыны жаху, з прычыны трывогі — ні з чым не ўсуадношваецца!

— Напэўна.

— Паглядзем цяперака на людзей прыстойных. Калі іншыя прыстойныя, дык і тут назіраем тое самае: яны верныя ўстрыманьню ў сілу асаблівага роду распушчанасьці. „Гэта немагчыма!“ — скажам мы, а ўсё-ж яно гэтак меней ці болей і ёсьць з тупаватым устрыманьнем. Тыя, каму яно свома, паўстрымліваюцца ад адных прыемнасьцяў, затым, што баяцца згубіць іншыя, вельмі жадаюць іх і суцэльна знаходзяцца ў іхнай уладзе.

Хоць распушчанасьцю называюць падданасьць роскашам, усё-ж выходзіць, што гэтыя людзі, здаючыся на ласку адных роскашаў, самыя перамагаюць іншыя. Гэтак і выходзіць, як толькі што сказалі мы: у пэўным сэнсе гэтага слова яны ўстрыманыя якраз дзякуючы разнузданасьці.

— Выглядае, што гэтак.

— З другой стараны, замена страху або прыемнасьці ці цярпеньня на іншы страх або прыемнасьць ці цярпеньне, і большае на меншае, так, быццам яны былі манэтамі, — ня ёсьць практыкай у сфэры мужнасьці. Не, мой дарагі Сімміяс, існуе толькі адна запраўдная манэта — разуменьне, і толькі на замену яго павінна аддавацца ўсё: толькі ў гэткім выпадку будзе няпрытворнае мужнасьць, устрыманасьць і справядлівасьць. Кораткa кажучы, запраўдная мужнасьць злучана з мудрасьцю, бяз розьніцы на тое, ідуць зь ёю разам роскашы, страхі і ўсё іншае гэтаму падобнае ці ня ідуць. Але, калі іх аддзяліць ад мудрасьці і замяніць адно на другое, гэткага роду мужнасьць ёсьць нічым іншым, як пустым спазорам, нявольніцкаю рэчаю, ня маючаю ў сабе ані здароўя, ані праўды. І праўда, фактычна, зьяўляецца ачышчэньнем ад усіх гэтых рэчаў, а ўстрыманасьць, мужнасьць і мудрасьць зяўляюцца сродкамі ачышчэньня. І магчыма, што тыя, каму мы заўдзячваем устанаўленьне тайніцаў, ня гэткімі ўжо і простымі былі, і ў старавечнасьці адхілілі знамя, што той, хто адыйшоў у іншы сьвет непасьвенчаным, будзе ляжаць у балоце, а ачышчаныя і тыя, што прынялі пасьвенчаньне, пасьля сьмерці аселюцца сярод багоў. Гэтак як і кажуць сьведамыя ў тайніцах, „многа галіну нясучых, але мала адухоўленых містэрыяю“, і „адухоўленыя містэрыяю“ тутака, як я разумею, гэта тыя, што праўдзіва любілі мудрасьць. Адным із іх імкнуўся стацца і я — усё жыцьцё, усімі сіламі, нічога не прапускаючы. Ці трапна я імкнуўся, і ці асягнуў нешта, даведаюся я

дакладна, калі гэта будзе да спадобы Богу, калі прыйду ў той іншы сьвет. Чакаць ужо асталося нядоўга, як я разумею.

Вось вам мая абаронная мова, Сімміяс і Кэбэс; вось зачым я астаюся спакойным і бадзёрым, пакідаючы вас і тутэйшых валадароў у перакананьні, што і там знайду добрых валадароў і прыяцеляў, як знайшоў іх тутака. І, калі-б мая мова выдалася вам болей пераконваючай, чымся атэнскім судзьдзям, было-б вельмі добра.

Калі Сакратас кончыў гаварыць, уключыўся ў гутарку Кэбэс:

— Сакратас, — сказаў ён, — агулам кажучы, на мой пагляд, ты прыгожа гаварыў, апрача аднае рэчы: тое, што ты казаў пра душу, выклікае ў людзей вялікі сумліў. Яны думаюць, што, аддзяліўшыся ад цела, душа болей ня існуе, шчазае ў той самы дзень, калі чалавек памірае. Выйшаўшы зь цела, яна разьвейваецца быццам дыханьне ці дым, разыходзіцца і ніколі ўжо ня існуе. Калі-б, запраўды, душа магла дзе-небудзь сузграмадзіцца сама сабою дый яшчэ збаўленая ад усіх ліхаў, якія ты толькі што ўспомніў, гэта было-б, Сакратас, крыніцаю вялікае і радаснае спадзеі, што словы твае — праўда. Але, што душа памершага далей жыве, і, што яна ма́е пэўную сілу і здольнасьць думаць — гэта, як мне здаецца, вымагае паважных доказаў і дакладных паясьненьняў.

— Гэта праўда, Кэбэс, — адказаў Сакратас. — І што-ж мы маем рабіць? Ці не хацеў-бы ты запрапанаваць гутарку, каб даведацца: можа гэтак быць ці не?

— Што да мяне, — сказаў Кэбэс, — вельмі хацеў-бы даведацца што́ ты думаеш пра гэта.

Тады Сакратас адказаў:

— Мне здаецца, што цяперака ніхто, нават камічны

паэт, не адважыцца сказаць, быццам я бяз прычыны чаўпу языком і разводжуся пра рэчы, якія да мяне не адносяцца і да якіх я ня ма́ю ніякага дачыненьня. Затым, калі ты хочаш, мы можам пачаць нашае разважаньне.

— Найляпей, — працягваў Сакратас, — пачаць вось зь якога пытаньня: Знаходзяцца душы памершых у доме Гадэсу ці не? Існуе сівы пераказ, — мы ўжо ўспаміналі пра яго, — што душы, якія адыйшлі адгэтуль, знаходзяцца тамака і зноў вяртаюцца сюды, узьнікаючы са сьмерці. Калі гэта праўдаю ёсьць, што жывыя зноў родзяцца са сьмерці, дык, ці не павінны былі быць нашыя душы ў доме Гадэсу? Калі-б іх там ня было, яны не маглі-б узьнікнуць, і калі-б мы з поўнаю яснасьцю адкрылі, што жывыя ўзьнікаюць з памершых і ніколі інакш, гэта было-б дастатковым доказам трапнасьці нашае думкі. Але, калі ўсё гэта не адказвае праўдзе, тады павінны мы пашукаць іншых доказаў.

— Пэўна, — адказаў Кэбэс.

— Тады, — казаў далей Сакратас, — каб табе было лягчэй зразумець, не абмяжоўвайся выключна аднымі людзьмі, але паўзірайся шырэй, паглядзі на ўсенькую жывёлу, на расьліны, інакш кажучы, на ўсё, чаму своым ёсьць узьніканьне, і давай падумаем, ці ня гэтак узьнікае ўсё наагул: супроцьлежнае із супроцьлежнага — у кажным выпадку, калі наяўным ёсьць дзьве супроцьлежнасьці. Вазьмем, напрыклад, прыгожае і брыдкае, або справядлівае і несправядлівае, або тысячы іншых супроцьлежнасьцяў. Давай запытаем самых сябе: калі існуюць дзьве супроцьлежныя рэчы, ці неабходным ёсьць, каб адна ізь іх абавязкава ўзьнікала з другое — ёй супроцьлежнай? Напрыклад, калі што-небудзь стаецца большым, ці значыць гэта зь неабходнасьцю, што спачатку было яно меншым, а пасьля з меншага ставалася большым?

— Так.

— Значыцца, калі яно стаецца меншым, дык было большым перад гэтым і пасьля гэтага сталася меншым?

— Так.

— І слабое ўзьнікае з моцнага, а хуткае з павольнага?

— Напэўна!

— Вельмі добра, а калі нешта стаецца горшым, дык ці ня зь лепшага? А калі справядлівае, дык мусіць з несправядлівага? Ці-ж ня так?

— Я думаю, што гэтак.

— Значыцца, мы дастаткова пераканаліся, што ўсё ўзьнікае гэткім спосабам — супроцьлежнае з супроцьлежнага?

— Але́.

— Тады пойдзем далей. Ці нямашака паміж усякімі дзьвюма супроцьлежнасьцямі нечага пасярэдняга? Затым, што супроцьлежнасьці дзьве, дык магчымымі зьяўляюцца два пераходы — ад аднае супроцьлежнасьці да другое, або наадварот — ад другое да першае. Напрыклад, паміж большаю рэчаю і меншаю магчымымі зьяўляюцца ўзбольшваньне і зьменшваньне, затым, пра першую мы кажам, што яна ўзбольшваецца, а пра другую — што зьменшваецца.

— Натуральна, — сказаў Кэбэс.

— Гэтаксама рэч маецца са злучэньнем і распадзелам, з ахалоджваньнем і награваньнем ў розных іншых выпадках; магчыма не заўсёды мы знойдзем адпаведнае для выпадку слова, але ў сутнасьці сваей гэта заўсёды гэтак: супроцьлежнасьці ўзьнікаюць адна з другое, і пераход гэты ўзаемны.

— Вельмі трапна, — адказаў той.

— А цяперака, — казаў Сакратас, — ці існуе супроцьлежнасьць жыцьцю, як сон зьяўляецца супроцьлежнасьцю прабуджанасьці?

— Напэўна, існуе.

— І што-ж гэтым ёсьць?

— Сьмерць, — адказаў Кэбэс.

— Значыцца, калі яны супроцьлежнымі, дык узьнікаюць адна з другое, і калі гэта дзьве супроцьлежнасьці, дык паміж імі магчымымі ёсьць два пераходы.

— Напэўна!

— Тады я буду гаварыць пра адну з дзьвёх параў, якія толькі-што ўспомніў, — сказаў Сакратас, — і зьвязаныя зь ёю пераходы, а ты прааналізуеш мне другую. Я кажу: сон і прабуджанасьць, і із сну ўзьнікае прабуджанасьць, а з прабуджанасьці — сон, а пераходы ў дадзеным выпадку называюцца засынаньнем і прабуджэньнем. Ці здавальняешся ты гэтым?

— Зусім.

— Гэтакім самым спосабам скажы мне цяперака пра жыцьцё і сьмерць. Ты згаджаешся з тым, што сьмерць супроцьлежна жыцьцю?

— Згаджаюся.

— І, што яны ўзьнікаюць адна з другое?

— Так.

— Значыцца, із таго, штó жыве — штó ўзьнікае?

— Памершае, — сказаў Кэбэс.

— А з памершага што? — пытаў Сакратас.

— Мушу прызнацца, што жывое, — сказаў Кэбэс.

— Значыцца, Кэбэс, жывое і жывыя ўзьнікаюць з памершых?

— Выглядае гэтак.

— Значыцца, нашыя душы прабываюць у доме Гадэсу?

— Гэтак выглядае.

— Тады з двух пераходаў, зьвязаных з гэтым працэсам, адзін зусім спасьцярожны? Бо-ж паміраньне — зьявішча зусім спасьцярожнае? Ці згаджаешся ты са мною?

— Пэўна, што згаджаюся, — сказаў ён.

— І які-ж мае быць рэзультат? Маем-жа мы выключыць працэс супроцьлежнасьці? Маем мы дапусьціць, што натура кульгае на адну нагу? А мо' павінны мы

ўраўнаважыць паміраньне нейкім супроцьлежным пераходам?

— Я думаю, што павінны.

— Тады якім-жа?

— Ажываньнем.

— Але, калі ажываньне існуе, дык чым будзе яно, гэтае ажываньне? Ці не пераходам з мертвых у жывое?

— Напэўна.

— Значыцца, мы згодны з табою ў тым, што жывыя ўзьніклі з мертвых, гэтаксама, як мертвыя з жывых. Калі гэта праўдаю ёсьць, дык мы маем ужо дастатковы, як мне здаецца, доказ, што душы памершых павінны існаваць недзе, скуль яны зноў вяртаюцца ў жыцьцё

— Так, Сакратас, мне здаецца, што гэта няўхільны выснаў з усяго таго, у чым мы з табою згадзіліся, — сказаў Кэбэс.

— Можна яшчэ інакш зірнуць на гэта, Кэбэс, — сказаў ён, — і бачыць іншы доказ на карысьць таго, што не дарэмна, як мне здаецца, прыйшлі мы з табою да сузгоднасьці пагляду. Калі-б узьнікаючыя супроцьлежнасьці не ўроўнаважвалі-б ста́ла адна другую, быццам вырысоўваючае кола, калі-б узьніканьне ішло ўздоўж простае лініі, толькі ў вадным напрамку і ніколі не вяртаючыся назад, у супроцьлежную сторану, — дык ты сам разумееш, што ўсё, у сваім апошнім завяршэньні, прыняло-б адзін і той самы від, займела-б адны і тыя самыя свомасьці, і ўзьніканьне спынілася-б.

— Як гэта ты разумееш? — спытаў Кэбэс.

— Вельмі проста, — адказваў Сакратас. — Уяві сабе, напрыклад, што існуе толькі засынаньне і, што прабуджэньне са сну не ўроўнаважвае яго, — дык ты лёгка зразумееш, што ў сваім завяршэньні пераказ пра сьпячага Эндыміёна згубіў-бы сваё значэньне, бо ўсе іншыя рэчы патанулі-б у сон. І, калі-б усе рэчы толькі злучаліся, спыніўшы распадзел, дык вельмі хутка тое, пра што кажа Анаксаґорас, паймення, што „ўсе рэчы ра-

зам“, [хаос], вярнуліся-б назад. Гэтаксама, мой дарагі Кэбэс, калі-б кажная рэч, якая тоіць у сабе якое-небудзь жыцьцё, памірала, і, памершы, аставалася-б памершаю і не ажывала-б зноў, — дык ці-ж не стаецца зусім ясным, што, у апошнім падсумаваньні, усё сталася-б мертвым і жыцьцё шчэзла-б? Бо, калі-б жывыя рэчы ўзьнікалі зь нечага іншага, чымся са сьмерці, а жывое памірала, дык усе рэчы мусілі-б быць праглынутымі сьмерцяю, і якім тады спосабам можна было-б ухіліцца ад агульнае сьмерці і зьнішчэньня?

— Ніякім, як мне выдаецца, Сакратас, — сказаў Кэбэс, — і, як я гэта разумею, тое, што́ ты кажаш, зусім трапным ёсьць.

— Так, Кэбэс, гэтак ёсьць і мусіць быць, як мне выдаецца, — сказаў Сакратас, — і, што мы ня зводзім сябе, чынячы падобнае дапушчэньне; я поўны спадзеі, што запраўды існуе гэткае зьявішча, як ажываньне і ўзьніканьне жывых з памершых, і, што душы памершых знаходзяцца ў існаваньні, і, што добрыя з пасярод іх маюць лепшую частку, а дрэнныя — горшую.

— Ёсьць яшчэ іншая рэч, — дадаў хутка Кэбэс, — твае думкі падтрымлівае яшчэ адзін доказ, калі толькі праўдзівым ёсьць тое, аб чым ты гэтак часта раней казаў, пайменна, што веданьне не зьяўляецца нічым іншым, як прыпамінаньнем. Гэта значыць, што тое, што́ мы цяперака прыпамінаем, мы павінны былі ведаць калісьці ў мінулым, вось што няўхільна выцякае з гэтага доказу. Але гэта было-б немагчымым, калі-б нашая душа ўжо не існавала недзе, перад тым, як зьявілася ў нашым людзкім выглядзе. Тут і знаходзіцца яшчэ адзін доказ, што душа несьмяротнай ёсьць.

— Якія-ж доказы існуюць на гэта, Кэбэс? — уступіў у гутарку Сімміяс. — Прыпомні мне, я нешта забыў.

— Існуе адзін вельмі прыгожы доказ, — сказаў Кэбэс, — заключаецца ён у тым, што, калі чалавека аб чым-небудзь пытаюцца, ён сам можа даць трапны ад-

каз на любое пытаньне — пад умовою, што само пытаньне пастаўлена правільна. Між іншым, калі-б у людзях ня было веданьня і правільнага разуменьня, дык яны не маглі-б правільна адказаць. І апрача таго: калі ты пакажаш чалавеку тэхнічны рысунак або нешта падобнае да гэтага, дык пераканаешся, што гэтак і ёсьць.

— Калі ты, Сімміяс, і цяперака сумняваешся, — сказаў Сакратас, — дык паўзірайся, ці ня згодзішся ты зь іншымі магчымасьцямі думкі, гэткімі, напрыклад: Ты сумняваешся, што тое, што́ называюць веданьнем, можа быць прыпамінаньнем?

— Не, я як-раз і не сумняваюся, — адказаў Сімміяс.— Мне патрэбна толькі адно, і як-раз тое, пра што цяперака ідзе гутарка — прыпомніць. Кэбэс толькі адно пачаў разважа́ць — як я ўжо ўсё памятаю і бадай-што згодзен з вамі. І, ня гледзячы на гэта, мне хацелася-б пачуць, як ты будзеш разважаць аб гэтым.

— Я скажу вось што, — адказаў Сакратас. — Мы абыдвое, зразумела, згаджаемся ў тым, што, калі чалавек ма́е што-небудзь прыпомніць, дык ён павінен быў ведаць гэта загадзя?

— Пэўна.

— Тады, ці згодзімся мы з тым, што веданьне, калі яно прыходзіць гэткаю дарогаю, зьяўляецца прыпамінаньнем? Тое, што́ я ма́ю на ўвазе, можна яшчэ гэтак выразіць: калі чалавек, угледзіўшы нешта або пачуўшы, ці ўцяміўшы іншым якім-небудзь пачуцьцём, ведае ня толькі гэта, але прыразважвае яшчэ нешта іншае, што́ належыць да іншага веданьня, — дык ці-ж ня маем мы рацыі цьвердзіць, што ён прыпомніў тое, аб чым думае?

— Як гэта ты кажаш?

— Вось табе прыклад: Ведаць чалавека і ведаць ліру — гэта розныя веданьні?

— Натуральна.

— Ты, напэўна, ведаеш, што́ чуюць закаханыя, калі

ўбачаць ліру або частку вопраткі, або што-небудзь іншае з рэчаў свайго каханага: яны пазнаюць ліру і тут-жа ў памяці ўзьнікае вобраз юнака, да якога ліра належыць. Гэта і ёсьць прапамінаньне. Гэтксама, калі бачаць Сімміяса, часта прыпамінаюць Кэбэса. Можна было-б прывесьці тысячы падобных прыкладаў.

— Безьліч, запраўды, — адказаў Сімміяс.

— Затым, гэта свайго роду прыпамінаньне, — цягнуў далей Сакратас. — Асабліва, як мне здаецца, трэба гаварыць аб прыпамінаньні, калі маем на ўвазе рэчы забытыя з часам, і даўно ня бачаныя?

— Вельмі трапна, — сказаў ён.

— Добра, — сказаў Сакратас. — А цяперака скажы мне, ці магчыма, убачыўшы нарысованага каня або нарысаваную ліру, прыпомніць раптам чалавека? Або, убачыўшы нарысованага Сімміяса, успомніць Кэбэса?

— Ведама, што магчыма.

— А ўбачыўшы нарысованага Сімміяса, прыпомніць самога Сімміяса?

— Так.

[— Нават тады, калі яны падобнымі да сябе або непадобнымі?

— Так.

— Бяз розьніцы, — сказаў ён. — Для прыпамінаньня неабходным ёсьць, што, угледзіўшы вобраз аднае рэчы, думаецца пра другую рэч, і ўсяроўна, будуць яны падобнымі ці непадобнымі.]

— Ці ня выходзіць з усяго гэтага, што прыпамінаньне можа быць выкліканым часамі падобнасьцю, а часамі непадобнасьцю?

— Выходзіць.

— Калі чалавек прыпамінае нешта на падставе падобнасьці, ці не здараецца пры гэтым, што ён спатыкаецца з пытаньнем, наколькі гэтая падобнасьць дакладная ці не дакладная з тым, што́ прыпамінаецца?

— Гэтак здараецца.

— Тады падумай, — сказаў ён, — ці гэта правільна. Уявем сабе , што існуе нешта, што́ мы называем роўнасьцю, — я ня ма́ю на ўвазе, што кусок дрэва можа быць роўны зь іншым такім куском дрэва, камень роўны з каменьнем ці падобнае, але нешта іншае, апрычонае ад ўсяго гэтага, — самую роўнасьць як гэткую. Згаджаемся мы, што яна існуе, ці не згаджаемся?

— Згаджаемся, — сказаў Сімміяс, — запэўніваю цябе, што ў гэтым няма сумліву.

— Ці ведаем мы, што гэта такое?

— Пэўна, што ведаем.

— Але скуль мы маем гэтую веду? Ці ня з тых рэчаў, пра якія толькі што мы гаварылі? Назіраючы роўныя кускі дрэва, або каменьні, ці яшчэ што-небудзь падобнае, праз іх мы атрымліваем іншае, што адрозьніваецца ад іх. Ці ня бачыш ты розьніцы? Калі так, дык паглядзі вось як: здараецца, што роўныя кускі дрэва або каменьні хоць і астаюцца бяззьменнымі, а ўсё-ж аднаму чалавеку выдаюцца роўнымі, і іншаму — няроўнымі?

— Ведама, што здараецца.

— Ну, а роўнасьць як гэткая, абсалютная — не здаралася, каб яна выдалася табе няроўнай, гэта значыць, каб роўнасьць здалася табе няроўнасьцю?

— Ніколі, Сакратас!

— Значыцца, гэта не адно і тое самае, — сказаў Сакратас, — роўныя рэчы і сама роўнасьць як гэткая.

— Зусім не, я думаю, Сакратас.

— Ня гледзячы на гэта, усё-ж з гэтых роўных рэчаў, хоць і непадобных да самога паняцьця роўнасьці як гэткай ты атрымліваеш і здабываеш веду аб гэтым.

— Вельмі праўдзіва, — сказаў ён.

— Паміж ёю і рэчамі можа існаваць або падобнасьць, або непадобнасьць?

— Правільна.

— Але гэта без значэньня. Кажны раз, — казаў далей Сакратас, — калі спазор аднае рэчы выклікае ў

цябе думку іншае, падобнае да першае ці непадобнае, — гэта і ёсьць прыпамінаньне.

— Вельмі добра сказана.

— І што ты скажаш адносна кускоў дрэва і іншых роўных рэчаў, пра якія толькі-што мы гаварылі, што ты думаеш пра іх? Выяўляюцца яны нам роўнымі ў тым вымеры, як роўнасьць сама ў сабе, або ім нечага нехапае, каб зраўняцца зь ёю?

— Нехапае, і шматлікага нехапае.

— Уяві сабе, — сказаў Сакратас, — што чалавек, убачыўшы які-небудзь прадмет, падумае: „Тое, што я цяперака бачу, хоча ўпадобніцца да нечага з-пасярод існуючага, але гэтакім дакладна стацца ня можа, затым астаецца ніжэйшым і горшым.“ Ці згодзімся мы з тым, што чалавек гэты абавязкава павінен быў загадзя ведаць другі прадмет, які ён знаходзіць падобным да першага, хоць і не дакладна?

— Абавязкава згодзімся.

— Добра. Ці-ж ня гэткае ўражаньне ў нас астаецца, калі гутарка ідзе пра роўныя рэчы і роўнасьць абсалютную?

— Зусім гэткае.

— Значыцца, мы абавязкава павінны былі ведаць роўнасьць як гэткую яшчэ да таго, як першы раз убачым роўныя прадметы і ўцямім, што ўсе яны імкнуцца быць гэткімі самымі, як роўнасьць абсалютная, але ў суцэльнасьці гэтага не асягаюць.

— Напэўна.

— Згодзімся мы, напэўна, і з тым, што гэткая думка родзіцца і можа ўзьнікнуць ня інакш, як пры помачы ўзроку, дотыку ці іншага пачуцьцёвага ўспрыйма. І тое, што я кажу тут, аднолькава адносіцца да ўсіх пачуцьцяў.

—Але́, аднолькава, Сакратас. Прынамся, да тае пары, пакуль мы маем на ўвазе наш доказ.

— З пачуцьцяў, затым, выцякае веда, што ўсё, атрым-

ліванае пачуцьцямі, імкнецца да абсалютнае роўнасьці, не асягваючы, аднак-жа, свае мэты? Кажам мы гэтак ці інакш?

— Але́, гэтак.

— Але перад тым, як мы пачалі бачыць, чуць ці наагул адчуваць, мы мусілі ўжо мець веду адносна абсалютнае роўнасьці, калі нам выпала ўсуаднесьці роўнасьці, якія мы асягаем пачуцьцямі, разумеючы, што ўсе яны жадаюць стацца гэтакімі, як яна, але ўступаюць ёй няпоўнасьцю.

— Гэта стаецца няўхільнасьцю перад тым, што мы ўжо сказалі, Сакратас.

— З таго першага дня, калі мы радзіліся, мы бачым, чуем і наагул адчуваем.

— Напэўна.

— Значыцца, мы мусілі мець веду роўнасьці ў нейкім яшчэ папярэднім часе?

— Так.

— Інакш кажучы, раней, чымся мы нарадзіліся?

— Выглядае гэтак.

— І калі мы атрымалі веду да нараджэньня і прыйшлі зь ёю на сьвет, дык, напэўна, мы ведалі — і да нараджэньня і хутка пасьля нараджэньня — і ня толькі роўнае, большае ці меншае, але ўсе іншыя паняцьці? Бо-ж не на адну ідэю роўнасьці распасьціраецца наш доказ, але, гэтаксама і на паняцьце прыгожага, добрага, як гэткага, і справядлівага, і сьвятасьці, інакш кажучы, як я ўжо і казаў, на ўсё, што мы ў сваіх гутарках, ставячы пытаньні і, шукаючы адказы, адцемліваем пячацьцю „сутнасьці быцьця“. Дык вось — мы павінны былі ведаць усё гэта яшчэ перад нашым нараджэньнем.

— Гэта праўда.

— Але, калі-б аднойчы пазнаўшы, мы ўжо не забывалі, дык кажны раз павінны нарадзіцца, карыстаючыся гэтаю ведаю і сьцерагчы яе да канца жыцьця. Бо што значыць „ведаць“? Здабыць веду і ўжо ня губіць яе.

І забыцьцё, калі я не памыляюся, Сімміяс, ёсьць ні чым іншым, як страта веданьня.

— Гэта праўда, Сакратас.

— Але, калі веда, якую мы мелі перад нараджэньнем, была згублена ў часе нараджэньня, і, калі пасьля гэтага пры ўжыцьці нашых пачуцьцяў мы вяртаем тое, што раней мы ведалі, ці ня будзе працэс, які мы называем навукаю, адно вярненьнем веды, якая зьяўляецца натуральнаю для нас, і ці ня будзе вось гэта правільна названа „прыпамінаньнем“?

— Праўдзіва сказана.

— Бо бачыш, як выясьнілася — зусім магчыма, каб чалавек, агарнуўшы што-небудзь пры помачы зроку, слуху або іншага якога пачуцьця, з прычыны падобнасьці або непадобнасьці гэтага прадмету, зараз за гэтым падумаў пра нешта другое, штó з часам забылася. Затым, як я ўжо казаў, выплывае адна з двух альтэрнатываў: — або мы мелі веду ў часе нараджэньня і ведаем на працягу ўсенькага жыцьця; або, пасьля нараджэньня, тыя, пра каго мы кажам, што вучацца, у запраўднасьці толькі прыпамінаюць, затым навука, у гэткім выпадку, трапна была-б названа прыпамінаньнем.

— Гэтак яно і ёсьць у запраўднасьці, Сакратас.

— І якую-ж ты выбіраеш альтэрнатыву? Мелі мы ўжо веду ў часе нараджэньня, ці прыпамінаем рэчы, якія ведалі мы перад нашым нараджэньнем?

— Пакуль-што я яшчэ не магу зрабіць выбару, Сакратас.

— Тады, вось табе іншае пытаньне: — Што ты думаеш, калі чалавек нешта ведае, ці можа ён выразіць свае веданьні словамі, ці ня можа?

— Я думаю, што можа, Сакратас, — сказаў Сімміяс.

— Думаеш ты, што ўсе могуць ясна выразіцца пра тое, аб чым мы цяперака гаворым?

— Хацеў-бы я гэтак думаць, адказаў Сімміяс, — але баюся, што заўтра ў гэтым часе, ня будзе ўжо на сьвеце

чалавека, які змог-бы гэта зрабіць належна.

— Тады, Сімміяс, ці ня думаеш ты, што рэчы гэтыя ведамыя ўсім людзям?

— О, не!

— Значыцца, людзі прыпамінаюць тое, што ведалі калісьці?

— Мусяць.

— Але калі выяўляюцца ў нашых душах гэтыя веданьні? Мусіць-жаж не пасьля таго, як мы радзіліся ў людзкім вобліку?

— Напэўна, не!

— Дык што, раней?

— Так.

— Дык вось, Сімміяс, нашыя душы існавалі ўжо перад тым, як яны прынялі людзкі воблік, па-за целам, і тады ўжо мелі розум.

— Так, калі толькі, Сакратас, мы не здабываем гэтыя веданьні ў той самы мамэнт, калі родзімся: — час, які мы яшчэ не ўзялі пад увагу.

— Няхай будзе гэтак, як ты кажаш, дружа, але тады, у якім-жа часе мы іх губім? Бо-ж мы ня родзімся з гэтымі веданьнямі — у чым мы згадзіліся. Магчыма, мы губім іх у той мамэнт, у якім і здабываем.

— О, не, Сакратас. Цяперака я толькі бачу, што ня хочучы, я сказаў недарэчнасьць.

— Тады, Сімміяс, ці ня можам мы вось што сказаць: — калі існуе тое, пра што мы гэтак часта гаворым, гэта значыць — прыгожае, і добрае, і ўсякая іншая сутнасьць гэткага роду, да якое мы падцягваем усё атрыманае ў пачуцьцёвым успрыйме, прычым выяўляецца, што яна была раней часткаю нашага веданьня, — і, калі гэта так, дык з той--жа неабходнасьцю, з якою існуе гэтая сутнасьць, існуе і наша душа, перад тым, як мы родзімся на сьвет. Калі-ж яна ня існуе, дык ці не пайшло-б нашае разважаньне зусім інакш? Існуе гэты самы доказ неабходнасьці існаваньня запраўднае сутнасьці быцьця,

і нашых душаў яшчэ да нашага нараджэньня; гэта значыць, калі няма аднаго, дык няма і другога [— душы].

— Так, Сакратас, — адказаў Сімміяс. — Я перакананы, што існуе тая самая неабходнасьць для аднаго, як і для другога. Нашае разважаньне адыйшло на найлепшую пазыцыю, калі яно ўтрымлівае ў ваднолькавай меры, што душы існуюць перад нашым нараджэньнем, гэтаксама, як сутнасьці, пра якія ты кажаш. Нічога болей ясьнейшага для мяне няма, як тое, што існуюць найболей праўдападобна гэтакія рэчы, як прыгожае, добрае і іншыя, пра якія ты толькі што гаварыў. І я думаю, што гэта дастаткова даказана.

— А што Кэбэс? — запытаў Сакратас. — Трэба і яго пераканаць.

— Я думаю, — сказаў Сімміяс, — што Кэбэс здаволены, хоць ён як ніхто іншы на сьвеце праяўляе найбольшую асьцярожнасьць і скэптыцызм. І, ня гледзячы на гэта, мне здаецца, што ён пераканаўся, што душа наша існавала да таго, пакуль мы нарадзіліся. Але, ці будзе яна існаваць і пасьля таго, калі мы памрэм, гэта і мне, Сакратас, выдаецца яшчэ не даведзеным. Мы ўсё яшчэ стаімо перад тым, што́ вось цяперака казаў Кэбэс: што са сьмерцяю чалавека, душа зараз-жа разьвейваецца і існаваньне яе на гэтым канчаецца, як многія кажуць. Запраўды, дапусьцім, што яна нават узьнікла і схвармавалася недзе на іншым месцы і існавала перад тым, як увайшла ў людзкое цела, — але ці гэта перашкаджае ёй, пасьля таго, як яна ўвойдзе ў цела, а пасьля выйдзе зь яго, разваліцца самой і шчэзнуць назаўсёды?

— Гэта праўда, Сімміяс, — сказаў Кэбэс, — але даведзена толькі палова вымаганага, паймена, што душа наша існавала перад тым, як мы нарадзіліся. Трэба яшчэ давесьці, што, калі і памрэм мы, яна будзе існаваць гэтаксама, як і да нашага нараджэньня, калі довад наш мае быць поўным.

— Ён і цяперака ўжо поўны, Сімміяс і Кэбэс, — адказаў Сакратас, — калі вы зложыце ў вадно цэлае два довады — гэты і іншы, што да якога мы ўжо згадзіліся раней, пайменна, што ўсё жывое ўзьнікае з памершага. Калі наша душа існавала раней, дык, уваходзячы ў жыцьцё і родзячыся, яна ўзьнікае выключна і толькі са сьмерці, із стану памершага. Але ў гэткім выпадку яна няўхільна павінна існаваць і пасьля таго, як памрэ: бо-ж яна ма́е нарадзіцца зноў. Значыцца, тое, пра што вы гаворыце, ужо даведзена. І, ня гледзячы на гэта, мне здаецца, што і ты, і Сімміяс былі-б рады паглыбіць гэты довад, хоць-бы затым, што адчуваеце вы дзіцячы жах перад тым, каб, запраўды, вецер не разьвеяў душы, калі яна пакідае цела, асабліва тады, калі чалавеку выпала памерці не ў часе ціхае пагоды, а ў часе сільнага буралому.

Кэбэс усьміхнуўся і адказаў:

— Ну, што-ж, Сакратас, пастарайся пераканаць і вывесьці нас з нашага страху. Ляпей кажучы, ня думай, што мы як-раз баімося, як баржджэй тое, што быццам сядзіць у нас нейкае малое дзіцянё — яно вось гэтага ўсяго і баіцца. Пастарайся выклікаць у ім зьмену перакананьня,каб яно не палохалася сьмерці, быццам бэбы.

— Тады, — сказаў Сакратас, — прыдзецца кажны дзень чыніць над ім загаворы, пакуль ня выжанецца зь яго пярэпалах.

— Але скуль нам узяць зна́хара, дасьведчанага ў такіх загаворах, калі ты, Сакратас, адыходзіш ад нас?

— Гэльляда вялікая прастора, Кэбэс, — адказаў ён, — і напэўна знойдуцца дасьведчаныя людзі; і ня мала існуе барбарскіх плямёнаў і народаў, і ў пошуках гэткага знахара вам трэба абыйсьці ўсе краіны, не ашчаджваючы ані грошай, ані натугаў, бо няма на сьвеце нічога іншага, траціць на што грошы было-б болей апраўданым. Дый трэба азірацца, ці ня знойдзецца хто з па-

сярод вас: — мне здаецца, што вы ня гэтак лёгка знойдзеце чалавека, які быў-бы ў стане выканаць гэтую задачу ляпей за вашага.

— Мы ўчынім, Сакратас, гэтак, як ты кажаш, — сказаў Кэбэс.—Але вярнемся да таго, ад чаго мы адхіліліся, калі ты нічога ня маеш супроць гэтага.

— Нічога ня ўздымаю я супроць гэтага, — адказаў Сакратас, — я буду рад!

— Вельмі добра.

— Ці не павінны мы, — Сказаў Сакратас, — запытаць самых сябе, чым зьяўляецца тое, — як мы гэта разумеем, — што спрычыняе стан расьцярушаньня і чаго мы баімося? І, з другой стараны, чым зьяўляецца той стан, якога праяву мы не баімося? І тады мы павінны пайсьці далей і правесьці досьлед, ці гэты стан, стан расьцярушаньня зьяўляецца ці не зьяўляецца свомым для душы — і ўжо ў залежнасьці ад гэтага баяцца з прычыны нашае душы, ці аставацца спакойнымі з прычыны яе.

— Так, запраўды.

— Ці ня ёсьць так, што ўсё складзенае, усё, што было зложана натураю, паддадзена разлажэньню — гэта значыць, гэтак раскладаецца, як і зложаным было? І, з другой стараны, нескладзеная рэч, калі толькі існуе, не паддаецца працэсу разлажэньня?

— Я ўяўляю сабе гэтак, — сказаў Кэбэс.

— І няскладаныя рэчы, гэта тыя, што заўсёды сталыя і нязьменныя; а тыя, што ў залежнасьці ад часу неаднолькавыя і ня маюць свомасьці нязьменасьці — тыя складовыя.

— Я згаджаюся, — сказаў ён.

— Вернемся тады та таго, пра што мы гаварылі раней. Тая сутнасьць, якую мы апісалі ў нашых пытаньнях і адказах, — знаходзіцца заўсёды ў тым самым стане ці зьменьваецца? Ці можа роўнае як гэткае, пры-

гожае як гэткае і наагул усё існуючае як гэткае, гэта значыць быцьцё, быць паддадзена якой-небудзь зьмене? Ці наагул якая-небудзь з гэтых рэчаў,аднае формы і існуючая як гэткая, заўсёды нязьменная і аднолькавая, не паддаецца ніякай зьмене, пры ніякіх умовах, у ніякім часе і на ніякім месцы?

— Яны заўсёды мусяць аставацца ў тым самым стане, Сакратас, — адказаў Кэбэс.

— А што мы скажам адносна лічных прыгожых рэчаў, як напрыклад, адносна прыгожых людзей, коней або вопраткі, і іншых розных рэчаў, якія называюць тымі самымі імёнамі або прыгожымі, інакш кажучы, адносна ўсяго, што астаецца аднаіменным рэчам як гэткім. Яны гэтаксама астаюцца нязьменнымі, або, наўсуперак тым, першым, ані на хвіліну не астаюцца нязьменнымі ані самыя ў сабе, ані самыя да сябе?

— І зноў-жа правільна, — адказаў Кэбэс, — яны ніколі не захоўваюцца роўна, яны заўсёды зьменьваюцца.

— І ты можаш дакрануцца да гэтых рэчаў, убачыць або адчуць пры помачы нейкага пачуцьця, а тыя нязьменныя, іх ня можна асэнсаваць нічым, апрача разважаючаю думкаю — яны нявідныя і неспасьцярожныя?

— Вельмі пераконваюча!

— Тады прымем, што існуюць два роды існуючых рэчаў: — спасьцярожныя і нявідныя.

— Так.

— Нявідныя заўсёды нязьменныя, а спасьцярожныя — бесперапынна мяняюцца?

— Згаджаюся з гэтым.

— Хадзем далей, — сказаў Сакратас. — А ў нас самых: частка цела і частка душы?

— Так.

— Да якога-ж з двух радоў бліжэй цела?

— Кажнаму ясна, што да спасьцярожнага.

— А душа? — Да спасьцярожнага ці да нявіднага?

— Да нявіднага, — прынамся для людзей, Сакратас.

— Дый мы-ж увесь час гаворым пра тое, што спасьцярожна або нявідна для людзкае прыроды? А можа ты маеш што-небудзь іншае на ўвазе?

— Не, гэтаксама, як і ты.

— А пра душу? — Можна яе бачыць ці ня можна бачыць?

— Ня можна.

— Дык што, яна нявідна?

— Але́.

— Значыцца, у параўнаньні да цела, душа бліжэй да нявіднага, а цела ў параўнаньні да душы — да спасьцярожнага?

— З гэтага вынікае так.

— А ці не сказалі мы ўжо раней, што, калі душа пасілкуецца целам, дзеля дасьледваньня чаго-небудзь пры помачы зроку, слуху ці якога-небудзь іншага пачуцьця — бо-ж дасьледваць пры помачы цела або пры помачы пачуцьцяў, гэта адно і тое самае! — цела цягне яе ў напрамку рэчаў, што бесперапынна зьменьваюцца, і з прычыны сутыку зь імі душа адхіляецца ад пуцьцявіны, блукае, дазнае́ зьбянтэжанасьці і хістаньня, быццам п'яная?

— Сказалі.

— Калі-ж яна вядзе досьлед сама як гэткая, яна накіроўваецца туды, дзе ўсё чыстае, вечнае, несьмяротнае і нязьменнае, і затым, што яна блізкая і зродненая з гэтым быцьцём, дык заўсёды выступае разам зь ім, як толькі астанецца на самоце з сабою і не напатыкае перашкодаў. І тут надыходзіць канец яе блуканьням, і, у бесперапынным сутыку і супольнасьці з сталым і нязьменным, яна і сама выяўляе тыя самыя свомасьці. І гэты стан душы мы называем мудрасьцю, ці ня гэтак?

— Цудоўна і правільна, Сакратас!

— Затым, да якога роду рэчаў душа найболей набліжаецца — як ты думаеш, бяручы пад увагу папярэднія довады, і вось гэтыя, апошнія?

— Мне здаецца, Сакратас, — адказаў Кэбэс, — што кажны, нават найболей нясьведамы чалавек, ідучы па гэтай лініі разважаньня, прызнаціме, што душа рашуча і бязумоўна набліжаецца да нязьменнага, чымся да таго, што́ паддадзена зьмене.

— А цела?

— Да падлягаючага зьмене.

— Яшчэ раз паглядзі на рэч у іншым сьвятле. Калі душа і цела знаходзяцца разам, дык натура загадвае целу падпарадкавацца і служыць, а душы — валадарыць і быць паняю. Бяручы гэта пад увагу, скажы, хто зь іх бліжэй да боскага і хто да сьмяротнага? Ці ня выдаецца табе, што боскае створана для ўлады і валада́раньня, а сьмяротнае — для падпарадкаваньня і паняволеньня?

— Здаецца гэтак.

— Дык да чаго падобна душа?

— Ясным ёсьць, Сакратас, што душа падобна да боскага, а цела да сьмяротнага.

— А цяперака падумай, Кэбэс, ці згаджаешся ты, што з усяго, што было сказаным, выплывае гэтакі выснаў? — што душа ў вышэйшай ступені падобна да боскага, несьмяротнага, асягальнага розумам, простага, нераскладальнага, сталага і саманязьменнага, і, наадварот, што гэтаксама ў вышэйшай ступені, цела падобна да людзкага, сьмяротнага, неагортваючага розумам, разнастойнага, зьнішчальнага, нясталага. Ці можам мы сказаць што-небудзь супроць гэтага, дружа мой, Кэбэс?

— Не, ня можам.

— Добра, тады. А ці ня ёсьць свомым для цела хутка распадацца, а для душы аставацца зусім нязьнішчальнай або бадай-што нязьнішчальнай?

— Натуральна.

— Ты разумееш, што, калі чалавек памірае, спасьцярожная ягоная частка — цела — што належыць да бачанага сьвету, труп, як гэта яго называем, якому сваімым ёсьць раскласьціся, разваліцца, зьнішчыцца, паддаецца гэтай долі ня раптам, але трывае даволі доўгі час, а часамі вельмі доўга, калі сьмерць насьпее цела ў памысным стане і ў адпаведнай пары году. А калі цела ўсохшае і набальзамаванае, як бальзамуюць у Ягіпце, дык можа трываць непраўдападобна доўгі час. Але, калі нават цела і спарахнее, дык некаторыя ягоныя часткі — косьці, сьцягны і падобнае, — астаюцца бадай-што несьмяротнымі, ці ня так?

— Так.

— Але душа, неспасьцярожная частка нас самых, якая адыходзіць у іншае месца, шляхотнае і чыстае і неспасьцярожнае, як яна сама, у запраўды неспасьцярожны дом Гадэсу, у прысутнасьць добрага і мудрага Бога, куды, калі гэта будзе Божаю воляю, хутка мая душа адыйдзе, — ма́е-ж тады наша душа, з гэтакімі свомасьцямі і натураю, зара-жа, як толькі разлучыцца зь целам, расьцярушыцца і згінуць, як многія кажуць? Не, мае дарагія, Сімміяс і Кэбэс, нічога падобнага ня будзе, але, барджджэй вось што: Калі яна разыходзіцца з целам чыстаю і не цягне з сабою нічога цялеснага, бо на працягу жыцьця ўхілялася ад усякае сувязі зь целам, высьцерагалася яго і канцэнтравалася сама ў сабе і стала практыкавалася ў гэтым, інакш кажучы — аддавала саму́ю сябе праўдзівай філязофіі, а фактычна, падрыхтоўваючыся да сьмерці, дык ці ня думаеце вы, што гэта і было-б падрыхтоваю да лёгкае і супакойнае сьмерці?

— Напэўна.

— Гэтакая душа, я кажу, неспасьцярожная, адыходзіць у неспасьцярожны сьвет, боскі, несьмяротны, муд-

ры, і, асягнуўшы яго, стаецца ўдзелам шчасьця, і, будучы з гэтае пары збаўленай ад блуканьняў, бязглузьдзіцаў, жахаў, дзікіх пажаданьняў і ўсіх іншых людзкіх злыбедаў, і — як кажуць пра пасьвячаных у тайніцы, — адгэтуль і назаўсёды супачывае сярод багоў. Ці ня гэтак павінны мы казаць, Кэбэс?

— Так, запраўды, — адказаў Кэбэс.

— І, наадварот, як я думаю, калі душа разлучаецца з целам запэцканай і забруджанай, з прычыны сталага кантакту зь целам, дагаджала яму і любіла яго, заварожаная целам, ягонымі жаданьнямі і насалодамі гэтак, што ўжо нічога ня мела за праўду, апрача цялеснага:— таго, да чаго можна даткнуцца, што можна ўбачыць, выпіць, зьесьці або выкарыстаць дзеля любоўнае ўцехі, а ўсё сумнае для вока і неспасьцярожнае прызвычаілася ненавідзець, баяцца і ўхіляцца, — дык як, па-твойму, гэткая душа разыйдзецца зь целам уапрычоненаю сама ў сабе і чыстаю?

— Ніколі!

— Я думаю, што яна ўся перанялася цялесным і з прычыны сталае супольнасьці і сувязі зь целам і доўгае апекі над ім, яна саспорылася зь ім.

— Запраўды, гэта так.

— Але цялеснае, мой дружа, трэба ўяўляць сабе зьлітым, цяжкім, зямельным, бачаным. Дык зразумела, што душа, змешаная з матэрыяльным, стаецца цяжкаю, і гэты цяжар валачэ яе ў сьвет спасьцярожны. З прычыны страху перад неспасьцярожным, перад тым, што называюць домам Гадэсу, яна блукае сярод надмагільных каменьняў і насыпаў — часамі, як кажуць, і спасьцерагаюць там нейкія постаці духаў. Гэта ўявы якраз гэтакіх душаў, якія выйшлі зь целаў нячыстымі. Яны ўдзельнікі бачанага, затым і выяўляюцца воку.

— Гэта вельмі праўдападобна, Сакратас.

— Так, гэта вельмі праўдападобна, Кэбэс. І праўдапа-

добна, што гэтыя душы ня добрых, але дрэнных, якія змушаны блукацца на могілках, нясучы ка́ру за дрэннае мінулае жыцьцё, і гэтак блукаюцца да тае пары, пакуль, з прычыны нахілу да свайго спадарожніка — да матэрыяльнага — ня будуць зноў узапалонены ў путы цела. Путы гэтыя, мусяць, кажны раз адказваць тым нахілам, якія былі ўспрынятыя ў часе мінулага жыцьця.

— Пра якія нахілы ты гаворыш, Сакратас?

— Ну, вось, напрыклад, хто дагаджаў чэраву і, замест таго, каб іх высьцерагацца, аддаваўся распусьце і п'янству, дык і ўвойдзе, мусіць, у род аслоў ці іншую падобную жывёліну. Што ты думаеш?

— Гэта вельмі магчыма.

— А тыя, што аддаваліся несправядлівасьці, тыраніі і грабежніцтву, увойдуць у ваўкоў, коршыкаў або ў шулякоў. Ці скажам мы, што гэткія душы ўвойдуць у іншыя якія-небудзь целы?

— Бяз сумліву, — сказаў Кэбэс, — у гэтыя, якія ты толькі-што вылічыў.

— Тады нятрудным ёсьць здагадацца, — сказаў ён, — куды пойдуць усе іншыя — у залежнасьці ад іхнага галоўнага нахілу ў жыцьці.

— Ведама, што нятрудным.

— Найболей шчасьлівыя спасярод іх — гэта тыя, што ішлі лепшымі пуцьцявінамі, — тыя, што ўдзельнічалі ў грамадзкай, карыснай для ўсяго народу, цноце, называючы яе паўстрыманьнем і справядлівасьцю, і якія родзяцца з штодзенных абавязкаў і звычаяў, але ад філязофіі і розуму трымаецца здалёк.

— Чаму яны найболей шчасьлівыя?

— Бо яны могуць спадзявацца, што пяройдуць у далікатную і ціхамірную грамаду, сярод пчолаў, або восаў, ці мурашак; або нават ве́рнуцца да людзкае супольнасьці, і з іх выйдуць чэсныя людзі.

— Вельмі праўдападобна.

— Але той, хто ня быў філёзафам і ня быў зусім чыстым ў часе разьдзяленьня, — нікому, хто ня імкнуўся да пазнаньня, не дазволена ўвайсьці ў род багоў. Гэта і ёсьць прычынаю, Сімміяс і Кэбэс, чаму запраўдныя філёзафы жануць ад сябе жаданьні цела, уздужваюцца, і ні ў якім выпадку не паддаюцца ім, не баючыся ані зруйнаваньня, ані галечы, у адрозьненьні ад прагавітых з натоўпу, і гэтак-жа мала ў адрозьненьні ад прагавітых улады і гордых, баючыся няславы і паніжэньня, спрычыненых мізэрным жыцьцём. Вось чаму яны ўхіляюцца ад гэтага.

— Дый іншае ня было-б годным іх, Сакратас, — сказаў Кэбэс.

— Зусім не, — адказаў ён; — тыя, што клапоцяцца пра сваю душу і ня песьцяць свайго цела, тыя адносяцца абыякава да ўсіх гэтых жаданьняў; яны ня будуць ісьці, ня ведаючы куды, як чыніць гэта натоўп, але крочаць сваім шляхам, у перакананьні, што ня можна пярэчыць філязофіі і супроцьставіцца асвабаджэньню ад зла і ачышчэньню, якое яна нясе. І куды-б яна ні павяла іх, яны ідуць за ёю.

— Як гэта разумець, Сакратас?

— Я скажу табе. Тыя, што імкнуцца да пазнаньня, — сказаў ён, — сьведамы таго, што душа звычайна прымацавана ў целе і зьліта зь ім — пакуль філязофія ня прыйме яе пад сваю апеку, — што яна змушана разглядвацца і агортваць запраўднае існаваньне не сама сабою, але праз цела, быццам праз краты вастрогу і качаецца ў балоце нясьведамасьці. Гэткім быў яе пачаткавы стан. І тады, як я ўжо сказаў і як сьведамыя гэтага тыя, што імкнуцца да веды, філязофія, бачучы ўсю страшную сілу гэтага вастрогу, якога яна сама сталася прычынаю, атрымліваючы ўладу над ёю ў гэтым стане, далікатна падбадзёрвае і асвабаджае яе, па-

казваючы адначасна да якой ступені ненадзейныя яны, гэта значыць, зрок, слух і іншыя пачуцьці, пераконваючы, адступіцца ад іх, і не карыстацца іхнымі паслугамі, наколькі гэта наагул магчымым, радзячы душы засяродзіцца самой у сабе, верыць у самую сябе, — бо, калі сама ў сабе, яна думае пра тое, што зьяўляецца існым як гэткім, — і не ўважаць запраўдным нічога, калі з чужою дапамогаю дасьледуе любую са зьменных рэчаў, інакш кажучы — з пазнаваных дотыкам і спасьцярожных, бо тое, што душа сама бачыць, знаходзіцца ў межах зразуменьня і неспасьцярожнае. Вось гэта і ёсьць вызваленьне, якому не ўважае за патрэбнае супроцьставіцца душа запраўднага філёзафа, і затым яна ўцякае ад радасьцяў, юру, сумаў, жахаў, наколькі гэта магчымым для яе, разумеючы, што, калі нехта ма́е вялікую радасьць або сум ці прагу, ён церпіць ня толькі выплываючае адсюль зло, якое магло-б быць апраўданым праявам, — напрыклад, страта здароўя ці маемасьці, патакваючы сваім прагнасьцям, — але і самае вялікае, самае скрайняе зло з усіх ведамых, зь якога ён нават не здае сабе справы.

— І што гэта за зло, Сакратас? — запытаў Кэбэс.

— Душа кажнага чалавека адчувае сільнае дазнаньне: У гэтым самым часе яна змушана дазнаваць вялікую радасьць або вялікі сум, яна змушана гэтаксама верыць, што рэч, якую яна асабліва адчувае, зьяўлаецца рэальнаю і праўдзіваю тады, калі гэта ня ёсьць так. Я спадзяюся, што ты згодзішся са мною, што, у першую чаргу, гэта адносіцца да рэчаў спасьцярожных?

— Ахвотна згаджуся.

— А ці згодзішся ты, што як-раз у гэткім стане цела агортвае душу асабліва моцна?

— Як гэта?

— А вось як: Кажная радасьць або сум ма́е, скажам, гвозд, якім яна прымацоўвае душу да цела, пранізвае

і чыніць яе цялеснаю, змушаючы прыймаць за праўду ўсё тое, што праўдаю назаве цела. Маючы цяперака гэты самы пагляд што і цела, душа, як мне здаецца, няўхільна пераймае ягоныя звычаі, схільнасьці, і, ня могучы ўжо ніколі прыйсьці ў дом Гадэсу, — яна заўсёды адыходзіць, абцяжаная целам, і затым хутка зноў трапляе ў іншае цела і, быццам кінутае зерне, пускае карэньне. Гэтак яна мінаецца з удзелам супольнасьці з боскім, чыстым і простым.

— Зусім правільна, запраўды, Сакратас, — сказаў Кэбэс.

— З гэтае прычыны, Кэбэс, тыя, што імкнуцца да пазнаньня, зьяўляюцца простымі і мужнымі, але зусім ня тыя, пра каторых любіць гаварыць натоўп. А можа ты інакш думаеш?

— Дый што ты!

— Душа філёзафа разважае прыблізна гэтак, як мы гаварылі, і ня думае, быццам філязофія асвабаджае яе, а яна, — калі ўжо апошняе даканана, — можа зноў аддацца радасьцям і сумам, і накласьці тыя самыя путы, на ўзор Пэнэлёпы, якая бяз меры распушчае сваю тканіну. Уносячы ўва ўсё супакой, сьледуючы разумнасьці і стала ў ёй прабываючы, сузіраючы запраўднае, боскае і няўяўленае, і, атрымліваючы ў ім для сябе пажыву, душа спадзяецца, што гэтак як-раз і павінна весьці жыцьцё, пакуль яна жывая, а пасьля сьмерці, адыйшоўшы да таго, што ёсьць ёй суродным, назаўсёды збавіцца ад людзкіх злыбедаў. У завяршэньні гэткага жыцьця, Сімміяс і Кэбэс, ёй няма чаго баяцца нічога дрэннага, няма чаго несупакоіцца, што пры адыходзе зь цела яна можа распасьціся, расьсеяцца зь ветрам у няведамым напрамку, каб ужо нідзе болей і ня існаваць.

Пасьля гэтых словаў Сакратаса наступіла доўгая цішыня. Відаць было, што сам ён, Сакратас, аставаўся ў глыбіні сваіх думак, гэтаксам як і большасьць з нас знаходзілася пад уражаньнем пачутага. Але Сімміяс і Кэбэс аб нечым перакінуліся кароткімі словамі. Сакратас заўважыў гэта і запытаў:

— Аб чым вы гаворыце? Ці ўважаеце, што сказанае ёсьць недастатковым? Гэта праўда, астаецца яшчэ нямала сумніўных і хілкіх месцаў, калі перагледзець усё з пачатку і да канца з неабходнаю ўвагаю. Зразумела, калі вы маеце нешта іншае на ўвазе, дык гэта вашая справа. Аднак-жа, калі вы маеце нейкія труднасьці адносна сказанага ўжо, дык ня хістайцеся. Скажэце штó вы маеце на сэрцы, і паглядзеце, ці ня можна яшчэ чаго палепшыць, і, нарэшце, прымеце ў сваю гутарку і мяне, калі ўважаеце, што я магу бацъ памочным у вашых труднасьцях.

І Сімміяс адказаў:

— Я скажу табе, Сакратас, як ёсьць усё. Мы ўжо даўно абодва сумляваемся і ўсё толькі падштурхваем адзін другога, каб запытаць цябе, бо вельмі хацелася-б пачуць, што ты скажаш, але баімося спрычыніць табе сум — каб нашыя пытаньні ня сталіся для цябе цяжарам з прычыны *гэтага* гора.

Зь лёгкім усьмехам Сакратас адказаў:

— Дый што ты кажаш, Сімміяс! Як-жаж я мáю пераканаць чужых людзей, што я зусім не ўважаю за гора цяперашнюю сваю долю, калі я нават вас не магу пераканаць у гэтым і вы баіцеся, што быццам сягоньня я знаходжуся ў болей панурым настрою, чамся звычайна, на працягу майго жыцьця! Вам мусіць здаецца, што я горшы прарок, чымся лебедзі, якія, калі пачуюць блізкую сьмерць, дык заводзяць гэткую галосную і прыгожую песьню, якой ніколі яшчэ не пялі: — бо яны цешацца, што хутка адыйдуць да Бога, якому служаць.

А людзі з прычыны ўласнага жаху перад сьмерцяю, уздымаюць махлярства і на лебедзяў, цьвердзячы, што яны быццам аплакваюць сваю сьмерць і, што сум адухаўляе іх на перадсьмяротную песьню. Людзям і ў цям ня прыйдзе, што ніводная птушка не пяе, калі церпіць з прычыны голаду або холаду, або з прычыны якога-небудзь іншага ліхалецьця, — нават салавей, навад ластаўка ці ўдод, хоць пра іх і апавядаюць, быццам яны пяюць, аплакваючы сваё гора. Але, як мне здаецца, гэта згадка — і пра іх, і пра лебедзяў. Лебедзі належаць да Апольлёна, затым — прарочыя птушкі — яны чуюць шчасьце, што чакае іх у доме Гадэсу, і пяюць, і радуюцца з прычыны гэтага ў апошні свой дзень, як ніколі перад гэтым. Але разам з лебедзямі я і сябе лічу ўласнасьцю гэтага-ж самага Гаспадара і слугою таго самага Бога, і я веру, што і мяне мой Валадар надзеліць дарам прароцтва ня горай, чымся лебедзяў, і ня болей, чымся яны, бядую я з прычыны пакіданьня жыцьця. Затым вы можаце гаварыць і пытацца пра што хочаце, пакуль вам не перашкаджаюць адзінаццаць, пастаўленыя атэнцамі.

— Добра, — сказаў Сімміяс, — тады я выкажу мае́ труднасьці, гэтаксама і Кэбэс, што́ із сказанага сягоньня бу́дзіць у ім сумліў. Мне здаецца, Сакратас — магчыма, і табе, — што здабыць дакладную веду адносна падобных рэчаў у гэтым жыцьці або немагчыма, або, што найменей, вельмі цяжка, і адначасна, з другой стараны, было-б паніжаючаю бескуражнасьцю не дасьледваць і ня спраўдзіць усімі магчымымі спосабамі існуючыя ў гэтай справе пагляды, пакуль магчымасьці для досьледу ня выкарыстаныя да канца. Бо абавязкам чалавека ёсьць ісьці ў гэтым напрамку, пакуль ён не асягне аднаго із двух: пазнаць праўду ад іншага або знайсьці яе самому, або, калі ані першае, ані другое не магчымым ёсьць, прыняць найлепшую і найболей надзейную

людзкую навуку, і на яе асновах, быццам на плыце, учыніць спробу пераплысьці праз жыцьцё, калі няма магчымасьці адбыць падарожжа на болей стойкім і пэўным апорышчы — на якой-небудзь боскай навуцы. Затым цяперака, будучы заахвочаны табою самым, адважуся паставіць маё пытаньне: я не хацеў-бы пасьля дакараць самога сябе за тое, што цяпер не сказаў таго, што́ я думаю. Я затрымліваюся, Сакратас, над тваімі словамі разам зь ім, з Кэбэсам, і мне выдаецца, што яны ня зусім пераконваючыя.

— Магчыма, мой дружа, — сказаў Сакратас, — твая думка і трапнай ёсьць, але я хацеў-бы ведаць, у якім сэнсе мае́ словы „ня зусім пераконваючыя"?

— А вось у якім, — сказаў ён, — як мне здаецца, што тое самае можна сказаць і пра ліру, пра яе струны і гармонію. І запраўды, у настроенай ліры гармонія — гэта нешта неспасьцярожнае, нематэрыяльнае, прыгожае, дый бадай-што боскае, а сама ліра і струны яе — гэта целы, гэта значыць, нешта цялеснае, зложнае, зямное і зродненае са сьмяротным. Уяві сабе цяперака, што ліру разьбілі або струны яе парвалі ці парэзалі, прыводзячы тыя самыя доказы, якія прыводзіш ты, хто-небудзь будзе зацята даводзіць, што гармонія ня зьнішчылася і павінна далей існаваць. Ня можа быць, скажа гэтакі чалавек, каб ліра з парванымі струнамі і самыя струны — элемэнты сьмяротнае натуры — усё яшчэ існавалі, а гармонія зродненая і блізкая да боскага і несьмяротнага, згінула, зьнішчылася раней чымся сьмяротнае. Не, гармонія абавязкава павінна існаваць, і раней паддадуцца спарахненьню дазваньня дрэва і жылы струн, чымся здарыцца што-небудзь дрэннае з гармоніяю. І, запраўды, Сакратас, я думаю, што і сам ты зусім добра здаеш сабе справу з таго, што найболей спатыканы пагляд адносна душы гэтакі: калі нашае цела трымаюць у напружаньні цяпліня, холад, сухасьць, вог-

касьць і некаторыя іншыя падобныя ім першапачатковыя элемэнты, дык душа нашая ёсьць гармоніяю або выражэньнем прапарцыянальнае сумясі гэтых элемэнтаў. Калі душа—гэта, запраўды, у сваей сутнасьці нейкая гармонія, дык ясна, што, калі напружаньне цела празьмерна слабее, або, наадварот, стаецца перанапружаным — з прычыны недамаганьня або пашкоджаньня — душа, хоць і маючая прыкметы боскасьці, як кажная іншая гармонія гукаў або творы мастацтва, мусіць зараз-жа зьнішчыцца; а матэрыяльныя пасьледкі могуць перахоўвацца яшчэ даўжэйшы час, пакуль іх ня зьнішчыць агонь або самі спарахнеюць. І, калі хто-небудзь будзе ўтрымліваць, што душа, будучы гармоніяй элемэнтаў цела, шчазае першаю ў тым, што называюць сьмерцяю, тады, як мы мае яму адказваць?

Сакратас абвёў нас сваім уважным позіркам, як рабіў ён гэта заўсёды, і, усьміхаючыся, сказаў:

— Сімміяс добра кажа. І чаму-б хто-небудзь з вас з большым дасьведчаньнем спасьцярожнасьці, чымся маё, не адказаў-бы яму? Бо ягоныя выказваньні крыюць сэнс у сабе. Магчыма, аднак, перад тым, як мы адкажам яму, мне здаецца, добра было-б пачуць, што́ Кэбэс ма́е супроць нашых довадаў, і мы тады мецімем час падумаць, што́ нам адказаць. А пасьля ўжо, выслухаўшы іх абодвух, мы або ўступім ім, калі выясьніцца, што праўда знаходзіцца ў тым, што яны кажуць, а калі не, — дык будзем бараніць свае довады. Ну, Кэбэс, цяперака твая чарга — кажы, што цябе турбуе?

— Я скажу табе, Сакратас, — сказаў Кэбэс. — Мне здаецца, што наш довад ня рушыўся з месца, і той самы закід, які мы чынілі раней, можна паўтарыць яшчэ раз. Што наша душа існавала перад тым, як увайшла ў цялесную хворму, калі я магу сказаць, вельмі прадумана і пераконваюча даказана. Але, што яна недзе пасьля нашае сьмерці існуе, гэта мне выяўляецца вельмі

непераконваючым. Праўда, я не згаджаюся з Сіммясам, быццам душа не зьяўляецца сільнейшай за цела і даўжэйтрываючай за яго. Наадварот, як далёка я магу зразумець, душа карыстаецца аграмаднаю перавагаю над усім цялесным. „Як гэта? — можна запытаць. — Дзе-ж тады твой сумніў, калі ты бачыш, што пасьля сьмерці чалавека, нават болей слабейшая за яго частка далей існуе? Ці-ж табе не здаецца, што болей доўгатрываючая частка абавязкава павінна астацца цэлаю праз явесь гэты час?“ Глядзі, ці ёсьць нейкі сэнс у тым, што я супроцьстаўлю. Натуральна, падобна, як Сімміяс, я гэтаксама патрабаваціму важкага параўнаньня.

Усё гэта, як мне здаецца, вельмі падобна да апавяданьня пра таго старога памершага ткача, адносна якога можна цьвердзіць, што ён жыве, і на пацьверджаньне гэтае думкі паказаць плашч, які стары сам сабе саткаў: бачыце бо, плашч вось цэлы, зь ім нічога ня сталася, ён існуе. А калі хто-небудзь усё-ж будзе сумлявацца, тады можна запытаць: „Што даўжэй трывае, чалавек ці плашч, які заўсёды ў ужыцьці і ў зношваньні?“ І калі адказ будзе: „Ведама, што чалавек даўжэй трывае“ — дык лічыць даказаным, што чалавек, які саткаў гэты плашч, бяз сумліву, астаўся жывым і здаровым, калі ня згінула рэч карацей трываючая.

Але я думаю, Сімміяс, што ўтрымліваць падобнае, было-б памылкаю. Вазьмі толькі пад увагу тое, што́ я ма́ю сказаць. Кажны чалавек можа сьцяміць, што падобнае разважаньне ёсьць сьмешным. Бо гэты ткач саткаў і знасіў многа гэтакіх плашчаў і памер пасьля іх, за выняткам, праўда, гэтага апошняга, але з гэтага яшчэ ня вынікае, быццам чалавек зьяўляецца ніжэйшым ці слабейшым ад плашча. Падобнае можна сказаць пра суадносіны цела да душы і той, хто гэтак кажа пра іх тымі самымі словамі, што пра ткача і плашч, мне здаецца, гаворыць праўдзіва: ён кажа, што душа доўгатрываючая, а цела слабейшае і кароткатрываю-

чае. Да гэтага яшчэ ён можа дадаць, што кажная душа зношвае многа целаў, асабліва тады, калі жыве многа гадоў: цела сьцякае і адпамірае яшчэ ў часе жыцьця чалавека, значыцца, душа бесперапынна тчэ зноў і зноў, заменьваючы зношанае. І, калі душа шчазае, апошняя вопратка на ёй абавязкава павінна быць цэлай — яна адна толькі і перажывае душу. І толькі пасьля зьнішчэньня душы цела спасьцерагае сваю прыродную слабасьць і хутка шчазае ў працэсе парахненьня. Згэтуль, прыняўшы нашыя доказы і паверыўшы ім, мы ўсё яшчэ ня можам быць пэўнымі, што душа наша, калі мы памрэм, будзе недзе існаваць далей.

Дый апрача таго, могуць сказаць мне, уявем сабе, што нехта згодзіцца з гэтымі доказамі дый яшчэ дадасьць да іх болей, чымся ты зрабіў, і згодзімся, што душа існуе ня толькі да нашага нараджэньня, але, што, зусім магчыма, некаторыя душы існуюць і пасьля таго, як мы паміраем, і будуць існаваць, і многа разоў нарадзяцца, і зноў памруць: бо душа, паводля свае натуры, гэтак ёсьць сільнай, што здольнай зьяўляецца вытрываць многа нараджэньняў. Уявем сабе, што з гэтым усім мы згодзімся, але ня прызнацімем таго, што душа не дазнае ніякае шкоды ў частых сваіх народжаньнях і ня гіне аднойчы дашчэнту ў часе нейкае са сваіх сьмерцяў, і ніхто не пахваліцца, быццам ведае што-небудзь пра тую апошнюю сьмерць і пра зьнішчэньне цела, якое нясе зьнішчэньне душы, бо гэтакае веданьне нікому з нас ня ёсьць даступным. І, калі гэта так, дык няма чаго выказваць адвагі перад сьмерцяю: яна проста бязмысна, гэткая адвага, — бо даказаць, што душа несьмяротнай і нязьнішчальнай ёсьць, мы ня маем магчымасьці. А калі мы ня можам гэтага зрабіць, дык, паміраючы, напэўна будзе баяцца з прычыны свае душы, што, адзяляючыся ад цела гэты раз, яна можа шчэзнуць аканчальна.

Выслухаўшы да канца іхныя выказваньні, усе мы пахмурнелі, як пасьля мы прызнаваліся адзін другому.

Калі раней былі мы гэтак моцна перакананымі, дык затое цяперака нашая вера пахіснулася; папярэднія доказы нас зусім пераконвалі, а цяпер зноў мы пачалі адчуваць сумліў і няпэўнасьць нятолькі адносна таго, што ўжо было сказаным, але і адносна таго, што мелі мы яшчэ пачуць. Магчыма, што, або ня былі мы здольнымі скрысталізаваць уласны пагляд, або само пытаньне не стварала падставы для яснага адказу.

*Эхэкратас:* На нябёсы, Файдон, я вельмі добра разумею вас. Чуючы, як ты пераказваеш мне ўсё, мне хочацца быццам вось што сказаць самому сабе: „Якім-жа довадам мы цяперака паверым, пасьля таго, як Сакратас гаварыў гэтак пераконваючa, і, аднак, усе ягоныя разважаньні цяперака захісталіся!“ Да гэтае пары асабліваю сілаю прыцяжэньня быў пагляд, што душа зьяўляецца гармоніяю. І, калі ўспомнена аб гэтым, быццам зноў мне прыпомнілі маё перакананьне. Цяперака я мушу зноў нібы з пачатку шукаць новага доваду, які пераканае мяне, што душа не памірае разам з целам. Калі ласка, на нябёсы, і што было далей? Ці відна было па ім, што ён засмучаны — гэтак, як вы ўсе — ці, наадварот, спакойна перайшоў да разважаньняў? І ці дастаткова памысным быў ягоны адказ, ці непамысным? Раскажы нам пра ўсё як найболей дакладна!

*Файдон:* Часта, Эхэкратас, я захопліваўся Сакратасам, але ніколі не дазнаваў я гэтакага захапленьня, як гэты раз. Тое, што ён знайшоў што́ адказаць, у гэтым яшчэ нічога няма дзіўнага. Але тое, што́ мяне найболей зьдзівіла, дык гэта было, па-першае, тое, зь якою далікатнасьцю, дабразычлівасьцю і нават прыемнасьцю ён спаткаў разважаньні маладых людзей, і пасьля хуткае ім вычуцьцё довадамі нанесеных ранаў і, напасьледак, як цудоўна ён загаіў іх. Мы былі быццам ваяры, што ратуюцца ўцёкамі пасьля паразы, але ён падбадзёрыў

нас, завярнуў назад, каб разам зь ім і пад ягоным кіраўніцтвам вярнуцца на поле духовага змаганьня.

*Эхэкратас:* Як-жа гэта было?

*Файдон:* Зараз раскажу. Здарылася так, што я сядзеў справа ад яго, тут-жа каля самага ложа, на зэдліку, затым Сакратас знаходзіўся на сваім месцы значна вышэй ад мяне. Правёўшы рукою па маёй галаве і прыгладзіўшы валасы на шыі — ён часта забаўляўся маімі валасамі, — Сакратас загаварыў:

— Заўтра, Файдон, ты мусіць, астрыжэш гэтыя кучаравыя валасы?

— Баюся, што гэта здарыцца, Сакратас, — адказаў я.

— Ня зробіш ты гэтага, калі паслухаешся мяне.

— Чаму? — запытаў я.

— А затым, што яшчэ сяго́ньня і я астрыгуся разам з табою, калі наш довад ня меціме неабходнае моцы. І, калі-б я быў на тваім месцы, а з маіх рук высьлізнуўся-б довад, я даў-бы зарок, як арґэйцы, не адгадоўваць валасоў да тае пары, пакуль не займею перамогі супроць довадаў Сімміяса і Кэбэса.

— Але, як той казаў, супроць двух нават і Гэркулес ня вытрывае, — сказаў я.

— Тады пакліч на помач мяне — я буду тваім Іёляосам пакуль не патух яшчэ дзень.

— Пэўна паклічу, але, дамовімся, наадварот: я буду Іёляосам, а ты — Гэркулесам.

— Гэта будзе тое самае, — сказаў Сакратас. — Але перадусім давай будзем асьцярожнымі адносна аднае небясьпекі.

— Якая небясьпека? — запытаў я.

— Каб нам ня стацца ненавісьнікамі да кажнага слова і разважаньня, гэтаксама, як іншыя стаюцца ненавісьнікамі людзей, бо няма шака большага няшчасьця, як нянавісьць да слова або нянавісьць да ідэяў. Родзіцца яна гэтаксама, як нянавісьць да чалавека. А нянавісьцю да чалавека прасякаемся мы тады, калі сьпярша

з захопленьнем і без усякага крытыцызму даверaем каму-небудзь і ўважаем яго за чалавека зусім праўдамоўнага, здаровага і надзейнага, але ў хуткім часе даведваемся, што ён непраўдамоўны, няпэўны і хвальшывы. Той, каму давядзецца дазнаць гэта, не аднойчы, і асабліва ў выніку віны тых, каго ўважаў за самых блізкіх сваіх сяброў, той, напасьледак, з прычыны частых крыўдаў ненавідзіць ужо ўсіх аднолькава, і ні ў водным чалавеку ня бачыць нічога здаровага і чэснага. Табе, мусіць, даводзілася спатыкацца з гэтакімі людзьмі.

— Пэўна, што даводзілася, — сказаў я.

— Ці-ж ня ёсьць гэта брыдкаю рэчаю? — казаў далей Сакратас. — Ці-ж ня відна, што мы зьбліжаемся да людзей, ня маючы здольнасьці веданьня людзкае натуры? Бо, калі-б мы мелі гэткую здольнасьць, ведалі-б мы, што вельмі добрых або вельмі дрэнных людзей мала ёсьць, бальшыня людзей знаходзіцца паміж гэтымі.

— Не разумею, што ты маеш на ўвазе? — спытаў я.

— Я маю на ўвазе тое, — адказаў ён, — як рэч маецца з вельмі малымі і вельмі вялікімі людзьмі. Падумай, — найболей рэдка спатыкаем вельмі вялікага чалавека або вельмі маленькага, гэтаксама сабаку ці што-небудзь іншае? Гэтаксама хуткае і павольнае, брыдкае і прыгожае, белае або чорнае. Ці-ж не заўважыў ты, што ўва ўсіх гэтых выпадках скрайнасьці бываюць рэдкімі і нешматлікімі, але затое сярэдзіна паміж імі запоўнена шматлікімі?

— Заўважыў, — адказаў я.

— Калі-б было ўладжана спаборніцтва ў сапсутасьці, дык і тады першаклясных нягоднікаў ня так ужо многа-б знайшлося. Ці ня гэтак?

— Выглядае, што гэтак, — адказаў я.

— Так, вельмі праўдападобна, — адказаў ён, — але ў гэтым выпадку аргумэнты не зьяўляюцца падобнымі да людзей. Я проста ішоў тваім сьледам, як да гэтае пары, але, мне здаецца, што падабенства ляжыць вось

дзе: Калі чалавек без адпаведнае здольнасьці ў словах, верыць, што нейкі довад зьяўляецца праўдзівым, а пасьля прыходзіць да перакананьня, што ён зьяўляецца хвальшывым, часамі тады, калі довад гэткім ёсьць, а часамі тады, калі ён гэткім зноў не зьяўляецца, і затым адзін чалавек пасьля другога — асабліва тыя, што праводзяць свой час у спрэчках між сабою, — ты ведаеш, што напасьледак яны думаюць, што яны зьяўляюцца найразумнейшымі людзьмі на сьвеце і, што яны толькі адны разумеюць, што нямашака нічога здаровага і бясумліўнага ані сярод рэчаў, ані сярод довадаў, але, што ўсё парушаецца або ўніз, або ўверх, падобна, як воды Эўрыпосу, і ані на хвіліну не астаюцца на месцы.

— Запраўды, праўдзіва сьцьверджана, — сказаў я.

— Так, Файдон, — адказаў ён, — было-б гэта вельмі сумна, калі-б нехта пазнаў, што існуе довад праўдзівы, пэўны і зразумелы, а пасьля, спаткаўшыся з гэткімі довадамі, якія іншы раз выдаюцца праўдзівымі, а іншы раз памылкавымі, і тады пачаў-бы вінаваціць не самога сябе і сваю няздольнасьць, але са згрызоты ахвотна пачаў-бы сьпіхаць уласную віну на довады як гэткія і на прышласьць, да канца сваіх дзён зацята ненавідзеў-бы і папракаў кажнае разважаньне, і гэтым самым пазбавіў-бы самога сябе запраўднае веды адносна рэчаіснасьці.

— Так, была-б гэта вялікая шкода, — сказаў я.

— Перадусім, — сказаў ён, — будзем высьцерагацца гэтае небясьпекі і не дапусьцім думкі, быццам у разважаньнях наагул нічога няма здаровага. Барджджэй будзем уважаць, што гэта мы самыя яшчэ ня зусім здаровыя і, што трэба мужна шукаць аздараўленьня розумаў: табе і іншым з увагі на вашае далейшае жыцьцё, а мне — з прычыны аднае толькі сьмерці. Абставіны цяперака гэтак укладваюцца, што я ня выступаю перад вамі ў характары філёзафа, а як зацяты спрачальнік, — а гэта ўжо прыкмета запраўдных не́вукаў. Бо яны, калі

ўзьнікае разыходжаньне, не шманаюць пра тое, як рэч маецца ў запраўднасьці; як-бы накінуць прысутным свой пагляд — вось што яны маюць на ўвазе. У гэтых вось абставінах, як мне здаецца, я адрозьніваюся ад іх толькі тым, што ня прысутных стараюся пераканаць у праўдзівасьці маіх словаў — хіба што між іншым — але самога сябе, каб пераканацца да канца. І паглядзі колькі я атрымліваю выгады гэтакім довадам: калі тое, што я ўтрымліваю, акажацца праўдаю, дык і добра, што я трымаюся гэткага перакананьня, а калі для памершага няма ўжо нічога, дык прынамся ня буду дакучаць прысутным сваімі нараканьнямі ў гэтую перадсьмяротную гадзіну, і, нарэшце, нямудрая мая выдумка гэтаксама не перахаваецца сярод жывых, але памрэ разам са мною.

Гэтак падрыхтаваўшыся, Сімміяс і Кэбэс, — сказаў ён — я падыходжу да доваду. І я хацеў-бы прасіць вас, каб вы перадусім думалі пра праўду, а не пра Сакратаса: калі вам выдасца, што я гавару праўду, згадзецеся са мною, а калі не — запярэчвайце, як толькі можаце, каб я не паддаўся вам і ня ўвёў у блуд самога сябе і вас, а пасьля ня шчэзнуў, як пчала, пакідаючы ў вас маё джала.

Дык наперад! Перш за ўсё, прыпомніце мне тое, пра што вы гаварылі, калі-б я забыў што-небудзь. Сімміяс, калі я не памыляюся, агорнуты быў сумлівамі і жахам адносна таго, каб душа, хоць яна і боская і прыгажэйшая за цела, а ўсё-ж ня згінула першаю, — з тае прычыны, што яна свайго роду зьяўляецца гармоніяю. А Кэбэс, як мне здаецца, згаджаецца са мною ў тым, што душа даўжэй трывае за цела, але, думае ён, што ніхто ня можа быць пэўным, што душа, пасьля таго, як зносіць і зьменіць многа целаў, пакідаючы апошняе зь іх, ці ня гіне і сама, і гэта і ёсьць сьмерць, зьнішчэньне душы, бо ў целе працэс зьнішчэньня ніколі ня супыняецца. Ці ня гэта, Сімміяс і Кэбэс, маем мы разгле́дзець?

Абодва яны адказалі, што гэта.

— Скажэце, — працягваў Сакратас далей, — ці вы зусім адкідаеце ўсе папярэднія довады, ці толькі некаторыя зь іх?

— Адны адкідаем, — адказалі яны, — а іншыя не.

— А што вы думаеце, — сказаў ён, — адносна таго доваду, у якім мы казалі, што веданьне — гэта прыпамінаньне і, што, калі так, дык наша душа абавязкава мусіла недзе існаваць, перад тым, як яна была ўключана ў цела.

— Я, — сказаў, — Кэбэс, — і тады знаходзіў яго асабліва пераконваючым, і цяперака ўважаю яго непахісным.

— Я гэтаксама, — сказаў Сімміяс, — падзяляю гэты пагляд, і быў-бы вельмі зьдзіўленым, калі-б маё пераканаьне зьмянілася.

— Тады Сакратас сказаў:

— Сярод іншага, мой дружа тэбанскі, табе давядзецца яго зьмяніць, калі ты і надалей будзеш падтрымліваць думку, што гармонія — гэта нейкі склад, і што душа свайго роду гармонія, створаная з напружаньня матэрыяльных пачаткаў. Бо насілу ці ты дазволіш самому цьвердзіць, што гармонія ўхвармавалася і існавала раней за элемэнты, якія стварылі яе. Або дазволіш?

— Ніколі, Сакратас!

— Але ці ня бачыш ты, што як-раз гэта, ня хочучы, ты і цьвердзіш, калі ты кажаш, што душа існуе ўжо перад тым, як яна ўцеліцца ў людзкае падабенства, а гэта значыць, што яна існуе, будучы зложанай з частак, якія яшчэ ня існавалі? Бо гармонія зусім не падобна да таго, да чаго ты параўноўваеш яе: наадварот, перш родзіцца ліра, і струны, і гукі, пакуль-што яшчэ нястройныя, і толькі пасьля гэтага ўзьнікае гармонія — і першай зьнікае. І як-жаж гэты новы твой пагляд можа быць усузгоднены з ранейшым?

— Зусім ня можа быць, — адказаў Сімміяс.

— Але, калі які-небудзь пагляд ма́е гучэць стройна

і сузгодна, дык у першую чаргу той, які адносіцца да музычнае гармоніі.

— Так, напэўна, — згадзіўся Сімміяс.

— Але ў гэтых двух паглядах, — сказаў Сакратас, — няма сузгоднасьці, пайменна, што веданьне — гэта прыпамінаньне і, што душа — гэта гармонія. Які тады ты выбіраеш?

— Я думаю, Сакратас, — адказаў ён, — што я выбіраю першы. Другі я прыняў бяскрытычна, зманутым ягоным праўдападабенствам і элегантнасьцю, гэта значыць гэтак, як яго прыймае большасьць людзей. Але я добра ведаю, што пагляды, якія даводзяць сваю рацыю быту дарогаю праўдападабенства, зьяўляюцца самахвальствам і, калі паслабіць асьцярожнасьць, яны могуць зманудь бязьлітасна. Гэтак здараецца і ў гэамэтрыі і ў іншых рэчах. Іншая рэч — пагляд пазнаньня і прыпамінаньня: ён будуецца на аснове нашага даверра. І, як далёка я памятаю, мы казалі, што душа існуе да свайго асяленьня ў цела, з тою неабходнасьцю, зь якою належыць да яе існасьць, называная „запраўдным існаваньнем“. Гэтую аснову я прыймаю як запраўдную і дастатковую і ані крышку ня сумняваюся. Будучы гэтакім, як я зьяўляюся перакананым, я не павінен прызнаць, што душа ёсьць гармонія, бяз розьніцы на тое, кім гэты пагляд выказваўся-б — мною ці яшчэ кімнебудзь іншым.

— Паглядзі на гэта, Сімміяс, — казаў ён далей, — зь іншага боку: Як табе здаецца, ці ўяўляеш ты сабе, што гармонія ці іншы падобны твор, можа быць у стане іншым, чымся тыя элемэнты, зь якіх яна ўтворана?

— Напэўна, не.

— Значыцца, ані сама дзейнічаць, ані дазнаваць узьдзеяньня інакш, чымся яны?

Сімміяс згадзіўся.

— Значыцца, гармонія ня можа кіраваць сваімі ас-

наўнымі часткамі, — наадварот, — яна павінна сьледаваць за імі?

І тут ён згадзіўся.

— Бо гармонія ня можа крануцца і прагучэць наўсуперак аснаўным часткам, інакш кажучы, не праявіць ніякага супроцьдзеяньня?

— Гэта было-б немагчымым, — адказаў ён.

— Хадзем далей. Ці не залежыць натура кажнае гармоніі ад спосабу, у якім самыя элемэнты згарманізаваныя?

— Не разумею цябе, — сказаў ён.

— Паслухай, — сказаў Сакратас, — калі-б яе настроілі ляпей і болей дастаткова, — скажам, што нешта падобнае магчымым ёсьць, — дык і гармонія была-б гармоніяю ў большай ступені, а калі-б горай і болей недастаткова, — дык у меншай ступені?

— Пэўна.

— Ці можа ступеня быць прытарнавана, як мера, да душы, гэтак, каб хоць крышку адна душа магла быць лепшай за іншую, гэта значыць, была лепшай, болей дастатковаю або горшаю душою як гэткая?

— Ні ў якім выпадку!

— Тады, на Зэуса, ідзем далей. Пра душы кажуць, што адна зьяўляецца болей разумнаю і цнатліваю, а затым, добраю, а іншыя — безрасуднаю і заганнаю, а, затым, — дрэннаю. Кажуць гэтак ці не?

— Але́, гэтак кажуць, — адказаў ён.

— А, калі душу ўважаць за гармонію, дык як нам абазначыць тое, што творыць зьмест душаў — цноту і заганнасьць? Ці назавуцімуць першую іншаю гармоніяю, а другую — не-гармоніяю? А пра добрую душу скажуць, што яна згарманізаваная і, будучы сама гармоніяю, утрымлівае ў сабе яшчэ адну гармонію, а пра другую, — што яна сама настроена, і, што іншае гармоніі ў сабе ня ма́е?

— Запраўды, я ня ведаю, што адказаць, — сказаў Сімміяс. — Адно ўсё-ж ясна: калі гэткае зрабілі мы залажэньне, дык і адказаць павінны мы ў гэтым сэнсе.

— Але мы ўжо згадзіліся, — працягваў Сакратас, — што аніводная душа ня можа быць болей ці меней душою, чымся іншая, а гэта значыць, што мы мусім прызнаць, што адна гармонія ня можа быць большаю або паўнейшаю, або меншаю гармоніяю, чымся іншая. Гэтак?

— Так.

— А тое, што не зьяўляецца гармоніяю болей ці меней, дык і настроеным ня можа быць болей ці меней. Так?

— Так.

— І тое, што не зьяўляецца настроеным болей ці меней, ці будзе прыналежным гармоніі болей або меней, чымся тое — нешта іншае, або аднолькава і ня інакш?

— Так.

— Значыцца, душа, калі яна заўсёды астаецца роўнай сабе і ня бывае ані большаю, ані меншаю душою, чымся іншая душа, дык ня бывае і настроенай у большай або меншай ступені?

— Не, ня бывае.

— А калі так, дык адна душа ня можа быць прыналежнай гармоніі або не-гармоніі болей поўна, чымся іншая?

— Гэтак выглядае.

— Тады, калі так, ці можа адна душа аказацца прыналежнай заганнасьці або цноце ў большай паўніні, чымся іншая? Бо-ж мы згадзіліся, што заганнасьць — гэта не-гармонія, а цнота — гармонія.

— Не, ня можа.

— Або, кажучы болей дакладна, аніводная душа, Сімміяс, ня зьяўляецца прыналежнай да заганнасьці: бо-ж душа — гэта гармонія, а гармонія, астаючыся са-

ма сабою, гэта значыць, гармоніяю, ніколі ня будзе прыналежнай не-гармоніі.

— Ведама.

— І затым душа, якая зьяўляецца запраўды і поўнасьцю душою, астаецца непрыналежнай заганнасьці?

— Як-жаж інакш можа быць, пасьля нашых довадаў?

— З гэтага разважаньня выплывае, што ўсе душы ўсіх жывых існаваньняў былі-б аднолькава добрымі, калі свомым ёсьць для душаў аставацца тым, чым яны зьяўляюцца, паймена, душамі.

— Я згаджаюся з табою, Сакратас,— адказаў ён.

— Але думаеш ты, ёсьць гэта правільным? Ці думаеш ты, што прыйшлі-б мы да гэткага выснаву, калі-б у сваім залажэньні выйшлі мы, што душа зьяўляецца гармоніяю?

— Я думаю, што не.

— Хадзем далей, — сказаў Сакратас. — І што ў чалавеку кіруе ўсёю ягонаю істотаю — душа-ж? — асабліва, калі яна разумная, ці што-небудзь іншае?

— Мне здаецца, душа.

— А кіруе яна, уступаючы стану цела ці супроцьстаўляючыся яму? Напрыклад: калі, скажам, ты маеш жар і смагу, душа цягне ў іншую сторану і не дазваляе піць, а калі ты галодны — не дазваляе есьці, і на тысячы іншых прыкладах мы можам бачыць, як яна дзейнічае наўсу́перак целу. Ці так гэта?

— Вельмі праўдзіва?

— А ці не згадзіліся мы раней, што душа, калі яна гармонія, ніколі не пяе наўсуперак таму, як нацягнуты ці звольнены, або гудуць, або як там інакш яшчэ разьмешчаны аснаўныя часткі, зь якіх яна складваецца? Ці-ж не згадзіліся мы, што душа ідзе сьледам за імі і ніколі ня кіруе?

— Так, — адказаў Сіммія́с, — мы згадзіліся.

— І што-ж мы выкрываем цяперака? Мы перакон-

ваемся, што душа чыніць як-раз адваротнае, — кіруе ўсім тым, з чаго, як кажуць, яна складзена, супроцьставіцца яму бадай-што ці не ўва ўсім на працягу ўсяго жыцьця, усімі сродкамі падпарадквае сваей уладзе, і сурова і да болю караe, змушаючы выконваць наказы лекара або вучыцеля гімнастыкі, раз праяўляе да пэўнае ступені памяркоўнасьць, іншым разам, пагражае, або ўгаворвае, зьвяртаючыся да пачуцьцяў, гнеўных імкненьняў і жахаў, быццам гаварыла да рэчы, якая не зьяўляецца сама сабою, гэтак, як Гомэр у „Одыссэі“, калі ён кажа пра Одыссэя —

*Ён ў грудзі удырыў сябе і сказаў кіпугаму сэрцу:*
*Сэрца маё, пагадзіся, ты горшае зьнесьці умела.*

Ці думаеш ты, што мог-бы ён скласьці гэтакія вершы, калі-б ён думаў, што сэрца — гэта гармонія, якой загадвае дадзены стан цела, а не наадварот, што яно само кіруе і валадарыць і, што яно болей ёсьць боскім, чымся якая-небудзь гармонія?

— Так, Сакратас, і я гэтак думаю.

— Тады, мой дружа, мы ня маем абаснаваньня ўтрымліваць, быццам душа — гэта гармонія, бо, цьвердзячы падобнае, мы бадай-што разыйдземся і з боскім Гомэрам, і ўнясем разыходжаньні між сабою.

— Гэта праўда, — адказаў Кэбэс.

— Ну і добра, — сказаў Сакратас. — Тэбанская Гармонія ласкава схілілася на нашу сторану. Цяперака чарга на Кадмуса, Кэбэс. Якімі доказамі маем мы здабыць яго?

— Мне здаецца, што ты будзеш ведаць як, — адказаў Кэбэс. — У кажным выпадку, твае запярэчаньні супроць гармоніі мяне проста захапілі — гэтак неспадзяванымі яны былі. Слухаючы Сімміяса, калі ён гаварыў пра свае труднасьці, я ўвесь час думаў: няўжо ніхто ня зможа справіцца зь ягонымі доказамі? І мне асабліва выда-

лося дзіўным, калі ён ня вытрываў першага твайго націску. I я зусім ня зьдзівіўся-б, калі-б гэтакі самы лёс спаткаў і доказы адносна Кадмуса.

— Не, добры мой дружа, — сказаў Сакратас, — ня трэба пахваляцца, бо яшчэ хто-небудзь сапсуе ўсю нашу гутарку раней, чымся яна пачалася. Але Бог распасьцярэ сваю апеку над гэтым, а мы, тымчасам, як Гомэр, пойдзем наперад і паглядзімо, ці кажаш ты да рэчы. Гэтакі ёсьць твой пагляд: — Ты дамагаешся доваду, што душа наша нязьнішчальнай ёсьць і несьмяротнай; у супроцьлежным выпадку, ты кажаш, бадзёрасьць філёзафа, які мае памерці і які поўны спадзеі і супакою, спадзяючыся, што за магілаю ён знойдзе шчасьце, якога ня мог-бы займець, калі-б пражыў усё жыцьцё інакш, — ягоная бадзёрасьць ня мае падставы і сэнсу. Няхай сабе мы і выкрылі, што душа ёсьць магутнаю і боскаю, што яна існавала ў людзкім вобліку перад тым, як мы нарадзіліся, аднак, усё гэта, паводля твае думкі, сьведчыць не пра несьмяротнасьць душы, але толькі пра тое, што яна доўгатрывалай і ўжо існавала недзе ў мінулым часе нязьмерна доўга, шматлікае асягнула і шматлікае даканала. Але гэта ані на хвіліну ня зьбліжае яе да несьмяротнасьці, наадварот, — асяленьне яе ў людзкім целе сталася для душы пачаткам зьнішчэньня, быццам хвароба, і, сумуючы на працягу свайго жыцьця, гіне напрыканцы ў тым, што называюць сьмерцяю. I незалежна ад таго, ці ўваходзіць душа ў цела раз, ці шмат разоў, гэта, як ты кажаш, ня чыніць розьніцы ў прадмеце страху чалавека. Бо кажны чалавек, які не пазбаўлены здаровага розуму, мусіць баяцца, калі ён ня ма́е веды і ня можа даказаць несьмяротнасьці душы. Вось гэта, або нешта падобнае да гэтага, ёсьць тое, што́ ты казаў, Кэбэс. I я знарок прыводжу гэта на памяць, каб нічога не прапусьціць і, каб ты мог, калі ты жадаеш гэтага, што-небудзь дадаць або адняць.

— Гэтак, — сказаў Кэбэс, — як я бачу рэч цяперака, я ня маю нічога дадаць ані адняць: я думаю гэтак, як ты кажаш, што я думаю.

Сакратас засяродзіўся на даўжэйшую хвіліну, быццам разважаючы аб нечым, і пасьля пачаў гэтак гаварыць:

— Ты, Кэбэс, падняў пытаньне асаблівага значэньня. Каб знайсьці на яго адказ, нам трэба будзе дасьледзіць прычыну нараджэньня і зьнішчэньня, адносна чаго, калі ты дазволіш, я прывяду маё ўласнае дасьведчаньне ў гэтым досьледзе. Калі з майго апавяданьня што-небудзь табе выдасца карысным, ты зможаш выкарыстаць яго дзеля падмацаваньня тваіх паглядаў.

— Вельмі хацеў-бы я, — сказаў Кэбэс, — затым я рад пачуць.

— Тады паслухай тое, што скажу табе, — сказаў Сакратас. — У маіх юнацкіх гадох я меў, Кэбэс, праўдзівы агонь да таго роду мудрасьці, які называюць пазнаньнем натуры. Мне выдавалася дзіўным і сваеасаблівым ведаць прычыну кажнае зьявы: як рэч прыходзіць у стан быцьця, як яна зьнішчаецца, і чаму яна існуе. І я часта кідаўся з аднае скрайнасьці ў другую, і ставіў сабе пытаньні гэткага характару: калі цёплае і халоднае, ўзаемна аддзейваючы, выклікаюць гніцьцё, ці не тады гэта, як думалі некаторыя, узьнікаюць жывыя існаваньні? Чым мы ду́маем — крывёю, паветрам ці агнём? А мо' ані тым, ані гэтым, а толькі нашыя мазгі выклікваюць пачуцьцё слуху, зроку і нюху, а зь іх узьнікае памяць і ўяўленьне, а з памяці і ўяўленьня, калі яны атрымліваюць сталасьць, узьнікае веда?

Затрымліваўся я і над зьніштажэньнем усяго існуючага, і думаў пра зьмены, якія маюць месца на небе і на зямлі, — і ўсё гэта дзеля таго, каб, нарэшце, прызнацца ў сваей уласнай няпрыдатнасьці да гэтакага дасьледваньня. Я пада́м табе дастатковы доказ гэтага:

Да гэтае пары я тое-сёе ведаў, — гэтак здавалася мне самому, і іншым, — а цяперака, з прычыны гэтых досьледаў, я зусім асьлеп і забыўся нават тое, што́ раней ведаў, — напрыклад, сярод іншага, перастаў разумець, чаму чалавек расьце. Раней я думаў, што гэта кажнаму зразумела: чалавек расьце затым, што есь і п'е. Мяса дадаецца да мяся, косьці — да касьцей, і гэтак усё іншае, паводля гэтага самага парадку, што кажная частка спажывы дадаецца да свомай ёй часткі людзкага цела, і ў рэзультаце малая вялічыня стаецца большаю, і малы чалавек становіцца вялікім. Гэтак я думаў раней. І як табе здаецца, правільным гэта ёсьць, ці не?

— Мне здаецца, што гэта правільна, — сказаў Кэбэс.

— Або вось яшчэ. Быў такі час, калі мне выдавалася, што я разумею значэньне вялікасьці і меншыні зусім добра. Калі я бачыў высокага чалавека, стаячага радам з нізкім, дык першы выдаваўся мне на цэлую галаву вышэйшым, і гэта ня выклікала ў мяне ніякіх сумніваў. Гэтаксама — і двое коней радам. І яшчэ болей назіральным, калі дзесяць мне здаваліся болей, чымся восем затым, што да васьмі дададзена два, а рэч у два локці даўжэйшая, чымся ў адзін локаць затым, што перарастае яе на палавіну.

— Ну, добра, а што ты думаеш пра ўсё гэта цяперака? — запытаў яго Кэбэс.

— Цяперака, кажучы праўду, — сказаў Сакратас, — я далёкі ад думкі быццам ведаю прычыну хоць-бы аднаго з гэтых зьявішчаў. Я ня ў стане здаволіць сябе, калі адзінка дадаецца да адзінкі, — ці гэта адзінка, да якое дадалі, сталася двойкаю, або ці гэта дададзеная адзінка і тая, да якое дадалі, дарогаю дадаваньня, сталіся двума. Да тае пары, пакуль кажная зь іх была асобна ад другое, кажная аставалася адзінкаю, і двойка тады ня існавала; але вось яны зьблізіліся, і я пытаюся самога сябе: ці ў гэтым ляжыць прычына ўзьні-

каньня двойкі, пайменна, — у тым, што наступіла сустрэча, выкліканая ўзаімным набліжэньнем? А калі хто дзеліць адзінку, я не магу болей верыць, што двойка нараджаецца як-раз з гэтае прычыны, — праз распадзел, бо тады прычына будзе як-раз адваротнай у параўнаньні з папярэдняй: толькі што мы цьвердзілі, быццам адзінкі ўзаемна зьбліжаюцца і дадаюцца адна да другое, а цяперака кажам, што адна ад другое адлучаюцца і адыходзяць! І я не магу пераканаць самога сябе, быццам я разумею, дзеля чаго і як узьнікае адзінка ці што-небудзь іншае — чаму яно ўзьнікае, або гіне, або існуе. Інакш кажучы, гэты спосаб досьледу мне зусім не падабаецца, а ў кажны іншы я сам уношу блытаніцу.

Аднойчы мне нехта расказаў, як ён чытаў у кнізе Анаксаґораса, што розум зьяўляецца прычынаю ўсяго на сьвеце і ён надае ўсяму парадак; і гэтая прычына мне спадабалася; я падумаў, што гэта найлепшы выхад з труднасьцяў, калі ўсяму прычына — розум. І я вырашыў, што, калі гэта так, дык розум, наладжваючы, павінен наладзіць усё як найляпей і кажную рэч умясцовіць там, дзе ёй быць памешчанай зьяўляецца найляпей. І, калі хто-небудзь жадае знайсьці прычыну, паводля якое што-небудзь родзіцца або гіне, або існуе, дык яму трэба высьвяціць, як ляпей за ўсё гэтай рэчы існаваць або дзейнічаць, або самой адчуваць якое-небудзь узьдзеяньне. Выходзячы з гэтае навукі, чалавеку ня трэба ісьледаваць ані самога сябе, ані ў васяродзьдзі нічога іншага, апрача самага найлепшага і самага вернага. Зразумела, што ён абавязкава павінен ведаць і горшае, бо веда лепшага і веда горшага — гэта адна і тая самая веда. Я цешыўся, што ў васобе Анаксаґораса я знайшоў вучыцеля, які адслоніць мне прычыны быцьця, даступныя для майго розуму, і перадусім, раскажа мне, ці зямля зьяўляецца плоскаю ці круглаю, а, расказаўшы пра гэта, паясьніць неабходную прычыну — паклічац-

ца на „лепшае“, і будзе цьвердзіць, што для зямлі найляпей быць якраз гэткай, а ня нейкаю інакшаю яшчэ. А, калі скажа, што зямля знаходзіцца ў сярэдзіне, дык паясьніць, чаму ёй найляпей быць у сярэдзіне. Калі ён адслоніць усё гэта, думаў я, дык я гатоў пакінуць шуканьне прычынаў іншага роду. Так, і гэтакі самы пагляд я гатоў выразіць адносна досьледу сонца, месяца і зораў — да хуткасьці іхнага руху адносна іх самых, да іхных зваротаў, і да ўсяго іншага, што здараецца зь імі: якім спосабам кажнае зь іх дзейнічае само ці паддаецца ўзьдзеяньню. Я ані на хвіліну не дапускаў тае думкі, што, назваўшы розум, як стваральніка іх, Анаксаґорас можа ўвесьці яшчэ нейкую прычыну — апрача таго, што ім найляпей за ўсё быць у гэткім палажэньні, у якім яны знаходзяцца. Я здагадваўся, што вызначыўшы прычыну кажнага зь іх і ўсіх разам, ён пасьля гэтага паясьніць, што́ ляпей за ўсё для кажнага зь іх і ў чым заключаецца агульнае шчасьце. І гэтую сваю спадзею я не аддаў-бы ані за што на сьвеце! І я ўзяўся за ягоныя кнігі, каб як найхутчэй прачытаць іх і хутка пазнаць найлепшае і найгоршае.

О, якія-ж спадзяваньні я жывіў, і як каменьнем уніз паляцеў я, калі, працягваючы чытаньне, я ўбачыў, што розум у яго астаецца бяз ніякага тасаваньня і, што ўладжаньне рэчаў наагул не ўсуадношваецца да ніякіх прычынаў, але прыпісваецца зьнічэўку і без абаснаваньня паветру, этэру, вадзе і многім іншым рэчам. Як мне здаецца, гэта ўсяроўна, як, калі-б хто-небудзь сьпярша падаў да ведама, што „ўсё, што Сакратас чыніць, робіць пры помачы розуму“, а пасьля, пачаўшы паясьняць прычыны кажнага зь ягоных дзеяньняў, сказаў-бы: „Сакратас цяперака сядзіць тутака затым, што ягонае цела складаецца з касьцей і сьцягнаў, і косьці цьвярдыя і разлучаныя адна ад другое суставамі, а сьцягны могуць нацягвацца і паслабляцца і абкружаюць косьці —

разам зь мясам і шкураю, якая ўсё агортвае сабою. І затым, што косьці свабодна парушаюцца ў сваіх суставах, дык сьцягны, расьцягваючыся і напружваючыся, магчымым чыняць Сакратасу згінаць рукі і ногі. Вось затым бо ён і сядзіць цяпер тутака, сагнуўшыся". І для падобнае гутаркі можна знайсьці адпаведныя прычыны, як голас, паветра, слух і тысячы іншых падобных, пагардзіўшы запраўднымі прычынамі, пайменна, — што, калі ўжо атэнцы знайшлі неабходным засудзіць мяне, а я са свае стараны ўважаў за найлепшае сядзець тут, дык я ўважаў за болей справядлівым астацца на месцы і прыняць тую ка́ру, якую яны вызначаць. О, запраўды, гэтыя жылы і гэтыя косьці ўжо даўно, як мне здаецца, былі-б дзе-небудзь у Мэґарах або ў Бэотыі, захопленыя зманлівым уяўленьнем пра лепшае, калі-б я ня прызнаў болей справядлівым і болей прыгожым не ўцякаць і не хавацца, але прыняць кажную ка́ру, якую-б ні назначыла мне места.

Не, мой дружа, называць гэткага роду рэчы прычынамі — гэта бязглузьдзіцца. Калі-б хто-небудзь казаў, што без усяго гэтага, гэта значыць, без касьцей, сьцягнаў і падобнага, я ня мог-бы зрабіць таго, што ўважаю патрэбным зрабіць, дык ён казаў-бы трапна. Але цьвердзіць, быццам яны, а ня мой выбар найлепшага, зьяўляецца прычынаю ўсяго, што я раблю, — калі я гэтаксама кіруюся і розумам! — было-б вельмі неахайнаю і бязмыснаю гутаркаю. Бо гэта праявіла-б няздольнасьць адрозьніць, што запраўдная прычына — гэта адна рэч, а тое, без чаго прычына ня была-б прычынаю — ёсьць нечым іншым. Гэтае апошняе натоўп, шнарачы вошчупам, быццам папоцемках, называе прычынаю — неадпаведным і чужым, як мне выдаецца, словам. У рэзультаце адзін чалавек уяўляе сабе, што зямля супачывае нярухома пад небам і акружаная нейкім рухам; іншаму выдаецца, што яна нешта падобнае да

плыткіх начовак, падпертых асноваю з паветра; але яны ніколі ня вызіраюць сілы, якая ўмясцовіла рэчы гэтак, што яны знаходзяцца ў магчыма найлепшым стане, ані спадзяюцца, што яна мае боскую магутнасьць, але вераць, што яны аднойчы знойдуць Атляс болей магутны і болей несьмяротны, і болей здольны і мацнейшы ўтрымліваць усё на сабе, і ані крышку не здагадваюцца, што ў запраўднасьці ўсё зьвязваецца і ўтрымліваецца дабром. І зь якою радасьцю пайшоў-бы я вучыцца да кажнага чалавека, каб толькі даведацца і зразумець гэткую прычыну. Але я не займеў яе — мне не давялося яе знайсьці, і ад іншых я не навучыўся, і тады, у пошуках прычыны, я адхілю табе, калі ты хочаш, Кэбэс, тое, што я знайшоў, як другі лепшы спосаб досьледу справы.

— Вельмі хацеў-бы, — адказаў Кэбэс.

— Здарылася, — снуў думку Сакратас далей, — пасьля таго як я спыніў досьледы быцьця, я стаўся асьцярожным, каб са мною не здарылася тое, што здараецца з тымі, што назіраюць і дасьледуюць сонечнае зацьменьне. Некаторыя зь іх псуюць вочы, калі глядзяць проста на сонца, а не на ягоны вобраз у вадзе ці ў нечым падобным, — дык я і думаў са страхам, як-бы мне зусім не асьлепнуць душою, разглядаючы рэчы вачыма і пробуючы даткнуцца да іх пры помачы пачуцьцяў. Затым я пастанавіў аддацца разважаньню абстрактных паняцьцяў і ў іх разглядаць запраўдную сутнасьць быцьця. Хоць, што праўда, атрымліваны ў мяне вобраз быцьця ў дадзеным выпадку, не выяўляўся дастатковым. Я і ня ўтрымліваю зусім, што той, хто дасьледуе быцьцё пераважна ўжывае паняцьці болей ад таго, хто дасьледуе яго ў чынах і фактах. У кажным выпадку, як-раз гэтым шляхам рушыў я наперад, кладучы кажны раз у васнову паняцьце, якое ўважаў за самае здаровае і надзейнае. І тое, што мне выдаецца быць у сузгоднасьці з гэтым па-

няцьцем, я прыймаю як праўдзівае — ідзе гутарка пра прычыну ці пра што-небудзь іншае, — а тое, што не згаджаецца зь ім, тое ёсьць няпраўдзівае. Але я хацеў-бы выкласьці мае думкі болей выразна. Мне здаецца, што ты яшчэ не разумееш мяне.

— Не, — сказаў Кэбэс, — ня зусім.

— Я не кажу нічога новага, а толькі паўтараю тое, што гаварыў я заўсёды, — і раней, і вось цяперака: Я хачу паказаць табе тую натуру прычыны, якая займае маю думку. Я вяртаюся зноў да тых ведамых і паўтараных словаў, што знаходзяцца на вуснах кажнага чалавека, выходзячы з залажэньня, што існуе прыгожасьць як гэткая, і дабрыня, і веліч, і падобнае. Калі ты згодзішся са мною і прызнацімеш, што гэтак і маецца рэч, дык я спадзяюся, што гэта ўмагчыміць мне адсланіць і выявіць табе прычыну несьмяротнасьці душы.

— Прымем, што я згаджаюся з табою, — сказаў Кэбэс, — затым, ідзі да мэты.

— Вазьмі пад увагу тое, што́ за гэтым наступіць, — сказаў ён, — паўзірайся, ці ты можаш згадзіцца са мною. Тое, што́ мне выдаецца, дык гэта калі што-небудзь зьяўляецца прыгожым апрача самое прыгожасьці як гэткае і, тое, што́ чыніць яго прыгожым, дык гэта тое, што́ ёсьць прыналежным да гэтае прыгожасьці. Гэтак рэч маецца і ўва ўсіх іншых выпадках. Ці ты згаджаешся з гэтым?

— Згаджаюся, — адказаў Кэбэс.

— Тады я ўжо не разумею і не магу сьцяміць іншых прычынаў, гэтакіх мудрагельскіх, і, калі мне кажуць, што нейкая рэч прыгожая або сваімі колерамі, або абрысаваньнямі ці яшчэ чым-небудзь падобным, дык я адсоўваю на бок усе гэтыя паясьненьні, бо яны адно зьбіваюць мяне з панталыку. Проста, бязь ніякага мудрагельства, магчыма нават крышку наіўна, я трымаюся адзінага паясьненьня: Нічога іншага ня чыніць дадзе-

ную рэч прыгожаю, як толькі наяўнасьць гэтага прыгожага ў ёй або супольнасьць зь ім. Я не дамагаюся, што, як-раз, гэтыя словы дакладна выражаюць зьяўленьне прыгожага, але я стаю, аднак, на тым, што ўсе прыгожыя рэчы стаюцца прыгожымі, дзякуючы прыгожаму як гэткаму. Адказу болей пэўнага даць немагчыма, як мне здаецца, ані самому сабе, ані каму-небудзь іншаму і гэтага я трымаюся, у перакананьні, што прынцып гэты ня можа быць ніколі адкінутым. Самому сабе, як і кажнаму іншаму я спакойна адкажу: Што праз прыгожасьць прыгожыя рэчы стаюцца прыгожымі. Ці не хацеў-бы і ты згадзіцца з гэтым?

— Я згаджаюся.

— І, згэтуль, вялікія рэчы зьяўляюцца вялікімі і большыя зьяўляюцца большымі, дзякуючы большаму як гэткаму, а меншыя — дзякуючы малому як гэткаму?

— Так.

— Дык, калі-б табе нехта сказаў, што адзін чалавек вышэйшы за другога на галаву, а другі на галаву ніжэйшы за першага, ты-ж ня прыняў-бы гэткага цьверджаньня, але рашуча адхіліў-бы яго, заявіўшы: „Я магу сказаць толькі адно — што кажная рэч, большая за іншую рэч, зьяўляецца выключна і толькі, дзякуючы большаму як гэткаму, гэта значыць, што яна стаецца большаю, дзякуючы большаму, а меншае значыцца меншым толькі, дзякуючы малому як гэткаму, гэта значыць — малое творыць яе меншай“. Бо, калі-б ты згадзіўся, што адзін чалавек на галаву вышэйшы, а другі ніжэйшы, дык ты-б мусіў, я думаю, спаткаць супярэчнасьць: перадусім у тым, што большае ў цябе будзе большым, а меншае меншым з тае самае прычыны, а пасьля і затым яшчэ, што большага творыць большым малое, — бо-ж галава малая! А быць большым, дзякуючы малому — гэта-ж абсурд! Ну, як табе здаецца, ці не спалохаўся-б ты гэтакіх запярэчаньняў?

— Спалохаўся-б, — адказаў Кэбэс сьмяючыся.

— Значыцца, — казаў далей Сакратас, — ты не адважыўся-б цьвердзіць, што дзесяць болей за восем на два, але скажаш, што дзесяць ёсьць большым колькасьцю і з прычыны колькасьці? — І, што рэч у два локці вымерам зьяўляецца большаю, чымся рэч у адзін локаць, але не на палавіну ўласнага вымеру? Бо-ж і тут існуе небясьпека тае самае памылкі.

— Зусім правільна.

— І зноў-жа, будзь асьцярожным, каб не казаць, што, калі дадаюць адзінку да адзінкі, дык прычына ўзьніканьня двух ёсьць дадаваньне, а, калі дзеляць адзінку — дык распадзяленьне? Ці-ж не запярэчыў-бы ты на ўвесь голас, што ведаеш толькі адзіны шлях, на якім узьнікае кажная рэч, — гэта ейная прыналежнасьць да яе ўласнае свомае ёй сутнасьці, да якое яна павінна быць прыналежнай, і, што ў дадзеным выпадку ты можаш успомніць толькі адзіную прычыну ўзьніканьня двух — гэта прыналежнасьць да двойнасьці. Усё, што мае стацца двума, павінна быць прыналежным двойнасьці, а тое, што́ мае стацца адным — прыналежным адзінасьці. А да розных разьдзяленьняў, дакладаньняў і іншых падобных далікатных рэчаў ты нават не датыкайся, пакідаючы іх болей падрыхтаваным людзям. А ты, баючыся, як той казаў, уласнага ценю, трымайся пэўнае і вернае асновы, якую мы знайшлі, і адпаведна да гэтага адказвай. Калі хто-небудзь заатакуе самую аснову, пакінь яго і не адказвай яму да часу, пакуль не дасьледзіш выцякаючых наступстваў і пабачыш ці знаходзяцца яны ў сузгоднасьці між сабою. Калі зойдзе неабходнасьць паясьненьня самае асновы, ты ўчыніш гэта падобным спосабам, падводзячы іншую, болей агульную аснову, найлепшую, якую зможаш знайсьці, і гэтак да тае пары, пакуль ня знойдзеш здавальняючага рэзультату. І адначасна ты ня будзеш зьмешваць усяго разам,

як чыняць гэта заядлыя спрачальнікі, не разьбіраючыся ў першапачатку і наступствах, калі ты хочаш знайсьці запраўдную сутнасьць рэчаіснасьці. Бо людзі гэтыя, магчыма ня думаюць і не шманаюць пра гэта. Сваёю мудрасьцю яны здольныя ўсё зьмяшаць і зацемніць, астаючыся адначасна здаволенымі з самых сябе. Але, калі ты астанешся праўдзівым філёзафам, я спадзяюся, што ты будзеш пастунаць гэтак, як я сказаў.

— Тое, штó ты кажаш, ёсьць найболей праўдзівым, — адказалі разам Сімміяс і Кэбэс.

*Эхэкратас:* Праўдзівым, і я сьцьвярджаю, Файдон! Мне здаецца, што Сакратас гаварыў задзіўляюча ясна, і кажны, хто мае хоць крыху розуму, можа зразумець.

*Файдон:* Запраўды, Эхэкратас, гэтак адчувалі ўсе прысутныя.

*Эхэкратас:* Гэтаксама і мы, каторыя хоць і ня былі там. І пра што ішла гутарка пасьля гэтага?

*Файдон:* Пасьля таго, як усё гэта было прызнана, і згадзіліся, што ідэі існуюць і, што рэчы з прычыны прыналежнасьці да іх атрымліваюць іхныя імёны, Сакратас, калі я памятаю добра, сказаў: —

— Калі гэта так, дык кажучы, што Сімміяс большы за Сакратаса і меншы за Файдона, ты цьвердзіш, што Сімміяс адначасна зьяўляецца большае як гэткае, і меншае як гэткае. Ці так?

— Так.

— Але ты ўсё яшчэ згаджаешся са мною, што само выражэньне „Сімміяс вышэйшы за Сакратаса“ зусім праўдзе не адказвае? Бо-ж Сімміяс вышэйшы не затым, што ён Сімміяс, але з прычыны большага як гэткага, якое ў ім знаходзіцца. І вышэйшым за Сакратаса ён не затым, што Сакратас зьяўляецца Сакратасам, а затым, што Сакратас прыналежны малому — у параўнаньні

да большага, да якога прыналежным зьяўляецца Сімміяс.

— Правільна.

— І ніжэйшы за Файдона ён не затым, што Файдон зьяўляецца Файдонам, а затым, што прыналежны ён да малога ў параўнаньні да большага, да якога прыналежным ёсьць Файдон?

— Так, гэта правільна.

— З гэтага выходзіць, што Сімміяса можна адначасна назваць і малым і вялікім, пакуль ён знаходзіцца паміж двума іншымі: побач „вышыні“ аднаго ён ставіць сваю „маласьць“, а над „маласьцю“ другога ўздымае ўласную „вышыню“. — Сказаўшы гэта, Сакратас усьміхнуўся і дадаў: — Я кажу цяперака, быццам чытаю з кнігі. Але так ці інакш, я веру, што тое, што́ я кажу, зьяўляецца правільным.

Сімміяс пацьвердзіў.

— Я кажу гэтак, — выводзіў далей Сакратас, — бо я хачу, каб ты згадзіўся са мною. Мне здаецца, ня толькі большае як гэткае ня згодзіцца быць адначасна і большым і малым, але і большае ў нас ніколі не дапусьціць і ня прыйме малога, не захоча выявіцца ніжэйшым за другога. У такім выпадку можа быць адно з двох: або большае адступіцца і ўцячэ, калі набліжаецца да яго супраціўнік — малое, або шчазае, калі супраціўнік зьліваецца зь ім. Бо, астаючыся на месцы і прыняўшы малое, яно ста́нецца іншым ад таго, чым яно было раней, а якраз-жа гэтага яно і не жадае. Вось, скажам, я прыняў і дапусьціў малое, але астаюся самым сабою — я, як і раней, Сакратас, адно толькі маленькі, тады, як тое, большае ня можа быць малым, будучы большым. Гэтаксама і малое ў нас ніколі ня згодзіцца стацца або быць большым, і наагул аніводная з супроцьлежнасьцяў, астаючыся тым, чым яна зьяўляецца, ня хоча ані абярнуцца ў іншую супроцьлежнасьць, ані быць ёю,

але або ўцякае, або гіне.

— Так, — сказаў Кэбэс, — і мне здаецца, што рэч гэтак маецца.

Пачуўшы гэта, нехта з прысутных, — я ня памятаю сягоньня хто гэта быў — сказаў:

— У імя нябёсаў, ці зьяўляецца гэта адваротным да таго, у чым мы згадзіліся раней, пайменна, што з большага ўзьнікае меншае і зь меншага ўзьнікае большае, і, што супроцьлежнасьці проста ўзьнікаюць з супроцьлежнасьцяў? А цяпер вось, наколькі я разумею, мы цьвердзім, што гэтак ніколі ня бывае!

Сакратас абярнуўся да гаворачага, выслухаў яго, і пасьля сказаў:

— Я люблю тваю адвагу, прыпамінаючы нам аб гэтым. Але ты не зразумеў розьніцы, якая існуе паміж двума выпадкамі. У першым выпадку мы казалі, што з супроцьлежнае рэчы ўзьнікае супроцьлежная рэч, а цяпер, што сама супроцьлежнасьць ніколі не перайначваецца ў уласную супроцьлежнасьць. І гэта: ані ў нас, ані ў сваей натуры. Тады мы казалі пра рэчы, якія маюць супроцьлежныя якасьці, называючы рэчы імёнамі супроцьлежнасьцяў, а цяперака пра самыя супроцьлежнасьці, прысутнасьць якіх дае імёны рэчам. І гэта яны, цьвердзім мы цяперака, ніколі не выяўляюць нахілу ўзьнікнуць адна з другое. — Пры гэтым, узіраючыся на Кэбэса, ён сказаў: — Магчыма і ты сумляваешся ў чым-небудзь з таго, што ён сказаў?

— Не, — адказаў Кэбэс, — ані крышку. Але я ня буду пярэчыць, што існуюць рэчы, якія ўводзяць мяне ў сумліў.

— Значыцца, мы згодзімся без ніякіх засьцярогаў, — сказаў Сакратас,— што супроцьлежнасьць ніколі ня будзе супроцьлежнаю сама сабе?

— Згодзімся без найменшых засьцярогаў.

— А цяперака, ці згодзішся ты са мною паўзірацца

на пытаньне зь іншага пункту гледжаньня, і ці падзеліш ты маю думку: — Існуе рэч, якую ты называеш „гарачае“ і „халоднае“?

— Пэўна.

— А ці зьяўляюцца яны тое самае што: „сьнег“ і „агонь“?

— Зусім не.

— Значыцца гарачае — гэта нешта іншае, чымся агонь, і халоднае — іншае, чымся сьнег?

— Так.

— Але ты, мусіць, згодзішся, што сьнег (як мы толькі што казалі), дапусьціўшы і прыняўшы гарачае, ужо ня будзе тым, чым быў раней — сьнегам, і, адначасна, гарачым: бо, калі гарачае наблізіцца, ён або адступіць перад ім, або згіне.

— Абсалютна правільна.

— Гэтакім самым чынам ты, мусіць, разумееш, што агонь, калі да яго набліжаецца халоднае, або адступае, або чэзьне: ён ня хоча і ня можа, прыняўшы холад, астацца тым, чым быў раней — агнём, і, адначасна, халодным.

— Гэта правільна, — сказаў ён.

— Значыцца, у некаторых падобных выпадках магчымым ёсьць, што адзін і той самы назоў астаецца на ўсенькія часы ня толькі пры самай ідэі, але і пры нечым іншым, што не зьяўляецца ідэяю, але валадарыць ейнаю формаю праз усе часы свайго існаваньня. Я спадзяюся, што хутка ты зразумееш ясьней пра што я кажу. Няцотнае заўсёды павінна насіць тое імя, якім я яго цяперака абазначаю, ці не заўсёды?

— Пэўна, што заўсёды.

— Але, ці адно яно з усяго, што існуе, носіць імя няцотнае? А мо' яшчэ існуе што-небудзь? Гэтае іншае ня ёсьць тым самым, што няцотнае, а ўсё-ж, апрача свайго собскага імя, павінна заўсёды называцца няцотным, бо,

паводля свае натуры ёсьць неаддзельным ад няцотнага. Тое, пра што я кажу, можна бачыць на шматлікіх прыкладах, і ў апрычоннасьці — на прыкладзе трох. Затрымаймася над лікам „тры“.Ці не здаецца табе, што яго трэба заўсёды абазначаць і сваім назовам, і назовам няцотнага, хоць няцотнае і не адказвае тром? Але гэткая ўжо натура і трох, і пяцёх, і наагул паловы ўсіх лікаў, што кажнае зь іх заўсёды няцотнае, і аднак-жа, аніводнае зь няцотным у суцэльным не пакрываецца. Гэткім самым спосабам два, чатыры і далейшая сэрыя лікаў цотных, хоць з цотным у суцэльнасьці аніовдным ня зыходзіцца. Згаджаешся ты з гэтым ці не?

— Натуральна, згаджаюся! — адказаў Кэбэс.

— Тады ўважай старанна на тое, што́ я хачу выкрыць. Мусіць, ня толькі ўсе гэтыя супроцьлежнасьці ня прыймаюць адна другую, але і рэчы, якія не зьяўляюцца супроцьлежнымі адна да другое, аднак-жа стала нясучыя ў сабе супроцьлежнасьці, — нават і гэтыя рэчы, мусіць, ня прыймаюць тае ідэі, якая супроцьлежна агорнутай у іх самых, але, калі яна надыходзіць, або гінуць, або ўступаюць перад ёю. Ці-ж ня прызнае́м мы, што тры баржджэй згінуць, баржджэй будуць зносіць усё, што хочаш, але ня стануцца цотнымі, астаючыся трыма?

— Пэўна, што прызне́м, — сказаў Кэбэс.

— Тады, — сказаў ён, — двойка не зьяўляецца супроцьлежнай тройцы?

— Зусім не.

— Згэтуль, ня толькі супроцьлежныя ідэі адпіхаюць адна другую, але існуюць і іншыя супроцьлежнасьці, якія ня зносяць набліжэньня.

— Зусім трапна, — сказаў ён.

— Ці не хацеў-бы ты, каб мы выразьнілі, якія зь іх якраз?

— Ведама, што хачу.

— Ці ня тыя, Кэбэс, што, апанаваўшы рэч, змушаюць

яе прыняць ня толькі сваю ідэю, але гэтаксама ідэю, супроцьлежную пэўнай іншай і далей ад рэчы неадлучную?

— Як ты разумееш?

— Гэтак, як толькі што мы гаварылі. Ты-ж ведаеш і памятаеш, што кажная рэч, якую агортвае ідэя тройнасьці, ёсьць абавязкава і тры і няцот.

— Так.

— Да гэткае рэчы ніколі ня прыйдзе ідэя, супроцьлежная таму вобразу, які гэтую рэч творыць.

— Так.

— А тварыла яе няцотнасьць?

— Але́.

— І супроцьлежная ёй ідэя цотнасьці?

— Так.

— Дык і ёсьць, што да трох ідэя цотнасьці ніколі ня прыйдзе?

— Ніколі.

— Тры ня маюць часткі ў цотнасьці?

— Не.

— Значыцца, тры супроцьцотныя?

— Але́.

— А цяперака вернемся да вырозьненьня. Якія рэчы, ня будучы супроцьлежнымі да нечага, а ўсё-ж ня прыймаюць самога супроцьлежнага, якое знаходзіцца ў гэтым нечым? Напрыклад, тройнасьць не зьяўляецца супроцьлежнай цотнаму, а тымчасам ня прыймае яго, бо заўсёды ўводзіць у гульню свомасьць, супроцьлежную цотнаму. Гэтаксама двойнасьць ўводзіць свомасьць, супроцьлежную няцотнаму або агонь халоднаму — як прыклады (і існуе яшчэ болей з гэтага), затым, магчыма, ты ў стане цяперака дайсьці да агульнага выснаву, што ня толькі супроцьлежнае ня прыйме супроцьлежнага, але, калі ідэя апаноўвае пэўную рэч, уводзіць у яе адну із дзьвюх супроцьлежнасьцяў, дык

яна ніколі не дапусьціць і ня прыйме свомасьці, супярэчнае той, якую яна прыносіць. Прыпомні яшчэ раз — ніколі не зашкодзіць праслухаць зноў тую самую рэч. Пяць ня прыйме цотнасьці, гэтаксама, як дзесяць — пяць падвойныя — няцотнасьці. Зразумелым ёсьць, што сама падвойнасьць мае сваю апрычоную супроцьлежнасьць, і адначасна няцотнасьці яна ня прыйме. Гэтаксама ані паўтары, ані якая-небудзь іншая дроб гэтага самага раду ня прыйме цэлага, ані тая, якая зьмяшчае траціну з усімі іншымі, падобнымі ёй дробямі. Спадзяюся ты ідзеш за мною ў думцы і згаджаешся з маім паглядам.

— Так, я згаджаюся, і сьледую за табою.

— Цяпер, — сказаў ён, — вярнёмся яшчэ раз на пачатак. І не адказвай на маé пытаньні да тае пары, пакуль я не пакажу як адказваць. Ня гледзячы на папярэднюю ўпэўненасьць, я хачу нечага болей, пайменна, у ходзе нашага разважаньня я бачу іншую новую ўпэўненасьць у тым, штó казалі мы раней. Калі-б ты запытаў мяне, штó павінна зьявіцца ў целе, каб яно сталася цёплым, дык я ўжо ня даў-бы таго пэўнага, але нямудрага адказу, і не сказаў-бы, што цяплыня, але, асягнуўшы дасьведчаньне ў нашым разважаньні, адказаў-бы болей далікатна, пайменна, што агонь. І, калі хто-небудзь цябе запытае, „чаму цела ёсьць зьнядужаным“, дык ты ня скажаш, што з прычыны хваробы, але з прычыны гарачкі. Разважаючы ўздоўж гэтага шляху: штó павінна зьявіцца ў ліку, каб ён стаўся няцотным? Не няцотнасьць, але адзінасьць. Вось, і гэтак далей. Цяпер, разумееш ты даволі ясна, штó я маю на ўвазе?

— Так, я разумею цябе, — сказаў ён.

— Тады скажы: штó мáе зьявіцца ў целе, каб яно сталася жывым?

— Душа, — сказаў Кэбэс.

— Ці бывае гэтак заўсёды?

— Так, — сказаў ён, — напэўна.

— Згэтуль, чым-бы душа ні валодала, яна заўсёды прыносіць з сабою жыцьцё?

— Так, напэўна.

— А ці існуе што-небудзь супроцьлежнае жыцьцю?

— Існуе.

— І што гэтым ёсьць?

— Сьмерць.

— Тады душа, як было ўжо сьцьверджана, ніколі ня прыйме супроцьлежнага таму, што́ заўсёды ўносіць сама?

— Найболей праўдападобна, — сказаў Кэбэс.

— Дык што-ж выходзіць? Як мы ўжо назвалі тое, што́ ня прыймае формы цотнасьці?

— Няцотным.

— А тое, што́ ня прыймае справядлівасьці, і тое, што́ ніколі ня прыймае адукаванасьці, як мы называем?

— Неадукаваным, — сказаў ён, — і іншае — несправядлівым.

— Добра. А тое, што́ ня прыймае сьмерці, як мы назаве́м?

— Несьмяротным.

— А душа ня прыймае сьмерці?

— Не.

— Значыцца, душа несьмяротная?

— Несьмяротная, — сказаў Кэбэс.

— Ці маем мы сказаць, што гэта ўжо даведзена?

— Даведзена, Сакратас, і пры гэтым зусім дастаткова.

— Выйдзем з залажэньня, што няцотнае ёсьць нязьнішчальным, дык з гэтага нязьнішчальнай ёсьць і тройка?

— Ведама.

— І, калі-б тое, што́ ёсьць халодным, было-б нязьнішчальным, дык, калі-б да сьнегу наблізілі цяплыню, дык ён адступіўся-б цэлы і нерастояным? Бо-ж згінуць

ён ня мог-бы, але ня мог-бы прыняць і цяпла, астаючыся самым сабою?

— Правільна, — сказаў ён.

— Я думаю, што гэтаксама, калі-б нязьнішчальным было гарачае, і, калі-б да агню набліжалася нешта халоднае, ён ня тухнуў-бы, і ня згінуў, але адступіў-бы ў суцэльнасьці.

— Напэўна, — сказаў ён.

— Гэткім самым спосабам можам мы разважáць і пра несьмяротнае: Калі несьмяротнае ёсьць нязьнішчальным, тады душа, будучы заатакаванай сьмерцяю, ня можа шчэзнуць. З усяго, што толькі што сказалі мы, выплывае, што яна ня прыйме сьмерці і ня будзе мёртвай, гэтаксама, як ня будзе цотнай ані тройка, ані сама няцотнасьць, гэтаксама, як ня будзе халодным ані агонь, ані цяплыня ў вагні. Або хто-небудзь можа сказаць: „Хоць няцотнае і ня станецца цотным пры набліжэньні цотнага, чаму-б ня мела няцотнае шчэзнуць, а цотнае заняць месца няцотнага?“ Гэтакаму, хто гэтак казаў-бы, мы не маглі-б адказаць, што няцотнае ў аснаўным ёсьць нязьнішчальным; бо гэта ня было сьцьверджана, калі-б гэта было сьцьверджана, тады ня было-б труднасьці падтрымліваць пагляд, што пры набліжэньні цотнага няцотнае і лік тры аддаляюцца. Падобнае мы маглі-б утрымліваць адносна агня, жары і іншых рэчаў. Так?

— Я пэўны.

— Падобнае можа быць сказаным і пра несьмяротнае. Калі мы згодны, што несьмяротнае ёсьць нязьнішчальным, дык і душа гэтаксама будзе несьмяротнай, як і нязьнішчальнай; а калі не, дык нейкі іншы доказ яе нязьнішчальнасьці павінен быць дадзены.

— Не, не патрэбны ніякі іншы доказ, — сказаў Кэбэс, — бо нічога ня можа ўхіліцца ад зьнішчэньня, калі несьмяротнае, гэта значыць вечнае, можа быць зьнішчаным.

— Так, — адказаў Сакратас, — усе людзі згаджаюцца, што ані Бог, ані сама сутнасьць жыцьця, ані несьмяротнасьць наагул, ніколі не шчазаюць.

— Так, усе згаджаюцца, — сказаў ён, — натуральна, усе людзі, і асабліва, як я думаю, багі.

— Затым, калі несьмяротнае ёсьць нязьнішчальным, дык і душа, калі яна несьмяротная, павінна быць нязьнішчальнай.

— Болей, чымся праўдападобна.

— І, калі да чалавека набліжаецца сьмерць, дык сьмяротная ягоная частка, мусіць, памірае, а несьмяротная адыходзіць цэлаю і непашкоджанаю, ухіляючыся ад сьмерці?

— Напэўна гэтак ёсьць.

— Тады няма ніякага сумліву, Кэбэс, — сказаў ён, — душа зьяўляецца несьмяротнай і незьнішчальнай. І, запраўды, душы нашыя будуць існаваць у іншым сьвеце.

— Я перакананы, Сакратас, — сказаў Кэбэс, — і я ня маю болей ніякіх запярэчаньняў. Але, калі сябра мой, Сімміяс, ці хто-небудзь іншы хоча што-небудзь сказаць, няхай тады ня тояць сваіх думак: гэткае другое нагоды для вымены думак у так важным пытаньні, здаецца, не прадбачыцца, затым, ляпей гаварыць цяпера.

— Я гэтаксама, — сказаў Сімміяс, — ня маю нічога болей сказаць, і пасьля таго, што тут было сказана, я ня бачу ніякае прычыны для сумліву. З другой стараны, аднак, я ўсё-ж чую няпэўнасьць, калі я думаю пра велічнасьць пытаньня і кволасьць людзкае сілы.

— Так, Сімміяс, — адказаў Сакратас, — гэта было вельмі добра сказана. І я магу дадаць ад сябе, што адносна прынцыпаў, калі нават яны і выяўляюцца пэўнымі, павінна быць занята вельмі разважнае становішча. Калі яны і выдаюцца дастаткова запэўненымі, тады, у нейкім сэнсе з хілкім даверрам у людзкі розум, вы мо-

жаце, я думаю, ісьці паводля доказу. Бо ў тую самую хвіліну, калі гэта станецца для вас ясным, вы супыніце досьлед.

— Гэта праўда, — сказаў Сімміяс.

— А цяперака, мае паважаныя мужы, — казаў Сакратас далей, — ёсьць нешта, над чым мы павінны затрымацца. Калі душа запраўды зьяўляецца несьмяротнай, тады якое-ж стараньне павінна быць удзелена ёй, і ня толькі для гэтага часу, які мы называем жыцьцём, але на ўсенькі час — вечнасьць! Небясьпека занядбаньня яе з гэтага пункту гледжаньня выдаецца быць страшнаю. Калі-б сьмерць мелася быць канцом усяго, гэта быў-бы добры выхад для ўсіх дрэнных, бо, паміраючы, яны адначасна ратаваліся-б ня толькі ад цела, але — разам з душою — ад свае ўласнае агіды. Але цяперака, калі ўжо выясьнілася, што душа ёсьць несьмяротнай, дык для яе намашака ўжо іншага прытулку і збаўленьня ад зла, за выняткам аднаго: стацца як найболей добрай і як найболей мудрай. Бо душа, калі яна пераходзіць у дом Гадэсу, нічога не бярэ з сабою апрача ўзгадаваньня і спосабу вядзеньня жыцьця, і гэтыя вось, як кажуць, і зьяўляюцца пераважна або добрым слаўленьнем, або значнаю шкодаю з самага пачатку вандраваньня ў замагільны сьвет.

Бо, калі чалавек памрэ, як кажуць людзі, ягоны гэні (δαίμων), да якога ён быў прыдзелены ў часе жыцьця, вядзе яго ў апрычонае месца, дзе сузграмаджаныя ўсе памершыя праходзяць суд, і пасьля гэтага пераходзяць у дом Гадэсу з тым правадыром, якому накладзены абавязак давесьці ўсіх туды. Атрымаўшы там удзел, які яны павінны былі атрымаць, і прабыўшы тэрмін, які яны мелі прабыць, яны вяртаюцца сюды назад пад кіраўніцтвам іншага правадыра. І гэтак паў-

тараецца ізноў і ізноў на працягу шматлікіх пэрыядаў часу. Гэты шлях у іншы сьвет не зьяўляецца гэтакім, як яго прадстаўляе Тэлефос у Айсхілеса — адзіны і просты — бо, калі-б гэтак было, не патрэбным быў-бы правадыр, бо і так ніхто ня змыліў-бы. Не, дарога ма́е шмат разгаліненьняў і скрыжаваньняў, як чыню я гэта выснаў на падставе абрадаў і складаньняў ахвяраў, перасьцераганых у нас. Разумная душа і шляхотная паслухмяна сьледуе па простаму шляху і акружэньне, якое яна спатыкае, ёсьць свомым для яе. Але душа, схільная да цела, як я ўжо раней казаў, доўга лунае навакол абмярцьвелае хвормы і спасьцярожнага сьвету, пасьля лічных змаганьняў і цярпеньняў, пакуль, нарэшце, прыстаўлены да яе гэні сіламоцаю ня выведзе яе згэтуль. І, калі яна прыбудзе на месца, на якім знаходзяцца зграмаджаныя іншыя душы, — калі яна брудная і запэцканая дрэннымі ўчынкамі: ці гэта несправядлівым забойствам, ці іншым, падобным да гэтага, што даконваюць гэткія-ж душы — ад гэткае душы іншыя душы адвяртаюцца і ўцякаюць. Ніхто ня хоча быць у яе прысутнасьці, ніхто ня хоча весьці яе, затым яна адна блукаецца ў кажнай патрэбе і нявыгадзе, пакуль ня выпаўняцца часы, па заканчэньні якіх, у сілу неабходнасьці, уцелясьняецца ў новае месца прабываньня, да якога яна найляпей датарноўваецца. А душы, якія прайшлі праз жыцьцё чыстымі і з належнаю павагаю, знаходзяць сярод багоў і спадарожнікаў і правадыроў, і кажная селіцца ў адказваючым для яе месцы.

Зямля-ж ма́е розныя цудоўныя мясцовасьці, і паводля свае натуры і памеру зусім непадобная да разважаньняў тых, якія прывыклі гаварыць пра гэта. Я апіраюся на выказваньні аднаго чалавека, які няхай астанецца бязіменным.

— Як ты гэта разумееш, Сакратас? — сказаў Сімміяс. — Я сам шмат чуў апісаньні зямлі, але ня ведаю, да

якога ты прыйшоў перакананьня, і затым ахвотна хацеў-бы пачуць цябе.

— Бачыш, Сімміяс, калі-б я меў мастацтва Ґляўкоса, я расказаў-бы табе; хоць я ведаю, што нават здольнасьць Ґляўкоса не магла-б даказаць праўды майго апавяданьня, якое я сам ня быў-бы здольным даказаць, а нават, калі-б я мог, баюся, Сімміяс, што маё жыцьцё барждзжэй прыйшло-б да канца, чымся я скончыў-бы свой доўгі доказ. Аднак-жа я магу апісаць табе форму зямлі і яе часткі паводля майго разуменьня рэчы.

— Вельмі добра, — сказаў Сімміяс, — мы здаволімся і гэтым.

— Вось у чым маё перакананьне: Калі зямля круглая, па-першае, і трымаецца сярод неба, дык яна не патрабуе ані паветра, ані іншае якое-небудзь падобнае сілы, якая трымала-б яе, каб ня ўпала або перахілілася, — дзеля гэтага хопіць аднастайнасьці неба ўва ўсіх напрамках і ўласнае раўнавагі зямлі, бо цела, якое знаходзіцца ў раўнавазе і ўмясцоўленае ў васяродзьдзі аднастайнага ёмашча, ня можа адхіліцца ані на той, ані на гэты бок, пад ніякім кутом, але астаецца ў тым самым і нярухомым палажэньні. Гэта ёсьць першае, у чым я перакананы.

— І гэта зусім трапна, — сказаў Сімміяс.

— Далей я пераканаўся, што зямля запраўды вельмі вялікая і, што мы, каторыя засяляем абшар ад Фасісу да Гэраклесавых Слупоў, займаем адно толькі маленькую яе частку; мы зьбіліся навакол нашага мора, быццам мурашкі ці жабы навакол балота, а іншыя народы жывуць на шматлікіх іншых мясцох, падобных да нашага. Бо-ж на ўсенькім твары зямлі існуюць западліны розных хвормаў і памераў, у якіх сузграмаджаецца і вада, і туман, і паветра. Але запраўдная зямля астаецца чыстай і супачывае ў чыстым небе — дзе знаходзяцца гэтаксама і зоры; і гэта ёсьць неба, якое

агульна між намі называецца этэрам, якога ападкі зьбіраюцца ў западліны. Але мы, каторыя жывем у гэтых западлінах, зусім і не здагадваемся аб тым, але ўяўляем сабе, быццам жывем на самым узьверху зямлі, што ўпадабняе нас да таго, жывучага на дне мора і думаючага, быццам ён жыве на паверхні, і, бачучы праз ваду сонца і зоры, мора ўважаў-бы за неба. З прычыны павольнасьці свае і немагаты ён ніколі не асягнуў-бы паверхні, ніколі ня вынурнуў-бы і не падняў свае галавы з вады, каб даведацца або пачуць ад таго, хто бачыў, як чыста і як болей прыгожа тут, у нас, чымся ў ягоным навакольлі.

Якраз у гэткім палажэньні знаходзімся і мы: бо мы жывем у западліне зямлі, і думаем, што жывем на паверхні, і паветра называем небам, думаючы, што зоры парушаюцца ў ім, і гэта ёсьць неба. А ўсё гэта затым, што з прычыны нашае немагаты і павольнасьці, мы не зьяўляемся ў стане асягнуць паверхні паветра. Але, калі-б хто-небудзь, ня гледзячы на ўсё, мог асягнуць найвышэйшы скрай паветра, або ўзяў крыльлі птушкі і падняўся на ўзвышша, дык, падобна, як рыбы ў нашым моры, якія высоўваюць голавы з вады і бачаць гэты наш сьвет, — гэтак і ён, падняўшы галаву, убачыў-бы тамтой сьвет. І, калі-б з прычыны натуры сваей ён быў-бы здольным зьнесьці гэты спазор, дык ён спасьцярог-бы, што бачыць першы раз запраўднае неба, запраўднае сьвятло і запраўдную зямлю. А наша замля, ейнае каменьне, і ўсе ваколіцы, што нас абкружваюць, разгрызеныя і размытыя, быццам морскія скалы, разьедзеныя салёнаю вадою. Нічога годнае ўвагі не расьце ў моры, і не асягвае дасканаласьці, а там, дзе ёсьць зямля — тамака толькі патрэсканыя скалы, пясок, бясконцая твань і балота; інакш кажучы, там зусім нічога няма, што можна было-б параўнаць з прыгожасьцю нашых ваколіцаў. Але куды болей яшчэ адрозьніваецца той,

узьверхні сьвет ад нашага! І пра гэтую верхнюю зямлю, якая знаходзіцца пад небам, я магу табе, Сімміяс, расказаць цудоўны пераказ, які варта паслухаць, калі толькі сучасныя абставіны спрыяюць гэтаму.

— Запраўды, Сакратас, — сказаў Сімміяс, — мы былі б ра́ды паслухаць гэты пераказ.

— Пераказ, мой дружа, пачынаецца гэтак: — У першую чаргу, зямля, калі паўзірацца на яе зьверху, падобна да кулі, сшытае зь дванаццаці кускоў шкуры, размалёванай рознымі колерамі. Фварбы, якімі карыстаюцца мастакі-маляры на нашай зямлі, могуць быць прыкладам гэтых колераў, але там уся зямля пераліваецца гэткімі колерамі, і нават болей зіхацістымі і беззаганнымі. На адным месцы яна шкарлатная і дзіўнае прыгожасьці, на другім — залацістая, на трэйцім — белая, і бялейшая за крэйду або сьнег. Гэтыя і іншыя колеры, якія складаюцца на суцэльнасьць вобразу, зьяўляюцца шматлікімі і найпрыгажэйшымі за ўсё тое, што вока людзкае магло калі-небудзь бачыць. Нават тыя самыя западліны, пры якія я ўжо ўспамінаў, хоць і напоўнены паветрам і вадою, маюць свае ўласныя колеры і выдаюцца лёгка зіхацістымі ўвасяродзьдзі безьліччу іншых колераў гэтак, што ў цэласьці выяўляе сабою адзінае і трываючае зьявішча разнароднасьці і суцэльнасьці.

Вось якая яна, і, на суцэльнасьць прыгожасьці, на ёй расьце кажная рэч — дрэвы і кветкі, і плады ў гэткай самай ступені і прыгажэйшыя за тыя, што тут растуць; і віднеюцца там горы і скалы, гладчэйшыя і болей празрыстыя, і болей прыгажэйшыя ў колерах, чымся нашыя найболей цэнныя сардоніксы, іасьпісы і смарагды і іншыя дарагацэнныя камяньні, якія зьяўляюцца толькі малою часткаю іх: бо тамака ўсе камяньні падобныя да нашых дарагацэнных камяньняў, дый яшчэ болей

прыгажэйшымі. Прычынаю гэтага ёсьць тое, што тамтэйшыя каменьні чыстыя, а не, як нашыя каменьні, разгрызеныя тваньняю і сольлю із ападкаў этэру, што сьцякаюць у нашыя западліны: яны стаюцца прычынаю брыдкасьці і хваробы гэтак для каменьня як і для ральлі, для жывёлы, як і для расьліннага сьвету.

Усім гэтым багацьцем упрыгожана запраўдная зямля, якая гэтаксама зіхаціць золатам і серабром і іншымі падобнымі рэчамі. Шматлікія яны знаходзяцца ў сьвятле дня і на розных мясцох, чынячы зямлю спазорам, цешучым вока гледача. Знаходзяцца тамака зьверы і людзі, некаторыя ў васяродзьдзі сухадольля, іншыя — на ўскраіне паветра, гэтак, як мы жывем навакол мора; яшчэ іншыя знаходзяцца на вастравох, абцякаючых паветрам, недалёка ад сталага кантынэнту. Інакш кажучы, як для нас і нашых патрэбаў вада і мора, гэтак для іх паветра, а тое, чым для нас паветра, для іх — этэр. Сьпякота і прахалода чаргуюцца між сабою ў гэткіх суадносінах, што людзі гэтыя ніколі не хварэюць і жывуць шмат даўжэй за нас. Яны маюць зрок, слух і нюх і ўсе іншыя пачуцьці ў такой лепшай дасканаласьці, як у гэткай самай прапорцыі паветра ёсьць чысьцейшым за ваду, або этэр чысьцейшы за паветра. Маюць яны гэтаксама сьвятыні і сьвятыя месцы, у якіх запраўды жывуць багі і, пры помачы розных знакаў — голасу і відзежы, зносяцца зь людзьмі. І людзі бачаць сонца, і месяц, і зоры такімі, якімі яны зьяўляюцца ўзапраўды. І іншае іхнае шчасьце ёсьць з удзелу гэтага.

Гэтакай зьяўляецца натура ўсяе зямлі і тых рэчаў, што знаходзяцца навакол яе. Існуюць усюды ўглыбленьні абшараў у западлінах на ўзьверху зямлі, і некаторыя з гэтых западлінаў зьяўляюцца глыбейшымі і болей шырокімі за тую, у якой мы жывем, іншыя яшчэ глыбейшыя з вужэйшым адкрыцьцем, чымся нашыя, а іншыя зьяўляюцца плытчэйшымі і значна шырэйшы-

мі. Усе яны маюць падзямельныя вузкія і шырокія праходы, што злучаюць іх між сабою; багатыя вадацёкі пераліваюцца адзін у другі, быццам з чары ў чару, і з-пад зямлі выплываюць нявычэрпныя і непраўдападобнае шырыні рэкі, і жаролы — гэтаксама халодныя як і гарачыя. І аграмадны агонь, і цякуць вялікія агнявыя рэкі, і рэкі морскае твані, часамі густое, часамі рэдкае, падобныя да балотных патокаў у Сыцыліі, якія бываюць перад выбухам лявы, або да самое лявы. І гэтыя рэкі напаўняюць кажнае заглыбленьне, і кажная із гэтых, са свае стараны, прыймае кажны раз усё новыя патокі вады або агню, якія кіруюцца часамі наверх, або ўніз, быццам нейкае сутрасеньне адбываецца ў нетрах, і стаецца гэта вось зь якіх прычынаў: — Адна з пашчаў зямлі — гэта найбольшая з усіх; там пачатак вотхлані, прабіваючае зямлю навылят, аб чым Гомэр успамінае, кажучы:

*Цемра і бездань там пад зямлёю, найглыбейшая прорва;*

на іншым месцы, і зь іншымі паэтамі, ён называе яе Тарта́рам. У гэтую прорву сьцякаюць усе рэкі і ў ёй зноў бяруць свой пачатак, і кажная атрымлівае сво-масьць зямлі, праз якую працякае. Прычына, дзеля якой рэкі выцякаюць і ўпада́юць у Тартар, крыецца ў тым, што ўся гэтая водная маса ня ма́е ані дна, ані асновы, і яна хістаецца — уздымаецца і апушчаецца, а разам зь ёю і агортваючае яе паветра і вецер; яны шугалі за вогкасьцю і кіраваліся за ёю ўсюды, куды яна ішла — на ўскраіну зямлі або бліжэй. І гэтак, як пры дыханьні, паветра ўсенькі час плыве, чаргуючыся ў вадным і другім напрамку, гэтак і там вецер разам з вогкасьцю або ўрываецца ў якое-небудзь месца, або вырываецца зь яго, творачы гэтым самым страшэннае сілы буралом.

Калі вада з сільнаю імклівасьцю адыходзіць на месца,

якое мы называем нізінаю, яна плыве праз зямлю ў ложышчах тамтэйшых рэкаў і напаўняе іх, быццам будучы выцісканаю сілаю; а калі адыходзіць адтуль і накіроўваецца сюды, дык зноў напаўняе тутэйшыя рэкі, і яны кіруюцца па падзямельных пратоках, кажная да тых мясцовасьцяў, да якіх пралажылі сабе дарогі, творачы моры і вазёры, даючы пачатак рэкам і крыніцам. Пасьля гэтага яны зноў пранікаюць у зямлю, іншыя зь іх, чынячы акружную і доўгую дарогу праз шматлікія і асобныя краіны, іншыя карацейшымі шляхамі і ўпадаюць у Тартар, адны значна ніжэй за свае крыніцы, іншыя крышку ніжэй, але ўсе ніжэй за месца сваіх вытокаў. Іншыя прабіваюцца зноў на супроцьлежным баку, а іншыя на тым самым месцы; знаходзяцца там і гэтакія, што плывуць навакол зямлі, абкручваючыся вакол яе раз або некалькі разоў, як вужакі, а пасьля западаюць уніз, як толькі гэта магчыма, але заўсёды, вяртаючыся ў прорву. Рэкі плывуць у любым напрамку, могуць зыйсьці ўніз толькі да сярэдзіны зямлі і не далей, бо з супроцьлежных бакоў зямля ўздымаецца ўверх.

Рэк гэтых вялікія шматлікасьць, розныя яны і магутныя, але чатыры із іх зьяўляюцца асаблівымі, із каторых адна вырозьніваецца сваею аграмаднасьцю і найболей аддаленая ад сярэдзіны, якая цячэ навакол зямлі, і называецца яна Акіянам. Насупраць яе, але на другім баку ад сярэдзіны, цячэ Ахерон [або Рака Цярпеньня], якая плыве праз лічныя пустынныя мясцовасьці, і пераважна пад зямлёю, і ўпадае ў возера Ахерузыяда: тут на берагох зьбіраюцца душы многіх памершых, і пасьля адчаканьня вызначанага часу — адны даўжэйшага, іншыя — карацейшага — накіроўваюцца назад, каб зноў радзіцца ў вобразе жывых існаваньняў.

Трэйцяя раќа бярэ свой пачатак паміж двума першымі, і хутка ўпадае ў шырокае месца, пылаючае гарачым агнём, дзе яна творыць сабою возера, большае за нашае

мора, у якім бурліць вада з мулам; далей, яна пасьпявае, выкручваючыся навакол зямлі, мутная і мулкая, і падходзіць да ўскраіны возера Ахерузыяды, але ня зьмешваецца зь ягонымі водамі. Зрабіўшы пад зямлёю яшчэ некалькі апаясаньняў, яна ўпадае ў ніжэйшую частку Тартару. Гэтая рака Пірыфлеґетон [або Рака Пылаючага Агню], як яе называюць, якая выкідвае навонкі пырскі свае лявы ўсюды там, дзе дакранецца зямное паверхні.

Чацьвертая рака выплывае з супроцьлежнае стараны, якая перш цячэ, як кажуць, праз месцы страшэнныя і дзікія, маючы колер цёмна блакітнае палівы; і гэта ёсьць рака, якая называецца Стыґіянскаю ракою [або Ракою Нянавісьці], і возера, якое яна хвармуе, называецца Стыкс. Упадаючы ў яго, воды ракі твораць сабою страшэнную сілу, звальваючыся пад зямлю далей, апісваюць кола ў напрамку адваротным да Пірыфлеґетону і падыходзяць да возера Ахерузыяды з супроцьлежнае стараны. І воды гэтае ракі нідзе ня зьмешваюцца з водамі іншымі, і гэтаксама аббегшы зямлю навакол, упадаюць у Тартар на супраць Пірыфлеґетону. І імя гэтае ракі, як кажуць паэты, ёсьць Кокітос [або Рака́ Плачу].

Вось як уладжаны сьвет.

Калі памершыя прыходзяць у тое месца, куды прыводзіць кажнага ягоны гэні, дык першае, што творыцца над імі — гэта суд: і над тымі, што жылі добра і пабожна, і над тымі, што жылі інакш. І тыя, адносна якіх выявіцца, што яны жылі ані добра, ані дрэнна, накіроўваюцца ў Ахерон, узыходзячы на лодкі, якія, як кажуць, чакаюць на іх, і на якіх прыбываюць на возера. І тут яны прабываюць, і ачышчаючыся ад правінаў, якія яны займелі ў часе жыцьця, церпяць пакараньне і атрымліваюць звальненьне ад вінаў, а за добрыя ўчынкі атрымліваюць узнагароды — кажны паводля заслугаў.

Але тыя, каторых прызнацімуць за непапраўных з прычыны велічча іхных праступкаў — каторыя дапусьціліся чыну сьвятатацтва, абкрадаўшыя часта сьвятыні, або забойцы, якія загубілі шматлікіх наўсуперак праву і справядлівасьці, або ім падобныя злодзеі — гэтых належная ім доля кідае іх ў Тартар, адкуль яны ўжо ніколі ня выходзяць.

Зноў-жа тыя, пра каторых вырашаць, што яны дапусьціліся хоць і цяжкіх, але прабачальных праступстваў, напрыклад, у хвіліну злосьці замахнуліся на бацьку ці матку, а пасьля праз усё жыцьцё шкадавалі, або сталіся забойцамі ў нейкіх падобных абставінах, гэтакія маюць быць укінутымі ў Тартар; аднак-жа пасьля прабыцьця там аднаго году хвалі выносяць іх адтуль: чалавеказабойцаў праз Кокітос, і бацьказабойзаў і матказабойцаў праз Пірыфлéґетон. І, калі яны знаходзяцца недалёка ад узьбярэжжа возера Ахерузыяды, тады яны ўздымаюць свае галасы і клічуць тых, каго яны забілі або спрычынілі якую-небудзь крыўду і просяць іх і кленчаць, каб яны зьлітаваліся над імі, дазволілі ім выйсьці ў возера і прынялі іх. І, калі тыя схіляцца да іхных просьбаў, яны выходзяць і гору іхнаму наступае канец, а калі не — дык зноў выносяцца ў Тартар, а адтуль зноў у рэкі, і гэтак яны церпяць да тае пары, пакуль не атрымаюць прабачэньня ад тых, каго яны так ці гэтак скрыўдзілі: у гэтым і заключаецца кáра, накладзеная на іх судзьдзямі.

А тых, зноў, пра каго вынясуць прысуд, што яны правялі жыцьцё ў асаблівай сьвятасьці, выпускаюць на волю і асвабаджаюць з зямное прорвы, і яны накіроўваюцца ў дом чысьціні высака і асяляюцца на чыстай зямлі. Тыя зь іх ліку, каторыя, дзякуючы філязофіі дастаткова ачысьціліся, жывуць далей зусім бяз целаў у аселішчах яшчэ болей прыгожых, пра якія аднак-жа пераказаць ня ёсьць рэчаю лёгкаю, дый часу ўжо у нас

асталося ня шмат.

Дзеля ўсяго гэтага, пра што мы вось цяпер гаварылі, Сімміяс, мы павінны ўчыніць усе натугі, каб стацца ўдзельнікамі мудрасьці і цноты пакул мы яшчэ жывем. Бо, запраўды, прыгожая ўзнагарода і вялікая спадзея!

Чалавек разумна думаючы не павінен падтрымліваць думкі, быццам усё пададзенае мною, якраз гэтак і маецца. Але, калі мы знаходзім, што душа зьяўляецца несьмяротнай, дык, як мне здаецца, цьвердзіць можна і трэба рашуча, што гэткая або прыблізна гэткая доля і месца прабываньня прыгатаваны для нашых душаў, — бо гэтакая рашучасьць, думаю, зьяўляецца адпаведнай і прыгожай, — пры помачы яе мы ўздымаем самых сябе. З гэтаю мэтаю я і падаў вам гэты пераказ гэтак прасторна і падрабязна. З гэтае прычыны, я і кажу, чалавек павінен быць поўны даверра адносна свае ўласнае душы, калі ён на працягу ўсяго жыцьця адхіляў усе змысловыя радасьці і, у апрычонасьці, упрыгожаньні, уважаючы іх чужымі для сябе і прыносячымі барждзэй шкоду, чымся карысьць, які імкнуўся асягнуць іншыя радасьці, радасьці веды, і, упрыгожыўшы душу ня чужымі, але запраўднымі яе ўпрыгожаньнямі — паўстрыманасьцю, справядлівасьцю, мужствам, свабодаю, праўдаю — чакае на вандраваньне ў іншы сьвет, гатовы распачаць падарожжа, як толькі лёс пакліча яго.

Вы, Сімміяс і Кэбэс, і ўсе іншыя, гэтаксама пойдзеце гэтым шляхам, кажны ў адпаведным часе: а мяне ўжо „вось цяперака голас лёсу кліча“, як мусіць сказаў-бы гэтак які-небудзь гярой у трагэдыі. Але, здаецца, пара́ мне ўжо мыцца: я думаю, што ляпей выпіць атруту пасьля мыцьця, каб ня спрычыніць жанчынам клопату мыць маё цела пасьля смерці.

Калі ён кончыў гаварыць, Крытон сказаў:

— Добра, Сакратас, ці не хацеў-бы ты пераказаць ім або мне тваю волю адносна дзяцей ці яшчэ чаго-не-

будзь? Што мы можам учыніць для цябе, каб выразіць нашую ўслугу?

— Тое, што я заўсёды казаў, Крытон, — сказаў ён, — нічога новага: думайце і турбуйцеся пра самых сябе, і тады, што ні рабілі-б вы — гэта будзе добраю ўслугаю і мне, і маім блізкім, і самым вам, хоць-бы нават вы цяперака нічога і не прыракалі. Але, калі вы занядбаеце самых сябе і не захочаце жыць у сузгодзьдзі з тым, пра што мы гаварылі цяпер і ў мінулых часох, дык вы нічога не асягнеце, ня гледзячы на тое, колькі-б вы маглі напрыракаць сягоньня.

— Так, Сакратас, — сказаў Крытон, — мы ўчынім усё, каб выпаўніць тваё жаданьне. А як мы маем пахаваць цябе?

— Як хочаце,— адказаў Сакратас, — але вы мусіце схваціць мяне і глядзець, каб я ня ўцёк ад вас. Пры гэтым ён ціха засьмяяўся і, павярнуўшыся да нас, далей казаў: — Ніяк я, сябры, не магу пераканаць Крытона, што я — гэта той Сакратас, які цяперака гутарыць з вамі і зьяўляецца ў стане панаваць над сваімі думкамі. Ён думае, што я — гэта той, каго ён хутка ўгледзіць памершым, і затым пытаецца, як мяне пахаваць! А вось уся гэтая доўгая гутарка пра тое, што, выпіўшы атруту, я ўжо ня буду разам з вамі, але адыйду ў шчасьлівыя краіны добра слаўленых, выдаецца яму пустымі словамі, якімі я хацеў пацешыць вас, і адначасна самога сябе. Дзелягэтага я хачу цяпер мець вас як гарантаў перад Крытонам, гэтак, як на судзе ён быў гарантам судзьдзям для мяне: але няхай гэтым разам гарантыя будзе адваротная; бо ён быў гарантыяй для мяне перад судзьдзямі, што я астануся на месцы, а вы маеце быць маімі гарантамі для яго, што я не астануся, але адыйду згэтуль, як толькі памру. Тады Крытону будзе лягчэй зносіць маю сьмерць і, бачучы, як маё цела спальваюць ці хаваюць у зямлю, ён не пачне ўжо на-

ракаць і забівацца, думаючы, быццам я паддадзены нечаму страшнаму, і ня будзе казаць на паховінах, што кладзе Сакратаса на хаўтурнае падвышэньне або выносіць, або закопвае. Будзь пэўны, Крытон, дарагі мой дружа, — казаў ён, — ужываньне дрэнных словаў зьяўляецца ня толькі нясузгоднасьцю з выдарэньнем, але спрычыняе пэўную шкоду і для душы. Дык-жа ня губі мужнасьці і кажы, што хаваеш маё цела, і хавай яго, як уважацімеш за найлепшае і ў сузгоднасьці з існуючымі абычаямі.

Сказаўшы гэта, ён падняўся і выйшаў у другое памяшчэньне мыцца, а Крытон пайшоў за ім, наказаўшы нам, пачакаць. І мы чакалі, абменьваліся думкамі і разважалі пра тое, што́ чулі, але мы зноў і зноў вярталіся да таго, якое вялікае гора нас засьпела: бо мы і чуліся, запраўды, быццам згубілі бацьку і мелі рэшту нашага жыцьця правесьці сіратамі.

Калі Сакратас памыўся, да яго ўвялі сыноў — ён меў двух меншых сыноў і аднаго большага; і, калі ўвайшлі і жанчыны зь ягонае радні, ён сказаў да іх некалькі словаў і ўчыніў некаторыя загады ў прысутнасьці Крытона. Тады сказаў жанчынам і дзецям, каб яны ішлі дадому, а сам зноў увайшоў да нас.

Час набліжаўся да заходу сонца, бо ён правёў шмат часу, будучы у ўнутраным памяшчэньні. Вярнуўшыся пасьля мыцьця, ён сеў і ўжо болей бадай-што не гаварыў з намі. У міжчасе зьявіўся слуга Адзінаццаці і, стануўшы насупраць Сакратаса, сказаў:

— Я думаю, Сакратас, што мне мусіць не патрэбным будзе наракаць на цябе, як гэта часамі на іншых, якія злуюцца і праклінаюць мяне з прычыны таго, што я, паводля загаду ўладаў, пада*ю* ім да ведама, што час піць атруту. Бо я ўжо раней за гэты час спасьцярог і пераканаўся, што ты найболей шляхэтны і самы лагодны і найболей добры зь людзей, якія калі-небудзь зна-

ходзіліся тут. І цяперака я гэтаксама ведаю, што ты ня гневаешся на мяне; бо іншыя, як табе ведама, а не я, зьяўляюцца адказнымі. Я думаю, што ты ўжо разумееш, зь якою весткаю я прыйшоў. Затым, будзь добрае думкі і пастарайся як можна найлягчэй зьнесьці тое, што мае стацца. Пры гэтым ён заплакаў і павярнуўся да выхаду. Сакратас паглядзеў на яго і сказаў:

— Будзь добрае думкі і ты. А мы ўсё зробім гэтак, як трэба. Пасьля, зьвярнуўшыся да нас, ён сказаў: — І які-ж ветлівы чалавек! Праз увесь гэты час ён наведваў мяне, а часамі гутарыў са мною і быў гэтакім добрым да мяне! А цяпер вось, як шчыра сумуе па мне. Аднак-жа, Крытон, паслухаемся яго. Няхай прынясуць чару з атрутаю, калі ўжо сьцерлі. А калі не, няхай сатруць.

А Крытон сказаў:

— Сонца яшчэ над горамі, Сакратас, і яшчэ не зайшло. Я ведаю, што іншыя прыймалі атруту значна пазьней; пасьля таго, як ім загадаюць, вячэралі, пілі колькі хацелі, а іншыя нават цешыліся прысутнасьцю сваіх каханых: не сьпяшайся — ёсьць яшчэ часу.

І Сакратас на гэта адказаў:

— Так, Крытон, тыя, пра каго ты ўспамінаеш, маюць сваё апраўданьне паступаць гэтак, бо яны думаюць, што, паступаючы так, нешта выйграюць. Але я маю абаснаваньне ня браць прыкладу зь іх, бо я ня думаю, што я мецімy нейкую карысьць, выпіваючы атруту крышку пазьней, а стануся толькі сьмешным для самога сябе, хапаючыся за жыцьцё і трасучыся над апошнімі ягонымі рэшткамі. Калі ласка, не пярэч мне, а зрабі гэтак, як я кажу.

Тады Крытон даў знак слузе, што стаяў блізка. Слуга выйшаў і пасьля нейкага часу вярнуўся з чалавекам, які трымаў у руцэ чару з прыгатованаю атрутаю, каб падáць Сакратасу. Убачыўшы гэтага чалавека, Сакра-

тас сказаў:

— Ну, вось, мой добры чалавеча, ты маеш дасьведчаньне з гэтымі рэчамі — што я ма́ю рабіць?

— Дый нічога, — адказаў той, — проста выпі і хадзі да тае пары, пакуль не пачуеш ацяжэньня ў нагах, а тады ляж. Атрута ўжо ўчыніць сваё.

Сказаўшы гэта, ён пада́ў Сакратасу чару. І Сакратас узяў яе з свомым яму супакоем, Эхэкратас, — не задрыжэў, не пабляднеў, і не зьмяніўся на твары, але, як гэта ён рабіў заўсёды, зірнуў на чалавека з-пад сваіх брывоў і запытаў:

— Што ты думаеш адносна таго, каб крыху зьліць з гэтага пітва на чэсьць каго-небудзь з багоў? Магу я, ці не?

Чалавек адказаў:

— Мы націраем гэтулькі, Сакратас, колькі неабходна выпіць.

— Я разумею, — адказаў Сакратас. — Але я хачу і павінен папрасіць багоў, каб перасяленьне з гэтага сьвету ў іншы было памысным. За гэта я малюся і гэтак няхай станецца.

Пасьля гэтых словаў ён паднёс чару да вуснаў спакойна і лёгка і выпіў зьмест яе да дна.

Да гэтае пары большасьць з нас сяк-так яшчэ трымалася, каб ня плакаць, але цяперака, бачучы, як ён п'е і як ён выпіў атруту, мы ўжо не маглі панаваць над сабою. Ня гледзячы на натугу, у мяне самога цяклі сьлёзы. Я захутаў свой твар і аплакваў самога сябе — не яго я аплакваў — але ўласнае гора, страту гэтакага сябры! І я ня быў першы; Крытон раней за мяне выбухнуў плачам і падняўся са свайго месца. Апольлёдорос, які і так ужо плакаў увесь час, цяпер пачаў плакаць з гэткім адчаем і лямантаваць, што ён прыгнобліў кажнага з нас, апрача Сакратаса. Ён толькі сказаў:

— Ну, што вы, дзіўныя людзі! Я-ж затым і выправіў

адсюль жанчын, каб яны не зрабілі падобнага гледзішча, — бо-ж вучылі мяне, што чалавек павінен паміраць у поўным пашаны супакою. Супынеце ваш плач і сьціхніце!

Чуючы гэта, мы засароміліся і спынілі плач.

Сакратас хадзіў да часу, калі ён сказаў, што ягоныя ногі пачынаюць цяжэць, і лёг на сьпіну гэтак, як казаў яму чалавек. Калі Сакратас лёг, гэты самы чалавек, які даў яму атруту, агледзеў угоныя ступені і голені, і пачакаўшы крыху, ўчыніў гэта яшчэ раз. Пасьля, сьціскаючы моцна ягоную ступеню, запытаўся, ці чуе ён. Сакратас адказваў, што ня чуе. Пасьля гэтага ён зноў дакрануўся да ягоных голеняў і, паступова, праводзячы рукою вышэй і вышэй, паказваў нам, як цела халадзее і штыўнее. Цяпер зноў дакрануўся ён апошні раз і сказаў, што, калі холад наблізіцца да сэрца, ён адыйдзе. Холад дайшоў ужо да жывата, і тут Сакратас раскрыўся — ён ляжаў закрыўшыся, і сказаў — гэта былі ягоныя апошнія словы:

— Крытон, мы вінаватыя пеўня Асклепіёсу. Аддайце-ж, не забудзьце.

— Абавязкава гэта ўчынім, — адказаў Крытон. — Ці ня маеш яшчэ што-небудзь сказаць?

Але на гэтае пытаньне ўжо ня было адказу. Пасьля кароткага часу ён судрыгнуўся, і чалавек адкрыў ягоны твар: позірк ягоны затрымаўся. Крытон, бачучы гэта, закрыў яму рот і вочы.

Гэтакі, Эхэкратас, быў канец нашага сябры, чалавека, — адносна якога мы можам праўдзіва сказаць, — самага найлепшага з усіх людзей ягонага часу, якіх нам давялося пазнаць, — дый, запраўды, самага мудрага, добрага і самага справядлівага.

Бач. 35. ...*стацца сатырыгным паэтам*... Тут Сакратас мае на ўвазе атэнскага сцэнічнага пісьменьніка, Арыстофанэса (448?—380?)*), які ўвайшоў у гісторыю літаратуры як адзін зь ведамых пісьменьнікаў сатырычнага жанру. У сваім сатырычным творы п.т. „Воблакі" (423), Арыстофанэс прадстаўляе Сакратаса ў камічным сьветле і перасьцерагае дзяржаву-места перад шкоднасьцю пранікаючага досьледу філёзафа ў галіне агульна прынятых дзяржаваю маральных і духовых вартасьцяў. — (Грэцкі ассэісты і áўтар лічных біяграфічных працаў, Плютарх (46—120 н.э.), характэрызуючы Арыстофанэса, як пісьменьніка, сярод іншага, кажа: „Мова Арыстофанэса выяўляе сваё мізэрнае знахарства; яна пабудавана на найболей нізкай і найболей гнуснай ігры словаў... Арыстофанэсавая араганцыя ёсьць нязноснай і ўсе добрыя людзі чуюць абрыдласьць да ягонае зласьлівасьці". — Францускі пісьменьнік і філёзаф XVIII стагодзьдзя, Вольтэр, назваўшы Арыстофанэса штукаром, пра апошняга кажа: „Ён выдаецца мне значна ніжэйшым, чымся Плютарх нам прадстаўляе яго").

Бач. 37. ... *атрымлíваю плату*... Факт атрымліваньня ці неатрымліваньня платы за навуку тварыў, сярод іншага, разьмежаваньне паміж філёзафамі і сафістымі. Філёзафы ня бралі абавязкавае платы за навуку, тады як сафістыя былі *платнымі* вандроўнымі прасьветнікамі старажытнае Грэцыі (паміж V і пачаткам IV стагодзьдзяў). Сафістыя тварылі сабою свайго

*) Пададзеныя даты, без азначэньня эры, адносяцца да перадхрысьціянскага часу аблічэньня.

роду клясу людзей, якія выкладалі рэторыку, філязофію, палітыку і якія, дзякуючы ўжываньню імі вострага і часта памылкавага разважаньня, сьцягнулі на сябе агульную нянавісьць і пагарду людзей. Сакратас, Плятон і Арыстотэлес называлі сафістага „чалавекам, які зарабляе грошы пры помачы хлусьлівае мудрасьці“.

Бач. 37. ... *Горґіяс зь Леантыну* ... Грэцкі сафісты (485—380?), быў ведамым жыхаром Атэнаў болей з прычыны сілы свайго красамоўства. Першы раз у Атэны Ґорґіяс прыбыў у 427 г., калі ён, як пасол свайго места, Леантыну, на Сыцыліі, шукаў помачы атэнцаў супроць пагрозы з Сыракузаў. Пасьля гэтага ён асяліўся ў Атэнах, практыкуючы і выкладаючы рэторыку.

Бач. 37. ... *Кальліяс* ... багаты і марнатраўны сын Гіппонікоса, ведамы перадусім з дыялёгу „Протагорас“, дзе ён выступае ў ролі гаспадара дому.

Бач. 37. ... *пяць мінаў* ... Міна — грашовая (і вагавая) адзінка ў Бабілёніі, Грэцыі і іншых краінах старажытнага сьвету. У Грэцыі адна міна раўнялася 100 драхмам. Сягоньня вартасьць міны мала ведамая; рознымі знаўцамі яна расцэньваецца паміж 35 і 100 далярамі.

Бач. 39. ... *адважыўся паставіць аракулу гэткае пытаньне* ... Аракул у народаў старажытнага Ўсходу, як і старажытных грэкаў і рымлянаў — адказ бога вуснамі адумыснае асобы (Пытыя) на стаўленыя пытаньні, зьвязаныя з мінулымі, сучаснымі або прышлымі выдарэньнямі.

Бач. 39. ... *Пытыя* ... У грэцкай старажытнасьці сьвятарка ў сьвятыні Апольлёна ў Дэльфах. Адносна яе ўтрылівалася пераканаваньне, што яна знаходзіцца ў лучнасьці з богам і выпавядае прадказваньні аракулу.

Бач. 39. ... *прыгожага і добрага* ... Ідэя, выражаная ў словах *прыгожы і добры,* зіхацістым праменьнем адбівае навуку Сакратаса. Стацца прыгожым і добрым —

гэта тая мэта, да якое імкнуцца павінен чалавек. Навука гэтая ў Сакратаса выражаецца словам *калёкаґацыя,* і слова гэтае ўзьнікла з грэцкіх словаў: καλός (прыгожы), καί ἀγαθός (добры), з гэтуль — καλοκἀγαθία — як шляхэтнасьць, дабрыня, прыгожасьць, узятыя разам. Памятаньне гэтага зьяўляецца зарукаю лепшага зразуменьня думкі і ідэяў, выражаных Сакратасам і Плятонам.

Ба. 40. ...*меў уласных гаротнікаў*... Алюзыя да Гэркулеса або Гэраклеса, які, паводля грэцкае міталёгіі, вандруючы, выканаў 12 г. зв. „працаў Гэркулеса" і меў сваіх працаўнікоў-памагатых.

Бач. 40. ...*дытырамбаў*... У старажытнай Грэцыі першапачаткава дытырамб быў вершам або гымнам на чэсьць Бахуса (Бакхуса), пазьней на чэсьць іншых багоў. З часам дытырамб стаўся вершатворам, у якім перабольшана і ў натапыраным стылю ўрачыста выхвалялася пераважна нейкая багатая і ўплывовая асоба. Сяго́ньня іранічна кажацца: „пяяць дытырамбы".

Бач. 43. ...*у новыя духовыя рэгы*... У арыгінале: δαιμόνια καινά. Словам *дэман* у старажытных грэкаў абазначалася бажаство, дух.

Бач. 46. ...*каб нехта ўзяў яго на сторану прыватна і павугыў яго і дакарыў*... У эвангельлі паводля Мацьвея (18:15) чытаем: „Калі-ж саграшыць проці цябе брат твой, пайдзі і дакары яго між табою і ім адным; калі паслухаецца цябе, дык ты здабыў брата твайго..."

Бач. 46. ...*для мяне і для прысутных*... на паседжаньні атэнскага суду дапушчаліся наведвальнікі.

Бач. 47. ...— *Ці Анаксаґорас знаходзіцца перад табою,*... Анаксаґорас, слаўны філёзаф з Клязомэны (500?—428), прыблізна ў гадох 480—450 жыў у Атэнах. Ён быў прадстаўніком г.зв. Іёнскае школы. Ягоным галоўным укладам у філязофію быў пагляд на паходжаньне ўсіх рэчываў. Ён утрымліваў, што ўся ма-

тэрыя існавала першабытна ў умовах атаму або малекулаў. (Гр. τομός — падзельны, той, які дзеліцца, ἄ-τομος — непадзельны, — найменшая і непадзельная частка матэрыі, атам). Анаксаґорас выражаў пагляд, што гэтыя атамы бясконцыя ў сваей колькасьці і бязьмежна маленькія, існуюць ад пачатку самага быцьця, ад пачатку вечнасьці. Ён утрымліваў гэтаксама, што ўсе фізычныя целы дадзенае свомасьці сваімі атамамі быццам сшчапляюцца, творачы сабою, напрыклад, кусок золата, жалеза або медзі ... Ягоная дактрына адносна атаму падрыхтавала дарогу да атамнае тэорыі іншага грэцкага філёзафа, Дэмокрытоса. Анаксаґорас цьвердзіў, што Сонца зьяўляецца распаленаю каменнаю масаю, а Месяц — свайго роду зямлёю.

Бач. 47. ... *заплаціўшы ў архэстры* ... Адносна гэтага месца ў тэксьце, існуюць разыходжаньні. Паводля адных, мела гэта быць нешта падобнае да сучаснага кіёску на пляцы, званым Архэстраю на атэнскім рынку, дзе жадаючы за адносна малую плату мог набыць кніжку. Паводля іншых, месца гэтае адносілася да аркестры ў тэатры. У старажытных грэцкіх тэатрах частка сцэны, прадназначаная для хору ў грэцкай драме ў авальнай форме з сядзячымі месцамі, называлася архэстраю. У рымскім тэатры архэстраю было месца не на сцэне, але пераважна перад сцэнаю, якое часта займалі сэнатары і іншыя высокія госьці. — Агульны сэнс гэтага месца ў тэксьце гэтакі, што большыня жыхароў тагачасных Атэнаў мела магчымасьць запазнацца з навукаю вялікага Анаксаґораса.

Бач. 47. ... *адну драхму* ... Драхма — сярэбраная грашовая (і вагавая) адзінка старажытнае Грэцыі, маючая ў розных правінцыях і часе розную вартасьць. У сярэднім вартасьць аднае драхмы раўнялася вартасьці 65 сягоньняшнім ам. цэнтам.

Бач. 50. ... *Тэцісавы сын* ... Ахільлес.

Бач. 50. ...*Гэктора*... Гэктар — старшы сын Прыяма і Гэкубы, галоўны гярой траянцаў, забіты Ахільлесам.

Бач. 50. ...*пад Поцідай і Амфіполісам, і пад Дэліёнам,*... месцы трох бітваў, у якіх Сакратас прыймаў удзел.

Бач. 51. ...*ў доме Гадэсу*... Гадэс — месца, дзе прабываюць памершыя.

Бач. 51. ...*буду слухацца барджэй Бога, чымся вас,*... Гэтак, як апсталы казалі: „Тады Пётра ды [іншыя] апосталы адказалі і сказалі: Мы павінны барджэй слухацца Бога, чымся людзей“ (Дз.Сьв.Ап., 5:29).

Бач. 52. ...*ня турбавацца пра вашае цела або вашыя грошы*... У Нагорнай пропавядзі Хрыста чытаем: „Ня зьбірайце сабе скарбаў на зямлі, дзе моль і іржа нішчаць, ... але зьбірайце сабе скарбы на небе...“ (Мацьв. 6:19,20 і далей; Лук. 12:22 і наст.).

Бач. 54. ...*рáдзіць дзяржаве*... Атэны ў тым часе для жыхара гэтага места былі і местам і дзяржаваю.

Бач. ...*нешта боскае і духовае наведвае мяне*... Сакратас верыў, што ён знаходзіцца пад Божым кіраўніцтвам.

Бач. 55. ...*Здарылася, што племя, якое старшынствавала, было маё, Антыёхіс*... Тут маем да пэўнае ступені ўгляд у адміністрацыйнае жыцьцё тагачасных Атэнаў. Племя або філé (φῦλή), гэта адна з адміністрацыйных адзінак, на якія дзялілася ўсё свабоднае насельніцтва Атэнаў. Пачаткава плямёнаў было чатыры, а ў часе, аб якім гутарка, лік іх дайшоў да дзесяці. Сакратас належаў да племя Антыёхіс. Кажнае племя штогод, дарогаю кіданьня лёсаў, выбірала із сябе пяцьдзесят прадстаўнікоў-райцаў, што ў суме давала лік пяцісот чалавек, якія сабою тварылі іншае адміністрацыйнае цела, званае боўлé (βουλή), што адказвала-б нашай радзе або сэнату. Аднак стала і адначасна зьбіралася на па-

седжаньні толькі пяцьдзесят, што належалі да аднаго із дзесяці плямёнаў. Згэтуль, кажнае племя па чарзе старшынствавала на працягу трыццаці пяці або трыццаці шасьці дзён (адна дзесятая году) і выконвала абавязкі падобныя да абавязкаў экзэкутыўнага камітэту. Аднак найвышэйшая ўлада супачывала на народным зграмаджэньні, званым *экклезыя* (ἐκκλησία), што адказвала-б беларускаму веччу, на якім старшынствавалі зноў дзесяць выбраных „прэзыдэнтаў", званых прыта́намі (гр. πρυτανεία — старшынстваваньне, прэзыдэнцтва). Прытанам наагул называна кажнага, хто займаў якое-небудзь чароднае ўрадавае становішча. Адсюль гэтаксама выводзіцца слова *прытанэя,* як грамадзка-сацыяльная ўстанова і будынак.

Бач. 55. ... *усіх дзесяцёх стратэгаў разам...* Мова пра морскую бітву пад Арґінусайскімі вастравамі ў 406 г., у якой атэнцы атрымалі перамогу над спартанцамі. Аднак-жа пасьля бітвы стратэгі (гэнэралы) былі пастаўленыя перад судоваю адказнасьцю і шэсьць прысутных у Атэнах пакараныя сьмерцяю за тое, што не сабралі целаў жаўнераў атэнскіх і не ратавалі раненых, якія знаходзіліся на вадаплавах, хоць гэтаму перашкодзіла морская бура, што ўзьнялася хутка пасьля бітвы. Сутнасьць бясправаўнасьці суду, на што Сакратас зьвяртае ўвагу, заключалася ў тым, што: 1. справа стратэгаў была пераказана ня ў суд прысяжных, а ў агульнае зграмаджэньне і, што, 2. абвінавачаныя ня мелі судзіцца кажны асобна, а ўсе разам, як адно цела.

Бач. 55. ... *адзін із прытанаў супроцьставіўся вам...* Паводля Ксэнафонта — вучня Сакратаса — Сакратас адмовіўся ад пачацьця справы.

Бач. 55. ... *ўвайшла аліґархія, дык трыццаць тыранаў...* У старажытнай Грэцыі трыццаць тыранаў, якія захапілі ўладу ў Атэнах, адзначыліся абсалютным урадаваньнем і жорсткасьцю ў 404—403 гг. — Аліґархія

ў старажытнай Грэцыі — назоў ладу палітычнага, у якім улада супачывала ў руках невялікае групы людзей.

Бач. 55. ...*у ратонду*.. (θόλοσ). Круглы, купалаваты будынак, у якім стала зьбіралася пяцьдзесят сяброў пляменнага камітэту або прытаны. У гэтым самым гмаху адбываліся паседжаньні трыццацьцёх тыранаў, калі яны знаходзіліся пры ўладзе.

Бач. 55. ...*Лявонта Салямінгука*... У часе захопу ўлады трыццацю тыранамі Лявонт уцёк у сваё роднае места, Саляміс. Быў ён атэнскім стратэгам і багатым чалавекам, пакараны сьмерцяю ў часе дыктатуры Трыццацёх.

Бач. 56. ...*перад тымі, каго*... *называюць маімі вугнямі*... Сакратаса абвінавачвалі і ў тым, што ў ліку ягоных вучняў быў правадыр Трыццаці і здрадзіўшы Атэны — Алькібіядэс.

Бач. 57. ...*Крытон*... Жыхар Атэнаў і інтымны прыяцель Сакратаса. Ягоны сын Крытобулёс успамінаецца ў некалькіх Плятонавых дыялёгах. — Лізаніяс бацька Айсхінэса, а́ўтара лічных дыялёгаў. — Адэімантос зьяўляецца родным братам слаўнага а́ўтара дыялёгаў, Плятона, і абыдва яны зьяўляюцца сынамі Арыстона.

Бач. 57. ...*я не перашкаджаю і даю месца яму*... Высказваньні ці мову супроцьлежнае стараны ў судзе забаранялася перарываць. Для слова сторанам вызначалася аднолькавая колькасьць часу, які вымерваўся водным гадзіньнікам, званым кляпсыдраю.

Бач. 60. ...*перавага галасоў будзе гэтак малою*... Галасаваньне ў судзе адбывалася пры помачы апусканьня целаў у два зьмяшчальнікі, зь якіх адзін быў за *апраўданьне* і другі — за *абвінаваганьне*. Зьмяшчальнікі знаходзіліся на адумысным падвышэньні. Падлік галасоў, даконваны рознымі аўтарытэтамі, наагул, разыходзіцца. Існуе агульнае перакананьне, што тэкст у гэтым

месцы зь бегам часу займеў зьначаньне.

Бач. 60. ...*якую-ж ка́ру павінен я прапанаваць*... Калі суд прызнаў Сакратаса вінаватым, тады, паводля права, Сакратас павінен запрапанаваць самому сабе ка́ру, ведама, меншую ад тае, якую прапанаваў абвінавацель. Судзьдзі самыя ка́ры не вызначалі, але выбіралі паміж дзьвюма прапанаванымі.

Бач. 61. ...*галавек павінен быць узятым у прытанэю*... Прытанэя (πρυτανεῖον) — гэта грамадзкі будынак у месьце старажытнае Грэцыі. Асабліва ведамай была прытанэя ў Атэнах, якая памяшчалася ў засягу Акраполісу (цытадэлі). Тут прыймаліся ганаровыя госьці, як замежныя амбасадары або свае паслы, асабліва пасьля памыснага выкананьня даручаных задачаў за мяжою. Да выбраных гасьцей належалі гэтаксама пераможнікі на алімпійскіх спаборніцтвах. Прытаны, як і іншыя людзі, якія карысталіся прывілегіяю, прыймалі стравы на кошт дзяржавы.Для грамадзяніна быў высокі гонар, быць ушанаваным удзелам спажыцьця пры гарадзкіх сталох.

Бач. 62. ...*права, як іншыя людзі маюць,*... Тут Сакратас, як і Плятон, маюць на ўвазе спартанцаў.

Бач. 62. ...*адзінаццаці ўраднікаў*... У Атэнах кажны год выбіралася адзінаццаць ураднікаў, задачаю якіх было трымаць надзор над вастрогамі і выкананьнямі судовых пастановаў.

Бач. 67. ...*сам вялікі кароль*... — пэрскі кароль.

## КРЫТОН

Бач. 73. ...*Крытон?*... Гл. інтэрпрэтацыю да „Абароны Сакратаса“, бач. 57.

Бач. 74. ...*Ці не надыйшоў ужо вадаплаў з Дэлёс, з прыбыцьцем якога я ма́ю памерці?*... Пра гэты вада-

плаў у іншым сваім дыялёгу, „Файдон“, Плятон гаворыць наступнае: „Паводля слоў атэнцаў, гэта быў той самы вадаплаў, на якім аднойчы Тэсэус адплыў на Крэту разам з ведамымі „двойчы сем“, ўратаваў іх і сам ўратаваўся. Жыхары Атэнаў, як кажа пераказ, з гэтае прычыны далі зарок Апольлёну: калі ўсе ўратуюцца, яны будуць штогод высылаць на Дэлёс выправу пасьвяты. З гэтае пары кажны год аж па сягоньня яны выконваюць свой зарок. З гэтага мамэнту, калі выправа пачалася, права наказвае, што ўвесь час, пакуль вадаплаў ня прыбудзе на Дэлёс і ня вернецца назад, места будзе перасьцерагаць чысьціню і выкананьні ка́раў засуджаных на сьмерць будуць спынены. А плаваньне часта трывала даўжэйшы час, асабліва тады, калі дзьмулі супраціўныя вятры. Пачаткам выправы пасьвяты лічыцца дзень, калі сьвятар Апольлёна ўскладзе вянок на стырно вадаплаву. І гэта здарылася на пярэдадні суду [над Сакратасам] ... Гэтаю прычынаю і паясьняецца, чаму Сакратас прабыў гэтак доўга ў вастрозе паміж днём засуджэньня і сьмерцяю“. — *„Двойчы сем“:* — Паводля грэцкае міталёгіі, жыхары Атэнаў з прычыны свайго праступку кажны дзявяты год пасылалі каралю на Крэту сем юнакоў і сем дзяўчат, якія аддаваліся там на пажраньне Мінотаўру — страшыдлу ў выглядзе людзкога цела з валоваю галавою. Тэсэус у змаганьні з Мінотаўрам забіў апошняга, ратуючы гэтым сем юнакоў і сем юначак і самога сябе.

Бач. 74. ...*„На трэйці дзень ..“* Цытата з „Іліяды“.

Бач. 76. ...*Сімміяс Тэбанскі* ... Прыяцель і вучань Сакратаса. *Кэбэс* гэтаксама паходзіў з Тэбаў і быў вучням Сакратаса.

Бач. 83. ...*не аддаваць злом за зло,* ... У эвангельлі: Вы чулі, што сказана: вока за вока і зуб за зуб. А Я вам кажу: не праціўцеся злому ... (Мацьв. 5:38-39).

Бач. 86. ...*працэдуру месных рэгістраў* ... Гэта бы-

ло дакладнае, з пункту гледжаньня грамадзка-праўнага, афіцыяльнае спраўджваньне, якому паддаваўся кажны жыхар Атэнаў, перад тым, як займаў якое-небудзь урадавае становішча.

Бач. 88. ... *Лякедаймон* ... Спарта.

## ФАЙДОН

Бач. 93. ... *Файдон* ... Тытул дыялёгу выводзіцца ад імя ўласнага — Файдон — грэцкага філёзафа з Эліс, вучня Сакратаса і закладчыка філязафічнае школы.

Бач. 93. ... *Эхэкратас* ... прыяцель Сакратаса.

Бач. 93. ... *Фліюсу* ... Фліюс — малое места недалёка ад Атэнаў.

Бач. 93. ... *прыгавор выдадзены быў даўно, а памер ён шмат гасу пасьля гэтага* ... У міжчасе мінуў адзін месяц.

Бач. 94. ... *гэта быў той самы вадаплаў* ... і г.д. Гл. інтэрпрэтацыю да „Крытона“, бач. 74.

Бач. 94. ... *выправу пасьвяты* ... Выправа пасьвяты або тэорыя (θεωρία — гледжаньне, утрымліваньне, перасьцераганьне) адбывалася вельмі ўрачыста са складаньнем ахвяраў і зваротам да аракулу.

Бач. 95. ... *Із тамтэйшых грамадзян* ... З усіх вылічаных найболей ведамым быў Антыстэнэс (444—368), Сакратасавы сябра і заснавальнік філязафічнае школы кінікаў (ад Κῦνόσαργης) ведамых гэтаксама, як цынікаў. — Крытон, жыхар Атэнаў, імем каторага названы адзін з дыялёгаў Плятона, інтымны сябра Сакратаса. — Апольлёдорос меней ведамы прыгожы малады чалавек, гарачы староньнік Сакратаса. — Крытобулёс, атэнец і вучань Сакратасавы. — Гэрмоґэнэс, атэнец і прыяцель Сакратасавы. — Эпіґэнэс , сын Антыфона, прыяцель Сакратасавы. — Айсхінэс, вучань і прыяцель Са-

кратасавы, (якога ня трэба ўтоесамліваць з аднаімень-нікам камандзерам грэцкіх лёгка ўзброенных аддзе-лаў). — Ктэсіппос, жыхар Атэнаў і прыяцель Сакрата-савы гэтаксама, як і Мэнэксэнос. Сімміяс і Кэбэс родам з Тэбаў, места аддаленага на паўночны захад ад Атэ-наў і абыдвое студэнты Сакратаса; Сімміяс — áўтар не-калькіх працаў з галіны этыкі. — Арыстыппос (5—4 стст.) паходзіў з Кірэны, места, паложанага ў паўноч-най Афрыцы. У маладых гадох вучань Сакратаса, пазь-ней у сваім родным месьце заклаў школу з напрамкам гэдоністычнае філязофіі. Пасьля сьмерці Сакратаса даў-жэйшы час жыў на Сыцыліі. — Клеомбротос вучань Сакратаса.

Бач. 96. ... *на Айґіне*... Айґіна або Эґіна — невялі-кая абтока ў заліве паміж Аттыкаю і Арґолідаю.

Бач. 96. ... *Ксантыппа*... жонка Сакратаса. Карот-кая канвэрсацыя паміж Антыстэнасам і Сакратасам, якую падáе нам у „Банкеце“ Ксэнофонт і якая мела месца ў часе прыняцьця ў доме багатага Кальліяса, Гіп-понікосавага сына, зьяўляецца вымоўнай у прадмеце пазнаньня характару Ксантыппы. У часе пышнага бан-кету, калі маладая артыстка мастацкім танцам цешыла дастойных гасьцей, Сакратас, захоплены прыгожым вы-кананьнем, заўважыў:

— Як са шматлікіх іншых рэчаў, дарагія прыяцелі, гэтак і з паказу, які выконвае дзяўчына, выразна вы-нікае, што род жаночы ў ніякім выпадку не зьяўляецца меней уздольнены, чымся мужчынскі, з тою хіба розьні-цаю, што жанчыне не хапае толькі такой паважнасьці розуму і сілы, якую праяўляюць мужчыны. Затым, калі хто-небудзь з вас мае жонку, няхай ня губіць надзеі, але вучыць яе ўсяго, што хоча, каб сталася для яго мудраю сяброўкаю.

На гэта адказаў яму Антыстэнэс:

— Калі вось так разумееш ты гэтую справу, чаму-ж

ты сам, Сакратас, не ўзгадоўваеш сваe Ксантыппы, але жывеш сабе з гэткаю жанчынаю з усіх, якія толькі былі, ёсьць або будуць, найболей нязноснаю?

— Таму, — адказаў Сакратас, — бо бачу, што падобна паступаюць тыя, што хочуць стацца найболей ведамымі яздакамі — набываюць коней ня гэткіх, што найлягчэй уежджваюцца, але найболей наравістых і дзікіх. Бо думаюць яны, што, калі патрапяць уесьдзіць гэтакіх аргамакаў, тады зь лёгкасьцю будуць карыстацца іншымі. Гэтаксама і я, хочучы жыць і падтрымліваць зь людзьмі добрыя суадносіны, гэтакую ўзяў сабе за жонку жанчыну, бо добра ведаў я, што, калі патраплю вытрымаць зь ёю, здабуду сабе гэткае дасьведчаньне, якое лёгка пазволіць мне сужыцьцё зь іншымі людзьмі.

Бач. 97. ...*Эўэнос*... імя двух элегійных паэтаў з Паросу, адзін зь якіх, паводля старога і непацьверджанага пераказу, меўся быць вучыцелям Сакратаса ў прадмеце вершаваньня.

Бач. 97. ...*Айзопос*... ведамы гэтаксама як Эзоп, слаўны антычны грэцкі пісьменьнік казак, вершаваных твораў і басьняў. Жыў прыблізна ў 620—560 гг. Вестка пра яго кажа, што быў ён асвабоджаным нявольнікам з Фрыґіі. Імя ягонае вяжацца з найлепшымі казкамі і басьнямі, якія дарогаю вуснага і пісанага пераказу сталіся ўласнасьцю лічных народаў і твораць сабою шырака чытаную літаратуру. Для прыкладу, францускі мастак, Ґрэндвіль у XIX стагодзьдзі, нарысаваў ілюстрацыю да аднае зь ягоных казак, якае ма́е наступны тытул і зьмест: Воўк і Журавель. Воўк прыракае жураўлю ўзнагароду, калі апошні выцягне з воўчага горла костку. Калі журавель пасьля намаганьняў выцягнуў костку і спадзяваўся заслужанае нагароды, воўк зласьліва сказаў яму: „Цяперака ты можаш цешыцца, што, усунуўшы сваю галаву ў маю пашчу, я не адгрыз табе яе“. Многія пісьменьнікі ў розным часе пераймалі яго.

Бач. 98. ... *„Сакратас, вазьміся за працу і твары музыку!"* Грэцкае слова μοῦσα, якое дало беларускі роўназначнік — *муза,* зьяўляецца тым карэньнем, зь якога выплываюць тры іншыя словы з шырокім засягам значэньняў, пайменна: *музэй, мýзыка музыка.* — У міталёгіі грэцкай муза — гэта багіня і апякунка навукі і мастацтва. Грэкі ведалі дзевяць музаў: Кальліёпэ — прыгожы голас, або муза мастацкага слова, у першую чаргу паэзыі і рэторыкі; Кліё — муза гісторыі; Эўтэрпэ —лірычнае паэзыі; Талія — муза камэдыі; Мэльпомэнэ — муза трагэдыі; Тэрпсыхорэ — муза танцавальнага мастацтва; Эрато — муза паэзыі каханьня; Полімнія або Поліґімнія — муза харальнае або сакральнае песьні і гармоніі, і Ўранія — муза астраноміі. Улюбёным месцам прабываньня музаў была гара Гэлікон (у Бэотыі) і ў ваколіцы гары Парнасос, ведамай у нас як Парнас, пад кіраўніцтвам і апекаю Апольлёна — бога сонца, апякуна мастацтва і прадказаньня, званы гэтаксама Фэбам або Зіяючым. — Музэй, гр. μουσεῖον — гэта сьвятыня музаў або месца, у якім музы найахвотней прабываюць, а з гэтуль — школа мастацтва і навукі, а далей і наяўнасьць *аб'ектаў,* як рэзультат мастацтва і навукі. Мýзыка або з гр. μουσική (τέχνη — выкананьне са здольнасьцю) — азначала кажнае мастацтва, якім апекаваліся музы, і ў апрычонасьці мастацтва, якога рэзультатам зьяўляюцца прыгожыя гукі. Мýзыка была адной з трох галінаў адукацыі атэнцаў. Дзьве іншыя былі: γράμματα — элемэнтарная веда і γυμναστική — гімнастыка. Згэтуль — музыка, гр. μουσικός — гэта чалавек з закончанаю адукацыяю, навуковец, эрудыта.

Бач. 111. ... *многа галіну нясуґых, але мала адухоўленых* ... Аналягічную думку знаходзім: Мацьв. 20:16.

Бач. 144. ... *як арґэйцы* ... арґэец — часта ўжыванае Гомэрам імя для грэкаў.

Бач. 153. ... *Тэбанская Гармонія* ... Некаторыя ста-

ражытныя камэнтатары ўкладаюць містычную інтэрпрэтацыю ў пасус, які барждждэй нагадвае сабою ігру словаў са стараны Сакратаса: Сімміяс áўтар пагляду адносна душы як гармоніі і Кэбэс абыдвое з Тэбаў. Называючы гіранічна Сімміясавы пагляд аб гармоніі тэбанскаю гармоніяю, Сакратас гэтым рабіць алюзыю да міталягічнае каралевы і жонкі Кадмоса, каторая гэтаксама называлася Гармоніяю (Ἁρμονία). — Кадмос (Κάδμος) у грэцкай міталёгіі сын Фэніцкага караля Аґэнора, брат Эўропы і паводля традыцыі ўважаецца за закладчыка места Тэбаў. Паводля старога пераказу Кадмос, у захаваньні паслухмянасьці перад аракулам у Дэльфах, сьледаваў за кароваю з Фосіс у Бэотыю. На месцы, дзе карова лягла супачыць, Кадмос залажыў Тэбы. Пераказ гэтаксама гаворыць, што гэта быў Кадмос, каторы прынёс з Фэніцыі старую грэцкую абэцэду з шаснаццаці літараў, якая згэтуль выводзіць свой назоў *кадмускае абэцэды* (гр. Καδμήϊα γράμματα). Абэцэда гэтая пасьля была пабольшаная васьмю іёнскімі літарамі: η ω θ φ χ ζ ξ Ψ.

Бач. 160. ... *Атляс* ... Атлясам, паводля грэцкае міталёгіі, называўся адзін з багоў, які, як кáру за бунт супроць Зэуса, трымае скляпеньне нябёсаў або, паводля іншых пераказаў, зямлю на сваіх руках і плячох. Сэнс гэтага месца ў тэксьце такі, што існуе сільнейшы Атляс і болей боскі, чымся ведамы Атляс, і Ён утрымлівае сусьвет. — — Паводля гэтых самых жаролаў месца прабываньня Атлясу знаходзілася далёка ад грэцкага сьвету за даляглядам на захад. — Гр. Ἄτλας, αντας вядзе нас гэтаксама да паняцьцяў Атлянта, Атлянтіс. Паводля сівое традыцыі антычнага сьвету Атлянтісам або Атлянтай называлася вялізарная зямля, паложаная там недзе ў цэнтры гэаграфічнага разьмяшчэньня, дзе сягоньня знаходзіцца Атлянтычны акіян. Першы запісаны ўспамін пра Атлянту знаходзім у Плятона, але сам запіс (ка-

лі гэткі існаваў), з каторага чэрпаў Плятон, не захаваўся да нашага часу. Паводля гэтага пераказу Атлянту засялялі людзі, званыя атлянтамі з цьвітучаю цывілізацыяю. Плятонавае апісаньне носіць гіпотэтычны характар. Аднак традыцыя думкі аб існаваньні калісьці кантынэнту і цывілізаваных людзей, засяляючых яго, падтрымліваецца да сягоньня лічнымі навукоўцамі. Вельмі магчыма, што далейшы поступ акіянаґрафіі, ґэалёгіі і навук тэхналягічных прывядуць да адказу адносна лягэнды пра Атлянту і яе жыхароў.

Бач. 160. ... *у запраўднасьці ўсё зьвязваецца і ўтрымліваецца дабром* ... — τὸ ἀγαθὸν καὶ δέον. Тут, як і ў іншых сваіх творах, Плятон, чынячы τὸ ἀγαθὸν прынцыпам усякага існаваньня, зьвяртае ўвагу, што кажная рэч існуе ў гэткай прапорцыі, у якой яна дасканалай ёсьць. Выражаная тут думка дабра́, вядзе нас да таго, што́ ап. Ян у сваім Першым пасланьні (4:8) кажа: ὁ δεὸς ἀγάπη ἐστίν.

Бач. 175. ... *Тэлефос у Айсхілеса* ... Тэлефос — гярой Айсхілесавае трагэдыі п.т. „Тэлефос“ (Τήλεφος).

Бач. 176. ... *нават здольнасьць Гляўкоса* ... Выражэньне з імем Гляўкоса ўжывалася праўдападобна ў выслоўі. Сэнс гэтага месца: пераказаць нешта — гэта адна рэч, а давесьці пераказанае нават здольнасьць Гляўкоса не патрапіць (οὐχὶ Γλαύκου τέχνη).

Бач. 176. ... *ад Фасісу да Гэраклесавых Слупоў* ... Фасісам старажытныя грэкі называлі раку Рыён, а Гэраклесавымі Слупамі сягоньняшні Гібральтарскі праліў. Паводля грэцкае міталёгіі гэта быў Гэраклес, які рассунуў скалы, што злучалі паўдзённую Гішпанію з паўночнаю Афрыкаю. Граніцы ведамага грэкам сьвету распасьціраліся паміж Фасісам і Гэраклесавымі Слупамі.

Бач. 176. ... *нашае мора* ... Сяродземнае мора.

Бач. 178. ... *сардоніксы, іасьпісы і смарагды* ... Дарагацэнныя каменьні: сардонікс, іасьпіс і смарагд —

σαρδόνιξ, ἰασπίς καί σμάραγδος.

Бач. 181. ...*называецца яна Акіянам*... (ὠκεανὸς ποταμόσ). — Паводля грэцкае міталёгіі Ὠκεανός — сын Урана і Гэі, жарало ўсіх меншых водаў. Паводля Гомэра, Акіян, які ахопліваў усю зямлю, быў вялікаю ракою.

Бач. 183. ...*яны ўздымаюць свае галасы і клічуць*... Аналягічную думку спатыкаем у эвангельскай прыповесьці пра багатага чалавека і беднага Лазара (Лук., 16:19-31).

Бач. 189. ...*мы вінаватыя пеўня Асклепіёсу*... Асклепіёс бог і апякун мэдычнага мастацтва, якому звычайна, пасьля выздараўленьня выражалася ўдзячнасьць ахвяраю. Сэнс просьбы Сакратасавае ў тым, што і ён хоча выразіць падзяку за памыснае перасяленьне з жыцьцёвае рэчаіснасьці ў іншы і лепшы сьвет.

...

[Узяты ў клямры пасус на бач. 119, перанесены з грэцкага тэксту, дзе ён выяўляецца як няўносячы істотнае ў канвэрсацыю].

# ГРЭЦКАЯ АБЭЦЭДА

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| α | Α | Альфа | (а) | ν | Ν | Ну | (н) |
| ϐ | Β | Бэта | (б) | ξ | Ξ | Ксі | (кс) |
| γ | Γ | Ґамма | (ґ) | ο | Ο | Омікрон | (о) |
| δ | Δ | Дэльта | (д) | π | Π | Пі | (п) |
| ε | Ε | Эпсілён | (э,е) | ρ | Ρ | Ро | р) |
| ζ | Ζ | Дзэта | (дз) | σ або ς | Σ | Сіґма | (с) |
| η | Η | Эта | (э,е) | τ | Τ | Таў | (т) |
| θ | Θ | Тэта | (т) | υ | Υ | Іпсілён | (у) |
| ι | Ι | Іёта | (і) | φ | Φ | Фі | (ф) |
| κ | Κ | Каппа | (к) | χ | Χ | Хі | (х) |
| λ | Λ | Лямбда | (л) | ψ | Ψ | Псі | (пс) |
| μ | Μ | Му | (м) | ω | Ω | Омэґа | (о) |

# ЭРРАТА

| Бачына | радок зьверху | радок зьнізу | павінна быць | ёсьць |
|---|---|---|---|---|
| 14 | 10 | 11 | Плятонавае | Платонавае |
| 15 | 21 | | на стоікаў, | на стоікаў |
| 19 | 14 | | іёнскіх | іонскіх |
| 41 | | 6 | дасьледую ў | дасьледую ў ін- |
| 63 | | 7 | грамадзяне, | крамадзяне, |
| 89 | 2 | | Тэбы | Тэбэс |
| 93 | | 9 | мусіць, | мусіць |
| 148 | 11 | | — сказаў Кэбэс, — | — сказаў, — Кэбэс, — |
| 148 | 16 | | Тады | — Тады |
| 151 | 2 | | зрабалі мы | зрабілімы |
| 155 | 12 | | карысным | карысым |
| 178 | 10 | | Хварбы | Фварбы |
| 176 | | 16 | ёмішча | ёмашча |
| 178 | | 12 | ў васяродзьдзі | ўвасяродзьдзі |
| 178 | | 14 | пра | пры |